Мёртвы, халодны стук...
Блытаніна дратоў.
Вагоны мільгаюць,
Абыякавы ляск,
Агні, агні.
Пасажыры ў вокнах
Сябе разглядаюць:
Больш нікога ў жыцці не бачаць яны.
Дратоў блытаніна.
Вагоны.
Вагоны.
Часам нейкі далёкі вой...
Дзе ж ты, дзе ты, зямля зялёная
З белаю-белаю песняй сваёй?

III

Уначы плыве папяросны дым,
Я сам-насам з кяліхам віна.
Ў мяне размова мужчынская з тым,
Каго кахае яна.
— Сигареты?
— Дзякуй, куру «Беламор».
— А в Минске?
— «Нёман» куру.
— Закуры маіх.
— Закури моих.
— Дзякуй.
— Благодарю.
— Прости мне, братец.
— Даруй мне, браток.
— Крепкий.
— Дый твой не трава.
Каб ты спазніўся на пару год,
Я б цябе не пашкадаваў,
Як ты мяне. І значыць, язык
Мне замкнуць і цягаць з сабой.
— А я, ты знаешь, просто привык,
Что она всегда со мной.

— Чуеш, не смей,
Ты аб гэтым — не смей,
Ты проста кахай і жыві.
Ніхто на свеце,
Дальбог,
Ніхто
Не варты большай любві.
Кахай яе,
Да скону кахай,
І ў радасці і ў журбе.
Калі ты паспрабуеш яе не кахаць,
Я проста заб'ю цябе.
— Как же тебе?
— Пражыву адзін.
Але помні:
Кахай і маўчы.
Нельга крыўдзіць рускіх жанчын.
— А белорусских мужчин?
— А мы такія ж, як на Русі:
П'ём гарэлку і лаемся ўсмак.
І любім цягнуць, і любім касіць.
І любім працу.
Так.
І верым сэрцу свайму ўвесь час,
І любім кахання дары.
І калі пакрыўдзяць каханыя нас,—
Мы з хвалою ідзём на крыж:
Ave, Regina,
Ззяй між людзьмі
Тысячы тысяч вякоў,
Ave, родная,
На, вазьмі,
Гэта самы моцны з цвікоў.

IV

Ноч прыйшла на змену гэтаму дню.
Я ў пакоі ўседзець не мог.
Ззянне неонавага агню.

Плошча.
Канец дарог.
— А мы такія ж, як на Русі.
Як сказаць мне хапіла сіл?
Я мог табе і ёй нахлусіць,
Але ночы нельга хлусіць.
Маўчы.
Маўчы хоць тысячу год.
Чуеце?
Я маўчу.
Я пальчатку разам з суставамі — ў рот,
Каб брэху ніхто не пачуў.
На плошчы ціха ўмірае крок.
Нікога ім не кранеш.
І слёз няма, і ў глотцы камок,
І лепей памерці мне.
Я стаю каля цяжкіх тваіх дзвярэй.
Я хаджу пад цёмным акном.
І вось у аблогу мяне бярэ
Садовае кола агнём.
Падступае бліжэй, і бліжэй, і бліжэй:
«Мы сябры, павер нам, павер.
Здавайся!
Чуеш, здавайся нам...
Тысячам цёплых кватэр.
— Я не горшая, вер,
Пабудзь са мной...»
— Пакіньце!
Таму, што мяне
Цягне акно хаты адной.
І цемра ў гэтым акне.

V

На бронзе адбітак агню залаты.
Вецер пяе і пяе.
Я, кажуць, ростам амаль як ты,
І вочы амаль як твае.
Мы з табою на плошчы гэтай адны,

Дай, руку тваю мякка вазьму.
Мы крылы спалілі ў адным агні,
Толькі розныя назвы яму,
Уладзімір, чуеш?
Хадзем са мной,
Вып’ем шклянку віна.
Не ў шалмане,
Што тут, за тваёй спіной.
Тут можа прыйсці яна.
З плячэй, што аплакаў сваёй тугой,
Паліто бязважкае скінь.
І мужчынскія рукі пагладзяць яго,
Чужыя рукі пагладзяць яго,
І іншым стане «Пекін».
І стане іншай,— як майскі вянок,—
Зала, дзе лыжкі бяруць,
Дзе ў вочы глядзяць, дзе жлукцяць віно,
Дзе галатурый жаруць.
Зала заграznула ў ліпкім віне,
Але тут узнясецца да зор...
Як мне цяжка, мой родны, як цяжка мне.
Лепей бы я памёр!
Цяжка табе, а мне — ўдвая,
Таму і прыйшоў. І стаю.
Тваю гісторыю ведаю я,
Паслухай лепей маю.

VI

У атамны век, у пластмасавы век,
Век нянавісці і любві,
Жыў сабе на зямлі чалавек,—
Не з пластмасы, а з плоці й крыві.
Лічылі паэтам.
У ранг узвялі.
Ён жыў.
Спрабаваў пісаць.
І ён пакахаў, як на гэтай зямлі
Не кожны ўмее кахаць.

І была яна, хай далёка не першая.
І сонца агонь яе залаціў.
Многа вершаў, дурацкіх вершаў
Добрай гэтай паэт прысвяціў.
Ён з ёю плыў за сіняе мора,
Ў глыбіні вякоў накіроўваў свой спеў.
І нават пад зоры, чыстыя зоры,
Не ўмеючы лётаць, з ёю ляцеў,
Прыпомніўшы вочы, шэрыя, сінія,
Ён змяць не мог бы нават травы.
Ён за яе пад скаламі гінуў,
Стократна мёртвы і зноў жывы.
Людзі, людзі, розныя людзі,
Пачуйце глухія словы мае:
Нічога, нічога такога не будзе.
Будуць зоры — не будзе яе.
Другу жанчына сказала: «Канец».
Ён доўга моўчкі сядзеў
І сказаў: «Не хочаш глядзець на мяне?
На партрэты будзеш глядзець».
Ён сказаў — а мяне забівае туга,
Памерлі песні мае,
І сэрца, як птушка у мокрых снягах,
Зламанымі крыламі б’е.
За сонцам ляцеў праз дождж і буран,
За сонцам імкнуў свой бег,
За сонцам.
А сонца спавіў туман
І мокры завеяў снег.
Бронзавы мой, заснежаны, белы.
Зноў да мяне самота прыйшла.
Ў снежны,
Ў чорны мой панядзелак.
Кастрычніка, дванаццатага чысла.

## VII

Ўспамінаю мой цёплы дом,
Думак халодны пажар

І над пісьмовым сталом
Сіксцінскай Марыі твар.
Да цябе, да цябе адной
Палёт маіх зблытаных мар,
Злітуйся, дай мне спакой,
Кахання чыстага твар.
Не ведаю, ты ці яна
З’явілася ў гэты дом,
Не ведаю, ты ці яна
Над маім бяссонным сталом?
Калі ты — прыгажосць, якой молімся мы,
Калі рухаеш ты зямлю,
Вызвалі з гэтай бясконцай турмы,
Зрабі мяне моцным, малю.
І калі не можаш такога зрабіць,
Каб мяне кахала яна,
І калі не можаш такога зрабіць,
Каб вярнулася зноў вясна,
І калі не можаш такога зрабіць,
Каб пагладзіла мне руку,—
Зрабі, каб яна нарадзіла сынка
Або найлепей дачку.
На руках насіў бы, не помнячы зла,
Каб яна шчаслівай жыла,
Каб расла,
Каб на маці падобнай была,
Адшукаў бы добрага хлопца ёй,
Каб падобны быў на мяне,
І глядзеў бы, і цешыўся іхняй гульнёй,
І гісторыі быў бы канец.
Я кожнаму галаву бы разбіў,
Хто захоча за нейкі барыш
Яе падмануць,
Яе ашукаць,
Ці яго пацягнуць на крыж.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
За дзвярыма дома кватэра твая,
Снег шалёны ў вочы б’е.
Вы, прадажнікі!
Чуеце, гэта я

Стаю на варце яе.
Зныня да веку,
Памятайце і верце,
Я стаю,
Я сціскаю меч і трубу.
Для подласці,
Гора,
Для самой смерці
Гэтыя дзверы будуць — табу.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Хмары над горадам праплываюць,
Над плошчаю прыцішаючы бег,
І ў валасы мае навяваюць
Снег,
Мокры снег,
Мокры снег,
Мокры, халодны снег.

*13.X.59*

## ГРУБАЕ І ЛАСКАВАЕ

*(Паэма)*

### І. РОЗДУМ

Расплата за ўсё:
За чырвоныя макі,
За світанне жыцця,
За блізкі канец,
За тое, што быў,
Што смяяўся і плакаў,
За тое, што ўсе любілі мяне.
За Сірына, што заліваўся ў маі,
За лістападаўскі крык крумкача —
За ўсё, расплата, цябе прымаю
І, сціснуўшы зубы, буду маўчаць.
Нішто не суцешыць,
Не дапаможа,

Таму, што не быў я спакойнай травой,
А быў удалым,
Як Ян Прыгожы:
Ў стрэмя нагой ці аб пень галавой,
Аб пень галавой!
З парванай папругай
Конь самотны тоне ў траве.
Спускаецца ноч.
І голас друга
Не заплача, не крыкне, не пазаве.
Я многія вочы і сэрцы трывожыў
І толькі перад каханай адной
Бляяў рахмана, як агнец Божы,
Піў з капытка і цягнуўся струной.
Я ведаў, што трэба кахаць бязмерна,
Што не біць, а песціць павінна рука,
Што лепей ягня, чым тхор крыважэрны,
Лепей юродзівы, чымсьці кат.
А яна мне на шыю стужку ўзвязала,
Як ягня, барола мяне галавой,
І ў кучаравы лоб цалавала,
І гадавала зялёнай травой.

## II. КАЗКА

Ну сядай, сядай са мной, калі ласка.
Навальніцы песня старая-старая.
Слухай казку. Апошнюю казку.
Яна на тваіх вачах памірае.
Ў гэтай казцы яліны лапы схілілі.
Візантыйскі захад у алым дыме...
«Зялёная сарока кашку варыла,
Зялёная сарока з дурнымі вачыма...»
У кулінарную кнігу глядзела,
Чухала патыліцу драўлянаю лыжкай,
І дзеткі кашку да лыжкі з’елі,
А нам з табой не далі ані крышкі.
Ты смяешся? Такога няма на свеце?
Не смейся, любая, свет шырокі.

Мы з табою толькі дурныя дзеці.
Нам добра з гэтай чубатай сарокай.
Сарокі розныя рэчы крадуць,
І, можа, ў гняздзе яе, з золатам поруч,
Ляжыць каханне, святло і радасць,
Што прынесла сарока з-за сіняга мора.
Аддайце, сарока. Няма ўжо сілы.
Яна ж не кахае мяне, хоць зарэжце.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дай я цябе пацалую, мілая.
А каша?
Чорт з гэтай кашай, нарэшце.

## III. СТРАШНЫ СУД

Якія страшныя, шэрыя дні!
Апоўдзень — вячэрні змрок.
Без цябе, без сонца, без цеплыні.
Ў сэрцы — боль, на вуснах — замок.
Імжэў у чацвер халодны дождж.
Я ў ложак лёг і памёр.
Праляцеў праз туман, праляцеў праз буран
І пабачыў ільдзінкі зор.
Мае павекі цяжкімі былі
Ад непралітых слёз.
За мною былі абшары зямлі.
Наперадзе — быў Хрыстос.
І д’ябал сядзеў ля ног яго
На вугалях залатых,
І на ляжках калматых ляжала ў яго
Кніга грахоў маіх.
Уладзімір злева стаяў у карзне,
Справа — маці Хрыста,
І яны загадалі наблізіцца мне.
І я перад тронам стаў.
Паміж Богам і мною стаяла сцяна.
Я на жанчыну глядзеў,
Мне здавалася: гэта стаіць яна,
Лепшая з лепшых людзей.

— Любая, што вы са мною зрабілі?
Чым асудзілі на страшны канец?
Чым варажылі, чым апаілі,
Чым, дарагая, забілі мяне?
Трызніцца ўсё мне ліловы вечар,
Вашы сляды на ліловым снягу.
Нават цяпер я чакаю сустрэчы,
Нават мёртвы без вас не магу.
    Думаў, што ёсць забыццё у смерці,
    І зноў папаў у квітучы твой сад.
    Вазьмі маё сэрца,
    Вазьмі маё сэрца,
    Вазьмі майго сэрца
    Чырвоны гранат.
— Досыць,— з усмешкай сказаў Сатана,—
Ты не змяніўся, герой.
Замест таго каб маліць і стагнаць,
Ты ўпадаеш за жонкай чужой.
Занядбаў ён, Божа, твае дары,
Талент развеяў, як дым,
Ён гарэлку піў, ён кахаў і курыў,
Брыдка лаяўся ў доме тваім.
Воласа не аддаў за багоў,
Нюхаў дно ў бакалах, як Ной,
І нават памёр ад кахання свайго
Да зямной жанчыны адной.
Ты даў зямлі дзіўных песняў сям'ю,
Ты арган стварыў для яе.
Ён мог грымець у славу тваю,
А славіў адну яе.
І ён самачынна арган паламаў,
І песня знікла з мяхоў,
І ў кнізе чыстага месца няма
Ад яго бясконцых грахоў.
    — А ён малайчына,— Ўладзімір сказаў,—
    Любіць песню і сечы дым.
    Гусляром бы яго я ў дружыну ўзяў,—
    І стаў бы Царград маім.
    — Я ведаю,— вымавіў рот Сатаны,—
    Што ты бараніць яго рад.

Ты такі, як ён, ты — певень дурны,
Да крыжа меў трыста дзяўчат.
— З табой, Сатана, распраўлюся я,
Як мой дружыннік Ілля
Расправіўся з багамерзкай дачкой
Разбойніка Салаўя.
Выспятак суну табе пад зад,
І будзеш ведаць тады,
Што ўзялі маіх цёплых грэшных дзяўчат
У светлага раю сады.
— Панове, тут дама,— ўзмаліўся Бог,—
Бярыце рот на замок.
А вы, маман, прыпадаю да ног,
Не рэгардэ ў той бок,
Як мне з такой камарылляй жыць?
Лаюцца, бы ў піўной.
А ты... ты апошняе слова скажы,
Апраўдайся перада мной.
— Любая, што вы са мною зрабілі?
Чым асудзілі на страшны канец?
Чым варажылі, чым апаілі,
Чым, дарагая, забілі мяне?
Трызніцца ўсё мне ліловы вечар,
Вашы сляды на ліловым снягу,
Нават цяпер я чакаю сустрэчы,
Нават мёртвы без вас не магу.
І адказ. Цішэй скрыпічнай струны.
Голас маці Хрыста і маёй:
— Ён кахаў, і за гэта палову віны
Выкраслі з кнігі сваёй.
І душа яго была, як палі
Ў сонечнай майскай расе.
Ён кахаў прыгажэйшую на зямлі,—
Выкраслі віны усе.
Ён так кахаў, як ніхто з мужчын.
Свет паклаў на каханай далонь.
Жанчына я і стаю за жанчын.
Кідай лісты у агонь.
А ты, што душы можаш будзіць,
Ты, шалёная галава,

Уваскрэсні, на людныя вулкі ідзі,
Грашы, суцяшай, спявай.
Ёсць на свеце гор і лясоў краса,
Акіянаў сіняя соль.
— Але я не хачу, не хачу ўваскрасаць.
Там боль!
— І тут будзе боль.
Забыцця ў каханні і смерць не дае...
— Там змрок!
— І тут будзе змрок.
— Там яна!
— А тут не будзе яе.
Ёй горка,
Вярніся, дружок,
Помніш? «Што вы са мною зрабілі?
Чым асудзілі на страшны канец?
Чым варажылі, чым апаілі,
Чым, дарагая, забілі мяне?
Трызніцца ўсё мне ліловы вечар,
Вашы сляды на ліловым снягу...»
— Досыць!
Хоць бы адну сустрэчу!
Ўваскрасіце!
Вярніце!
Я не магу!

## IV. ГОРАД І ЗАВУЛКІ

Зараддзе. Будоўля. Магутныя краны.
Электразваркі мёртвы агонь.
Звініць у свежых цагляных ранах
Перфаратараў гучная звонь.
Бурыць дамы. Для кіно раскоша:
На руіне вісіць чыгунны ліхтар,
Пад нагамі разбіты латок кніганошы
І сарваная «выбухам» шыльда «Бар».
Раяль бутафорскі вісіць на калоне
(Усё зрабілі, як на вайне),
І струны, як змеі Медузы Гаргоны,

Свіцяць на вятры і ловяць мяне.
Я ўваскрэс, але я гару, як салома,
На якую вецер іскру нагнаў.
Пажар у шэрым каменным доме:
Дым укрывае пляц Нагіна.
Крывы завулак.
Царква Варвары,
Ліпучы брук і вугальны дым.
Ва ўсіх дамоў непакояцца твары:
«Чаму ён такі?
Што здарылася з ім?»
Завулкі, завулкі, завулкі змяяцца,
Усе падобныя, шэрыя ўсе,
І я падобны на лісцік акацыі,
Што вецер цяснінамі вуліц нясе.
Я хацеў бы рухаць пачварныя краны,
Класці цэглу.
                        А сам не магу стаяць.
Закон бы выдаць, каб закаханых
За сабатаж — без жалю страляць.
Людзі ў завулках, людзі ў кватэрах,
Людзі ў вокнах.
                             І ў гэтых людзей
Шчасце без меры і гора без меры,
Змрок безнадзейнасці, сонца надзей.
Інвалід бязногі спрытна і ўмела,
Падабраўшы раменьчыкам чуб з ілба,
Ладзіць абцасікі туфлікаў белых,
У якіх дзяўчына пойдзе на баль.
Флюгер — леў на баярскіх палатах —
У дзённым прысмерку цьмяна згас.
Плача дзяўчо за шклом аўтамата,
І трубка каркае ёй у адказ.
Я б не дазволіў, каб горкія слёзы
Проста да трубкі з вачэй цяклі.
Яны ж —
                   нават моцныя —
                                                трошкі мімозы.
Іх трэба любіць на гэтай зямлі.

Каб мая жанчына мяне пакахала,
Я б не каркаў, як гэты прывык,
А здарыцца так, што слова сарвалася,—
З коранем выдраў бы свой язык.
Не пакахае.
Не можа.
Світанне
Не прынясе мне новых надзей.
Але ёсць яно,
Але ёсць каханне,—
І люблю я больш
Зямлю і людзей.
Больш ні ў чым на зямлі мне няма патрэбы:
Толькі б шчасця болей яе сынам,
Больш любві, пяшчоты, сумленнага хлеба,
Менш хлусні, менш свінцу, менш агню палям.
Толькі б хлопцы былі да дзяўчат, як ветрык,
А дзяўчаты да хлопцаў, як сонца, былі.
Толькі б мукі зямлі ў зямныя нетры
Разам з целам маім навек адышлі.
Толькі б душы свяшчэнным гарэлі знічам...
І яшчэ адно,
І гэта канец:
Калі ты мяне ў бой за сябе паклічаш
І заглянеш пажарамі ў вочы мне,—
Я пайду на гэта з такім жаданнем
І з такою гарачаю верай зямной,
Як ляцеў у асенні дзень на спатканне
З жорсткай, светлай, добрай, харошай маёй.
Ўсіх Святых на Кулішках храм занядбаны
Поруч з плошчаю і тытунёвым латком.
Памалюся ў ім аб смяротнай ране
І аб мужнай славе перад канцом.
Аб трывожнай, крывавай, застрашлівай долі
Папрашу перад тым, як кінуцца ў бой,
Перад страшным полем, смяротным полем,
Куліковым полем любові маёй.

## V. ПЕРАД СЕЧАЙ

Над полем агонь бівачны згас.
Два страі. Скора звінець мячам.
Многа вас, вельмі мала нас,—
Літасці нашай не будзе вам,
Сілы зла, што пакінулі нам
Попел, і смерць, і асколкі ў грудзях.
Прыходзіць канец. Звінець мячам.
І ў душах вашых цемра і жах.
Вы каханне забілі у кожным з нас.
Тут кожны, кожны такі, як я.
Мы свядома клічам апошні час,
І на вуснах у кожнага песня мая.
«Коні грымяць капытамі.
Блізка апошні час.
Юры, градучы ў славе,
Будзь справядлівы да нас.
Моцнай не будзь дапамогай,
Стрэлы не кідай свае
І не давай перамогі,—
Самі возьмем яе.
Не нам дрыжаць і баяцца;
Нас раз’юшылі ўкрай,
Дай нам да іх дарвацца,
Моцнага ворага дай.
Яны нам жыццё зламалі,
Каханне, цяпло і дом,
У сэрца нявест плявалі
Сталлю, свінцом, агнём.
Над намі не будзе Бога,
За намі — пажараў дым.
Мы не просім нічога,
Мы просім цябе аб адным:
У нас ні жонкі, ні хаты,
Ні дзяўчын, ні ніў, ні каня.
Дай, разграміўшы праклятых,
Смерць на полі прыняць.
Не нам каханых палацы,
Нам — абдоймы ночы пустой.

Нам немагчыма вяртацца.
Нас не сустрэне ніхто.
Няхай і кроку ў тумане
Не зробіць дахаты нага.
Не там, а з намі каханне,
На нашых гнеўных сцягах».
Вораг мой ляціць на кані вараным,
Над расістай травою заззялі мячы,
Мне перад войскам біцца з ім —
Зубы ў зубы і шчыт на шчыт.
Слухай,— прыходзіць апошні бой,
Я заб'ю ў паядынку ці ён заб'е,—
Перад тым як спаймаю стрэмя нагой,
Слухай, мілая, словы мае.
Не магу я ліць табе цёплых слоў,
Што квітнеюць, як макі на цёплай раллі,
Толькі думы светлыя, толькі кроў,
Толькі жыццё магу праліць.
Мы на смерць як адзін за цябе гатовы.
Мы гатовы грызці ваўчынай гурмой.
І кавыль схіляць пераможным ровам
Перад тым, як кінуцца з дзідаю ў бой.
І над строем тваіх абаронцаў суровых,
Над клінкамі, што п'юць гарачую кроў,
Будзеш ты лунаць
На харугвах пунсовых.
Залатое святло!
Прамаці любоў!
Чуеш — падковам час звінець.
Разышліся — ад пошчаку поле звініць.
Клінок
яму
і клінок
мне.
Два падзенні,
два сірыя ў полі кані.
І не плач, не магу ў вачах тваіх сініх
Бачыць слёз.
Даруй.
З жыцця адпусці.

За цябе так лёгка, так лёгка гінуць,
Бы ў абдоймы каханай нарэшце пайсці.
З перарывістым, лёгкім, шчаслівым уздыхам
Да грудзей прынікнуць і замаўчаць.
Ты не плач. Я скажу табе ціха-ціха,
Што цалую лязо чужога мяча.
Ён дабро мне зрабіў, пракалоўшы грудзі:
Я ўпэўнены ў гэты шчаслівы дзень,
Што цябе ні Бог,
                ні д'ябал,
                        ні людзі
Больш не змогуць вырваць з маіх грудзей.

## VI. MISERECORDIA[1]

Стогне поле нясцерпна, няспынна,
Гасяць стогны крылом крумкачы.
Маці шукае забітага сына:
Чорны цень на захадзе алым,
Чорны дзень уначы.
Поле вячэрняе, поле сырое.
Плач плыве, як туман па вадзе.
Маці плачуць і над героямі,
Героі таксама пілі з грудзей.
Яны ж хлапчаняты, няхай з барадамі,
Яны ў калысцы плывуць пад гачком.
Што ж ты, калыска, такая свабодная?
Што ж зарасла ты травой-кавылём?
    «Ой, да нары мышка,
    Да нары,
    Да сваёй залатой
    Каморы.
    Ў мышкі пад падлогай
    Дзеткі спяць,
    Хвосцікі толькі
    З калысак вісяць».
Што ж, мышанятка маё, нерухомае,
Што ж ты не можаш узняць галавы?

[1] Меч, якім дабівалі параненых.

Дзеці, дзеці, з якое стромы,
З якіх вяршынь абарваліся вы?
Ляжаць, раскінуўшы рукі белыя,
Кліч іх не кліч, заві не заві.
Ляжаць пасечаныя, пастрэленыя
З-за нейкай сваёй, невядомай любві.
Хоць бы пабачыць дзявочыя рукі,
З якіх яны выпілі чашу сваю,
З-за якіх з усмешкаю йшлі на мукі
І шукалі, як шчасця, смерці ў баю.
Іх не пабачыш.
Іх вочы сінія
Халадней сібірскіх спакойных зім.
Той, хто не быў у жыцці з маім сынам,
Ў смерці таксама не будзе з ім.
Мы — маці, і мы ад тугі згараем;
Але нават у смутку ўсё зноў і зноў
Мы на жыццё вас благаслаўляем,
Бо вы забілі нашых сыноў.
Таму, што лепей вісець на нажы,
Кахаць,
Праклінаць.
За каханне багоў,
Чым век пражыць,
І дзяцей нажыць,
І не дажыць да кахання свайго.
Маці, ты памылілася знову:
Ў час, калі ты пакінеш мяне,
Прыйдзе яна і вачыма суровымі
Ў самае сэрца мне загляне.
Пабачыць, што ў полі, крывёю палітым,
На якім заклалі мы нашу вясну,
Я адзін ляжу недабіты.
І гора забітых адзін цягну.
Ўстаюць з уздыхам змятыя травы.
Яны рыхтуюць сябе для жывых.
Чаму я павінен, палегшы са славай,
Слухаць адзін уздыхі травы?
Месяца сяйва ружовае, соннае.
— Гэта вы? Я чую. Вы — спеў зямлі.
— Я прыйшла. Вы шалёны,

Зусім шалёны,
Вы двойчы жыццё за мяне аддалі.
Нашто свае песні, іх ласку і сілу,
Іх сталь і шоўк аддалі на здзек?
Нашто вы сябе дарэмна забілі?
— Нашто?
Вы забылі:
Я чалавек.
Раб прыроды сваёй.
Уладар прыроды.
Зямная персць.
                    І сонца зямлі.
Вы былі разумнейшай заўсёды,
Але я кахаў, і тыдні, як годы,
Над маёй галавою маршам прайшлі,
І абвяваў мяне пекла вецер,
І сэрца маё палала свячой,
І столькі я зразумеў на свеце,
Што сталі вы неразумным дзяўчом.
Слухай:
Закону гэтага сілу
Не заб'юць ні агонь, ні час,
Ні мячы:
Мужчына павінен гінуць за мілых,
Іначай не будзе
Жанчын і мужчын.
Не будзе пяшчоты,
Адвагі дзікай,
Стане зямля,
Як сіта, пустой,
Справы вялікай,
Песні вялікай,
Смерці вялікай
Не будзе на ёй.
Зроблена ўсё
Яшчэ напрадвесні,
Сказана слова для ўсёй зямлі,
Зроблены справы,
Скончаны песні.
Мортусы да мяне падышлі
Чалавечней дабіць.

І ў масках чорных
Чакаюць, на што ты асудзіш мяне:
Пальцы ўгору — жыццё падорыш,
Пальцы ўніз — падорыш канец.
Жыць?
Вышываць санеты на пяльцах?
Чакаць, каб агонь з гадамі згас?
Ну!
Апусці свае тонкія пальцы.
Кожны сам выбірае свой час.
Узрадуй апошнім мяне падарункам,
Грудзі мае прабі і знявеч,
Сэрца маё абпалі пацалункам,
Miserecordia,—
Літасці меч.

## VII. REQUIEM

Знічка ўпала — памёр чалавек,
Камень свой катаржны знёс пад гару.
Вечны спакой і святло павек
Сыну свайму, зямля, падаруй.
Не баяўся ён спяваць і любіць,
Жыццё ў няроўнай паліў барацьбе,
Быў такім, якім трэба быць,
Калі завуць чалавекам цябе.
Сонцам пяшчотным быў для дзяўчат,
Другам адданым для добрых сяброў.
Страшным для ворага, як набат,
Літасці Богам — для бедных звяроў.
Што яму смерць і што яму змрок?
Смерці няма для людзей на зямлі.
Марш жалезны. Чыгунны крок.
Тысячы ног за лафетам пайшлі.
Сонца ўстае над новай зямлёй,
Выбух апошнюю рушыць турму...
Вечнае шчасце любай маёй.
Вечны requiem сэрцу майму.

*10.XI.59*

## МАСКВА — ВЕЧНАСЦЬ

На вуліцах горада ў цёмны час
Не размова, а лёгкі канкан:
— Якая, дзяўчына, футра у вас?
— Французская. «Soukine sine».
Не хачу з імі. Не прымушай.
У іхніх вачах каламуць.
У тумане, змрочным, як іх душа,
Яны, як рыбы, плывуць,
Да д’ябла!!! Збочыў. Завулкі ў сне.
Снег згінае дрэвы. Туман.
І горад простых чакае мяне,
І слядоў на снезе няма.
— Адкажыце, куды маё шчасце пайшло,
Вы, што йдзяцё ўначы,
Гаечны ключ, або дрот, або лом
На сагнутых плячах несучы?
І ў адказ галасоў бязладны харал,
Як спеў, што вецер даруе дратам:
— Ідзі на вакзал. Ідзі на вакзал.
Пра ўсё будзеш ведаць там.
Чаму на вакзал? Чаму? Чаму?
Нельга хіба без яго?
Хіба растопіць у сэрцы зіму
Зыркай топкі агонь?
— Ідзі на вакзал.— Ну што ж, пайду.
Ноч. Завулкі. Снег, як карцеч.
Пусты вакзал. Пусты віядук.
Ні праводзінаў. Ні сустрэч.
Ведайце! Без гудкоў, без агню,
Адтуль, дзе звычайна тупік,
Адыходзіць, сёння ў гадзіну нуль-нуль
«Масква — Вечнасць» цягнік.
Без білета залез я ў цёмны вагон.
Маўчаў змярцвела цягнік.
Ніхто не ведаў, што рушыць ён,
І мяне не сустрэў праваднік
...Дзед і ўнучка ў пустым купэ,
Маўчанне, цемра і сон.

У дзеда слёзы, як весні капеж,
У дзяўчынкі коскі, як лён.
Галоўкай дзеду лягла на плячо,
Ўсміхаецца ў сне чамусь.
— Куды вы вязеце такое дзяўчо?
— Сын памёр. Там сумна яму.
Так і я. Мой май адспяваў, адзвінеў.
Шчасце знікла, як сон.
Адзавіся! Што ты так вабіш мяне?
Добры прывід мой. Янаў агонь.
Пераходны мосцік.
Тамбур пусты.
У душы нарастае жах.
Першы вагон, і ў вагоне — ты.
Дзяўчынкай. І слёзы ў вачах:
Любы загінуў. Колаў звон.
Не тужы. Не тужы ў журбе.
Падумай, як бы пакутаваў ён,
Каб вайна забрала цябе?!
Як бы імкнуўся праз чорны дым,
Як клікаў бы смерці касу?!.
Мёртвым лягчэй, і нясцерпна жывым,
Што мёртвых у сэрцы нясуць.
Пераходны мосцік. З тупой вышыні
Нехта арфуе снег.
У другім вагоне згаслі агні,
І ніхто не пабачыў мяне.
А я пабачыў. Гарэла свяча
Над святлом жаданняў маіх.
Ты з другім. І боль такі у вачах,
Што лепей бы слёзы ў іх.
Я шукаю цябе. Я не магу
Загасіць свой равучы агонь,
Я з вагона пустога ў вагон бягу.
Трэці. Апошні вагон.
І ты. Як свечачка у снягах,
Як цёплы кахання сон.
Я сказаў, што знясу для цябе на спіне
Самы жахлівы цяжар,
І ты мне з усмешкай сказала: «Не».

І лепей бы мне — на ліхтар.
Ноч. Матляе вагон. Спакойны час.
Як разбіць мне сэрца турму?
Дзед, і ўнучка,
І ты,— за кожнага з вас,
За кожнага смерць прыму.
І не буду клясці свой першы ўздых,
Свой лёс, свой няпросты канец.
Што ж, адмучыцца сэрцам сваім за траіх
На долю выпала мне.
Не я дзяліў з табой сталь, і бой,
І шчасця светлага час.
І ўсё ж мы ў Вечнасць едзем з табой,
Хоць вагоны розныя ў нас.
І ўсё ж са мною, са мною ты,
У бязмежнай маёй цеплыні...
Масты ляскочуць. Ляскочуць масты.
Скупыя плывуць агні.
Прыляцелі з халоднай начной зямлі,
З дрымучых глыбокіх снягоў
І ў вачах вясёлкаю паплылі
Агні нямых хутароў.
Нічога. Нічога. Цягнік ляціць
У Вечнасць праз снег густы.
Там разбяруцца. Там створаць трох.
Кропля ў кроплю, як ты.
І мне падаруюць сапраўдную з трох
За тое, што на зямлі
Ніхто нават смерцю самой не змог
Мяне ад цябе аддзяліць.
За тое, што я дагарэў і згас
На вялікім, як сонца, агні.
За тое, што сеў я ў начны гэты час
Без білета ў цёмны цягнік.

*[1959 — 1961]*

* * *

Дваццаты век, цень верталёта
Ляціць над гмахамі дамоў.
На ярасна-высокай ноце
Трапеча праца гарадоў.

Бяжыць над залатым бетонам,
Над эстакадамі ў сусвет,
Над трызненнем людзей шалёным
Трывожнае святло ракет.

І горад ад неона сіні,
Дзе век прыстанак свой знайшоў,
Трымае ў вуліцах жанчыну
З дзіцячай, спуджанай душой.

Ў адвечнай празе чалавека
Яе душа, яе рука
Шукае месца ў гэтым веку
І ўсё не можа адшукаць.

То ў шыльдах Суціна, то ў Халса,
То ў Бацічэлі, то ў Манэ,
Ў канкрэтнай музыцы, ў Пікаса,
Ў хлусні, ў каханні і ў віне,

Ў карэктным мужы і ў кватэры,
Ў калекцыі старых карцін,
Ва ўсмешлівых старых хімерах...
Ці новых? — Знае Бог адзін.

Мана — ад прагі ўстаткавання,
Мана — ад снегу за акном.
Няма святла, няма кахання.
Халодны свет. Халодны дом.

Не ведае, што век дваццаты
Ў святле, што бачыць ясны зрок,

У літасці, ў ламанні кратаў,
Ў паўстанні полымя на змрок.

Мне скажуць: моцным без патрэбы
Трымаць над прорваю такіх.
А я ўяўляю зоры ў небе
І вочы, што жывуць без іх.

І нават больш яе кахаю.
Няўтульная душой да дна,
Зусім малая, трапяткая,
Яна адна ў мяне. Адна.

*31 ст. 61 г.*
*Поўнач*

## РАГНАРАДЗІ

Словы паўночных паданняў
Годы амаль што згладзілі;
Словы прароцтва змрочнага,
Як ф'ёрдаў начных берагі:
«Настане апошні дзень —
Бітва пры Рагнарадзі,
Ў якой загінуць героі,
Ў якой загінуць багі.
Будуць біцца да смерці,
Рыкам поўнячы горла,
Ў полі жалезным лягуць
Апошняй данінай мячам.
Не будзе ні пекла, ні раю,
Загінуць душы памерлых,
А час зжуе іх даспехі,
А потым скончыцца сам».

Годы мае,
Як строфы,

Строяцца ў моцным парадзе.
Лёс чакае няўхільны,
Просты, як хлеб і свінец.
Чакаю майго Рагнарадзі,
Чакаю майго Рагнарадзі,
Чакаю майго Рагнарадзі,
І мне не страшны канец.
Быў змагаром суровым,
Ворагам быў сталёвым,
Рыцарам чалавечнасці
Над прорвай страшных баёў.
Я не ўцякаў ніколі
Ў вечнай бітве за волю,
Браў тое, што мне належала,
І тое, што не маё.
Меў я толькі радзіму:
Пушчы, палеткі, вежы,
Ясную песню жаўранка
Ў моры надрэчных траў.
Песня мне не належала,
Голас мне не належаў,
Слова мне не належала,—
І ўсё я ў змаганні ўзяў.
Бронзай гучала зброя,
Срэбрам звінела слова.
Зброяй і песняй такою
Здолеў я ўсё узяць,
І толькі не ўзяў адзінага,
Маёй адзінай любові,
Смерцю ўзятай любові.
Не мог у руках затрымаць.
Вазьмі сабе ружы тугі маёй,
Пакінь мне крывавыя макі,
Тыя, што на магілах
Забітых байцоў гарадзь.
Бывай, мой далёкі бераг.
Шчасце апошняе, дзякуй!
Няма забыцця на свеце,
І не ў ложку мне паміраць.

Я не пляміў ніколі
Рукі бязвіннай крывёю,
Не пляміў маною песню
І словам здрадніцкім — рот.
Я воінам быў нястомным
З жорсткасцю і хлуснёю,
І без забрала, да смерці
Біўся за просты народ.
Я ведаю: я загіну,
Загіну і не ўваскрэсну,
І ўсё ж за народы змагацца
Пакіну кагорты свае,
І будуць магутнымі словы,
І пераможнымі — песні,
Нават тады, калі прахам
Стануць косці мае.
Такія байцы не ўцякуць,
Такія сябры не здрадзяць,
Добрыя, як паветра,
Надзейныя, як свінец.
А потым настане бітва,
Бітва пры Рагнарадзі,
І чалавецтву старому
Прыйдзе паўсюль канец.

Гэта будзе, напэўна,
Раніцай яснага мая,
Тады з не крывёю паэты
Параўноўваць будуць зару.
Зброя не будзе патрэбнай —
І людзі яе зламаюць,
Героі не будуць патрэбны —
І ў бітве апошняй памруць.
І лёсам нашчадкаў будуць
Толькі кахання раны,
І толькі аднойчы мужчына
Пралье жыватворную кроў,
І шчасце будзе нясцерпным,
Бы ад зліцця з каханай,

Толькі не два імгненні,
А тысячы тысяч вякоў.

Пралескі спакойна будуць
Квітнець на светлым прадвесні,
А дзеці — гуляць жалудамі
Пасаджаных намі дубоў,
І людзям не будуць патрэбны
Мае іржавыя песні,
І людзям не будуць патрэбны
Мой боль і мая любоў...
Думы мае загінуць,
Думы гневу і радасці,
Народжаныя ў пакутах
Тысяч бяссонных начэй.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Прыйдзі, маё Рагнарадзі,
Прыйдзі, маё Рагнарадзі,
Няхай забыццё, Рагнарадзі.
Прыходзь.
Наступай.
Хутчэй...

*Сакавік 60 г.*



# ПАЭТЫЧНЫЯ ТВОРЫ 1961 — 1984 гадоў, ЯКІЯ НЕ ЎВАЙШЛІ Ў ЗБОРНІКІ ПАЭЗІІ

## ВУЛІЦА КАСМАНАЎТАЎ

У горадзе без тралейбусаў,
над імклівай нямоўчнай ракой,
На вуліцы Касманаўтаў — хата маці маёй,
На вуліцы Касманаўтаў, дзе ўлетку бубняць чмялі,
На самай мне любай вуліцы з усіх,
што ёсць на зямлі...
Пасталі дамы ў пажары каралавых арабін —
Шаснаццаць аднапавярховых і двухпавярховы адзін.
А поруч з імі узносяцца над стромай садоў залатых
Велічны гмах піўзавода і дом Грамады глухіх.
Хто там смяецца з’едліва? Лепей няхай маўчыць!
Па гэтым па цёплым пыле я вуды нёс на плячы.
Тут маці мая ля брамы, як выплыве месяца рог,
Чакае нястомнага сына з далёкіх-далёкіх дарог...
Асенняй імжой безнадзейнай і вясной,
калі гоняць кароў,
Адзіная з тысяч вуліц, ты — святло маё і любоў.
Нідзе ў сусвеце не стрэнеш стрэх і кветак такіх,
Тут гусі такія паважныя, бы з Марса вывезлі іх,
І нідзе не песціў на свеце ніякі вішнёвы сад
Такіх немаўлят крыклівых і такіх пяшчотных дзяўчат.
Дзяўчат, што ўсю ноч да світання купальскай добрай
парой
Спяваюць зорныя песні пра вярбу над ціхай вадой.

Спявайце, дзяўчаты, спявайце, каб адпачыць салаўю,
Пра сон і вільготныя веі, пра апошнюю страту маю...
Нябачны нікому на свеце, стаю і слухаю вас,
Каб сэрца не сумавала ў чорны паўночны час...
Вуліца Касманаўтаў збягае ў лагчыну з гары.
Вытокі яе — у горадзе, вусце яе — у Дняпры.
Направа — дамы і краны, і шызы з комінаў дым,
Налева — Дняпро і абрывы, і аблокі над гэтым усім.
Цяпер жа, далёка за поўнач, як згаслі агеньчыкі ўсе,
Над ёй беларускае неба ў сваёй адвечнай красе;
Зменліва ззяе Капэла, сінее віно ў Каўшах,
Шлях Чумацкі віхурыцца пылам, срэбны Батыеў Шлях.
Спявайце, дзяўчаты, спявайце — крылаты чакае лёс:
З вуліцы Касманаўтаў на срэбны гасцінец нябёс.
Дзякуй за адпачынак. Сад зацвіў недарма,
Я іду адсюль. Я спяшаюся. Дарозе канца няма.
І недзе далёка свеціць, як забыты цёплы маяк,
Вуліца Касманаўтаў —
пустая калыска мая.

*30.XII.61*
*Орша*

## ПРЫЙДЗІ!

Не чакаць парываў свабоднага брыза,
Не чакаць святла сярод цёмнай начы.
Час рабоў і здрады. Эпоха Чынгіза.
Час дрыжачых мужчын і хлуслівых жанчын.
І ў баі і ў каханні вароцяць спіны.
Што ж рабіць?
З году ў год лічыць барышы?
Для чаго?
Ўся слава, віно і жанчыны —
Суета сует і тамленне душы.
Зарастае травою ў сумлення ганак,
І ваююць даносам замест свінца.
Пасля славы — наклёп, нуда — пасля п’янак,
Пасля здрады кахання — туга да канца...
Да канца...

Ўспаміны адносяцца роем...
Я адзін.
Я адзін супраць тысяч стаю,
Клічу сэрцам збавіцельны полаг спакою,
Што закрые мне крыламі вочы ў баю.

*[11 лютага 1962 г.]*

## ПРИДИ!

Не дождаться порывов свободного бриза,
Не дождаться лучей в беспросветной ночи.
Век рабов и измены. Эпоха Чингиза.
Время лживых баб и трусливых мужчин.
От любви бегут и от битвы кровавой.
Жить зачем?
Чтоб годами считать барыши?
Для чего?
И вино, и любовь, и слава —
Суета сует и томленья души.
Заросли бурьяном у совести двери.
Все воюют доносом вместо свинца.
После славы — поклеп, после веры — безверье,
После ложной нежности — скорбь до конца.
Сны о счастье во мрак уносятся роем.
Я один против тысяч и тысяч стою,
Где ты, где ты, спасительный полог покоя,
Что закроет мне очи в последнем бою?!
Гнев последней и первой моей молитвы
Успокой навеки бездумным крылом.
Ты, как губы любимой,
Ты, как сон после битвы,
Ты, как влага сирени, омытой дождем.
Ты, как дождь яснокий над страждущим бором,
По которому пламень и гибель бегут,
Ты мне солнце и зори. Ты мне теплое море.
Ты мне звездные искры на синем снегу.
Ты, как брешь в стене многолетней темницы,
Как правдивый взгляд после лживых святынь,
Как поток, что торопится в море излиться,
Как разливы криниц за пределом пустынь.

Забирай, но выслушай прежде желанье:
Перед тем, как отдамся тебе навсегда,
Подари мне право на миг урагана,
На один, на последний кинжальный удар.
Пусть потом бесчестье мне напророчат —
Все равно кинжал вонзится, звеня,
В беспредельно разбухшее сердце ночи...
И тогда обнимай.
Уноси меня.

*11 лютага 62 г.*

* * *

Чым прагнявіла ты Бога? І чым раззлавала,
Што над табою, яшчэ неапетай і параю строф,
Маятнік часу упаў і касцельная цемра настала,
Цемра прабітых далоняў і тысяч няправых галгоф?
Што ты зрабіла зямлі — ад фіёрдаў да Рыма,
Што залівалі пажары цябе, распраналі вятры,
Што паміралі ў Сібіры твае маладыя багрымы,
Што дастаеўскія кідалі нівы твае і бары?
Хто адабраў тваю памяць, мая дарагая,
Што, на працягу вякоў, забываючы мукі свае,
Лепшых паэтаў сваіх ты смяротным забвеннем караеш,
Лепшых пракрокаў каменнем няведання б’еш?
Веру ў адно.
Калі злосць векавечную звяжуць
І над крыніцамі зорка Палын узыдзе,
Ты на судзе,— пад архангелаў трубы,— Марыі адкажаш,
Скажаш адзінае слова за ўсіх на планеце людзей:
«З мовай памерла. Для заўтрашніх дзён не ўваскрэсла,
Каб на пакутах маіх выкуплення зярняты ўзраслі.
Маці сыноў чалавечых.
Я столькі пакут перанесла —
Можна зямлі даравяць,
Калі я існую на зямлі».

*11.III.62*
*Масква*

## ПАРОДЫІ (З Рыгорам Барадуліным)

***

*[На сабак Дома творчасці*
*Саюза пісьменнікаў «Каралішчавічы»]*

Сук Дазор і сучка Джэры
Жралі суп і сок з фужэра.

*[1963, лістапад — снежань]*

***

*[На верш Янкі Купалы «Гэй, наперад!»]*

Гэй, да сонца, гэй, да зор,
З намі Джэры і Дазор!

*[1963, лістапад — снежань]*

## ЛЮДЗІ З МАЛАНКАЙ

*Прысвячаю Вальку і Сцепанчуку*

Знікне гнёт цеплавой турбіны,
Гідрастанцый знікне праклён.
Вольных рэк вадаспады сінія
Не скуе змярцвелы бетон.
І асетр на празрыстым світанні
Вольна ў нераст пройдзе ракой
Паўз цямніцы для гнеўных маланак,
Збудаваныя нашай рукой.
Нас пакуль яшчэ вельмі мала...
Трыста шрамаў, і кожны, як боль.
Дваццаць пальцаў. Рашпіль. Паяльнік.
Электроды. Разец. Каніфоль.
Толькі воляй падвойнай, бязмернай
Бунт народзіцца і ажыве

У закутку, за корпусам шэрым,
У падбеле і крапіве.
Мы сепарыруем плазму,
Каб ток нарадзіла яна:
Чакаюць балоны з газам
У чорнай пашчы акна.
Падазрона-спакойна, шалёна
Чакаюць, каб час настаў,
Сапраўдныя два вучоныя
І лірык — прышый хваста.
І ўсё ж гэта лірык, лірык,
Бязмэтны, як песня яго,
Падпальвае факелам зыркім
Іхняй ідэі агонь...
Чаканне, як ноч перад стратай...
Хлапок абсякае яе,
І полымя з мірнай гарматы
Насустрач маланкам б’е.
Не хапае лёгкім паветра,
Цішыня гняце, як скала...
Вось... здалося... Вось... стрэлка вальтметра
Папаўзла... папаўзла... Па-паў-зла!!!
Гэта толькі дрыготкі подых...
Першы подых... іскра ў імгле,
Але іскра, што вызваліць воды
І турбінам падорыць хлеб.
Гэта першае сціплае слова,
Першы крок у бясконцы шлях,
Нараджэнне энергіі новай
Для абшараў тваіх, зямля.
У вяках памятаць ты мусіш,
Што, маланку спаймаўшы ў далонь,
Нарадзілі два беларусы
Для цябе праметэеў агонь.
І стаю я, агнём гэтым спалены,
Разумеючы, што на зямлі
Ўсе радкі мае, вартыя жалю,
Для хвіліны гэтай жылі...
...Задні двор. Абдуванчыкаў вочы,
Крапіва і мокры падбел,

А над намі маланкі грукочуць
Міліярдамі сініх стрэл.
І з шатра, што гарыць у пажары,
З перуноў, што грымяць, як званы,
Пан-агонь сцякае па тварах,
Па абдымках нашых трайных.
І няхай у агні гэтым сінім
Мы абпалім крылы свае:
Ад маланак найлепшыя гінуць.
Хай маланка!
Чакаем яе.

*[1962]*

* * *

*Галі і Вальку*

Не верыш зіме за сваім акном:
Снежань — а снегу няма,
І ў небе празрыстых хмар валакно,
А не шызы зімовы туман.
І цень надзеі ў душах жыве,
Што зусім не будзе зімы,
Што вечны на гэтай зямлі чалавек,
Што вечныя ў свеце мы.

*9 снежня 62 г.*

## МАНАЛОГ МАЦІ

*[Верш да трагедыі «Кастусь Каліноўскі»]*

Сягоння сны мне сніліся цяжкія:
Снягі, пажар, гром зімніх перуноў,
Ваўкі, што спяць на печышчы халодным,
І два ліловых цёплых анемоны,

Што смела сярод лёду расцвілі,
Пушыста-залатыя, як пушок
На згібах рук дзявочых, рук каханай.
Сягоння сны мне сніліся цяжкія:
Мястэчка з дзіўнай назваю Пампея,
Што спіць на мірным схіле пад глухія
Удары бубнаў недзе пад зямлёй.
«О легкаважныя!» — прамовіў нехта
З разумным сэрцам, ледзяным, як глетчар...
Але пралескі, што цяпла чакаюць,
Не маюць права звацца першацветам,
І матылі, што прагнуць мірных кветак,
Не маюць права на пажар жыцця,
А гарады, што схілаў унікаюць,
Не маюць права сеяць хлеб і есці.
Не легкаважнасць, а святая мудрасць
Жыць прымушае побач з небяспекай,
Цвісці на самым вастрыі маланкі,
Сады разводзіць каля брамы пекла
І паміж хлябяў весці каравелы,
Між акіянам і блакітным небам...
І вось тады прыходзіць зорны час...
Прыходзіць. І кавалак тленнай гліны
Ўспрымае горда назву: «Чалавек!»
Для маці шчасця большага няма,
Чым бачыць шчаснымі дзяцей любімых,
Хоць на кароткі гэты, зорны час.
І я бязмерна шчасная сягоння,
Бо зорны час прыйшоў, і ў хвалях страшных,
З агнямі Эльма на звінячых мачтах,
Нічога на зямлі не баючыся,
Паміж адною і другой бязоднямі
Ідуць у край блакітны караблі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Прыходзьце зрэдку зорныя часіны,
Каб каласоў не знішчыў сухавей,
Хоць на хвіліну, хоць на міг адзіны,
Кароткі, як дрыжанне любых вей.

*[1963]*

# МАЦІЦОВЫЯ СЛЁЗЫ

Ураджай пагарэў. З працадня — ані шэлега.
Вымі бедных кароў, як пустыя збаны...
На пясчанай касе ля Збароўскага берага,
Быццам рыбы галодныя, дрэмлюць чаўны.
За бязглуздасць чыюсьці, грабежную, хвацкую,—
Як было не адзін ужо раз, і не два,—
І сягоння бакамі адказвае Бацька,
Рыбы, дрэвы, нябёсы яго і трава.
Цені, белыя цені на водмелях сініх,
На плячы даўгазубыя граблі ляжаць.
Стогнуць спіны, і ціха паўзе над пучынай,
Быццам дзіда, цяжкі, трохсажнёвы дзяржак.
Граблі шаблямі дно залатое скародзяць
І прыносяць «палюддзе» галодным чаўнам:
Ясных кропель алмазы, багновак бароды,
І бяззубак — па грыўні за кілаграм.
У катлах ненажэрных іх вывараць ноччу.
Чарапашак ад мяса аддзеліць «кульба».
Будуць запінкі для вячэрніх сарочак,
А начынне — свінням.
Па-братэрску дзяльба.
Дзеля гэтага з ранняй да позняй часіны,
З салаўінай пары да савінай пары,
Як трысцінкі, трымцяць дзявочыя спіны,
І аленевы вочы глядзяць у віры.
І пакуль грабуць яны сонца з парогаў,
А з крыніц і глыбіняў вясёлак глыжы,—
Зыб ад глісераў белых абліжа ім ногі,
Грудзі-шкелцы бінокляў абсліняць чужых.
І за сіняй далёкаю паваroткай,
Там, дзе знікне багатых глісераў зыб,
Людзі з граблямі выбух учуюць кароткі
І бязгучныя стогны аглушаных рыб.
Быццам жэмчуг, на нашых адхонах суровых
Наліваюцца барвай насустрач дню,
Як вулканы, зырчаць маціцовыя горы,
А між імі, як лава, шалёнства агню.

І з адчаем слухаюць ракавін вушы,
Як віруюць у пекле катлоў агнявых
Душы брацціяў, нямыя бяззубкавы душы,
Пад мяшалкамі д’яблаў... таксама нямых.
І ўвесь час, пакуль мяса ад лат аддзіраюць
І дымее у ночвах яно, як гара,
Качкі шэрагам шэрым стаяць і чакаюць,
Як пры Сталіне поліўкі ў лагерах.
Высыхаюць крыніцы, і іхнія слёзы
Дзень ці два ззяюць маціцай ў сонца агні
Перад вечнай разлукай з радзімай бярозавай,
Дзе цяпер ні бяроз, ні дубоў, ні крыніц.
О зямля мая ў сонцы, зітханнях і зыбу!
Дзе дубоў твае цёплыя халады?
Абясптушылі, бомбамі ўсю абязрыбілі,
А цяпер абяззубяць...
А што ж тады?!
Разнясі ім каўчэгі з хлуснёй і атрутай
І даруй, тым, танюткім, як струны лазы,
Тым, з граблямі, у плаццях сваіх падаткнутых,
Што для хлеба ўзялі ў цябе човен слязін.
Бо штоночы, як толькі прытомнасць пакіне,
Мне адзін, мне адзін толькі трызніцца сон:
Даўгазубыя граблі, напятыя спіны,
І пад хусткамі белымі — твары з ікон.

*22 крас. 65 г.*
*Шагол*

* * *

Следапыт гістарычных палёў,
Слаўны лыцар Генадзь Кісялёў.
Не затопча рэгрэсу карова
Дарагога Г. В. Кісялёва.

*6 ліпеня 65 г.*

## ПАЛАНЭЗ АГІНСКАГА «РАЗВІТАННЕ З РАДЗІМАЙ»

Родны кут, Смаргонскі кут,
Калыска светлая мая,
«Бывай»,— гавораць мне твае лясы.
Але мяне ад іх не адарваць,
Як іх з гаротнага майго не вырвеш сэрца.

Родны край, навек бывай.
Шлагбаума меч над галавой...
Ўсё далей ад Залесся колаў стук...
І слёзы у вачах маіх стаяць,
Сінеючы, як плынь святой маёй Віллі.

Буду ўспамінаць [цябе][1]: алеяў сініх ціхі спеў,
І вадаспад ніжэй млына, што бачыў нас
У той апошні час
З каханаю маёю,
І магілы даўнія дзядоў,
Рады сівых капцоў,
Цяжкіх не ад граніту, а ад бэзу,
І цёплы дом са свечкамі калон,
І спрэчку з танцам беларускім паланэза.

Ўсё далей вядзе выгнання шлях
Ад ніў, дзе ты, любоў, жыла,
Дзе ты навекі адышла...
Ды прыйдзе час — насустрач дню
Ўваскрэснеш ты жывой з агню.
І я прыйду і абдыму цябе,
Мая любоў, мая айчына.
(Калі патрэбныя яшчэ 2 склады, то варыянт:
Мая любоў і ты, вялікая айчына.)
[Музыка без слоў]

Чуеш крок загонаў? Крочаць легіёны[2].
Прыйдзем

---

[1] Пры патрэбе больш працяглага спеву слова, узятае ў [ ], можна выкінуць.

[2] Мільёны.

Мы яшчэ змагацца за цябе, радзіма [свабода][1],
Як Кастусь з Касцюшкам супраць цёмных зграй...
Проці ўсіх імперый і карон
Людзей пакліча волі звон,
І ў бітве пераможа ён. (Гэта страфа гучыць як марш.)

Мір тым, хто гіне за народ,
А пераможцам — славы ўзлёт...
Няхай дзяўчаты увянчаюць іх
Галінамі дубоў Залескіх.

Але як забыць цябе,
Радзіма, край маіх бацькоў?
Павінен разлучыцца я з табой,
А я б памёр у бітве за цябе.
І загайдала бы мяне Вілля,
Закалыхалі беларускія дубы.

Край, навек [навек] бывай. Адзіная мая любоў.
Адзіная любоў. Навек бывай.
Нічога, добры мой,
Далёкі мой, нічога.
Я жывы.
А жывы, пакуль здалёк
Даносіць спевы рэк і дрэў.
Няхай я адарваны ад цябе —
А нават у чужым, чужым краі
Змагацца буду за цябе,
Мая радзіма.

*[1965, верасень — пачатак кастрычніка]*

* * *

Месяц над садам, ад квецені белым.
Месяц — вялізны. Сад — анямелы...
Белыя прывіды дрэў у тумане,
Вочы кахання, голас кахання.
Вусны кахання.

[1] Свабода.

Што ж ты ўцякаеш, мая адзіная,—
Яснае сонца ад месяца сіняга?!
Хіліцца ў месяца іскрах галоўка...
Звоніць салоўка, смяецца салоўка,
Плача салоўка.
Кветкі рассоўваю й шэптам гукаю,
Ты паддаешся, і ты адступаеш.
У цёплым блакіце, ў пяшчотным лёдзе
Белыя вішні ў туман адыходзяць,
У ноч адыходзяць,
У сон адыходзяць,
Ціха ў любоў адыходзяць.

*4 мая 66 г.*
*Поўнач*
*Рагачоў*

## ПРЫМОРСКАЯ ТАНКА

Крык касулі начны
Ў звонкім лесе на сопках асенніх.
О, як сумна!

*[1966]*

* * *

Тая жонка, якую ведаў,
Да апошняй сардэчнай струны,
Так, як ведаюць гімны «Ведаў»
Амазонскія дзікуны.
Ты, якую меў і кахаў я,
Як кахае ў імкненні віроў
Заручоную з Балтыкай Гаўю —
Заручоны з Понтам Дняпро.
Так, як ведае Месяц аблокі,
Так, як ведае шчасце Зямля.

*[1966 ]*

* * *

За чорнаю ружай ідзі ўсцяж дарог,
Ідзі праз хлусню, цямноцце і дым,—
Каб неяк убачыць блакітны стог
І месяц зялёны ў тумане над ім...

Пад месяцам гэтым, між сініх стагоў
З бедным сэрцам маім у руцэ —
Цвіце імя чужой, дарагой,
Чорная ружа цвіце.

Я не верыў, не верыў у змрочнай журбе,
Што можна, пазбыўшыся мук,
Ўзяць цябе і да вуснаў прыціснуць цябе,
Не скрываваўшы ігламі рук.

*8 кастрычніка 66 г.*
*Рагачоў*

* * *

Вільня. О Вільня! Гару, як салома!
Гора! Бяда мая! Шчасця сусвет...
Ймкнуся з жанчынай, амаль незнаёмай,
Ў чорным таксі — аж за сёмы свет.
Трохі п’яны і трохі шчаслівы...
Але з душы, як вясною трава,
Іншы мне вобраз зрастае імкліва:
Ты — сінявокая радасць Літва.
Ты — шматпакутная, ты — шматзялёная,
Ты — што з Зямлі, як ліпаў камлі,
З носам — бы ў Маці Боскай з іконы,
З сэрцам, што вымаліць шчасце — Зямлі.
Цяжка бывае. Нічога. Нічога.
У горы, ў слязах, у моры крыві,—
Не прададуць яны нашага Бога.
Нельга забіць ўсёмагутнага Бога
Белай Русі і Блакітнай Літвы.

Той, хто з хлуснёй,— сам згіне з наругі,
Той, хто з агнём,— сам ганебна згарыць.
Ён існуе, неабражаны пугай
Конь неўміручы на Браме Зары.

*11 студзеня 67*
*Вільня, «Нерынга», 22 пакой, 23.20*

## МІНСКУ

Мільёнам весніх буслiных чарод
Над табою ляцець і ляцець.
Калі будзе табе дзве тысячы год,—
Ад мяне не будзе й касцей.

Але я ўсё адно на плошчы твае
Няпрошаным ценем прыйду,
Непатрэбны, як звон, што трывогу б’е,
Як у полі забыты рэдут.

*[1967]*

## ЗА ПЕРАВАЛ, СЯБРАМ

Ўсе беды — за пераваламі:
Маразы, буранаў дымы,
Жанчыны, што нас кахалі
І якіх не кахалі мы.
Нагадвае пра былое
Толькі шэрань на схілах Яйлы...
Жвір шыпіць пад начным прыбоем,
Б’юць аб бераг валы.
І сон з табою, з каханай,
Быццам сон матыля ў мігдалі...
Хлопцы, я знаю, вы зранены!
Хлопцы, мы вас не падвялі!
Не ўцяклі ў лазу, ў дэзерціры,

Не сплылі ў ружовыя сны —
Мы тут замкі узводзім для міра,
Літасці і вясны.
Дзеля вас, у снягах забытых,
Дзеля вас, каб скончыўся здзек,
Каб добрым, чыстым, нязбітым
Стаў на зямлі чалавек.
І ўсё ж я як быццам зганены,
Бо — на смутак мой, боль і жаль —
Над любоўю да вас і над нашым каханнем,
Не над вамі, а толькі над нашым каханнем
Так палае ружовы, барвяны мігдаль.

*19 сакавіка 67*
*Ялта*

## БЫВАЙ!

Хтось бязвіннай крывёю заліў зару
І стагі заінелыя лоз.
Мой цягнік пакідае цябе, Беларусь,—
Твой сівер і твой мароз.

Я шчаслівы, што знікну з гэтых палёў,
З гэтых пушчаў і берагоў.
Хай яны дранцвеюць, закутыя ў лёд,
Калі так ужо любяць яго.

О, даволі! Намерзся! Пусці з сябе
Ў мора добрае, ў іншы край...
Я ні ў чым, ні ў чым не віню цябе.
Калі можаш — даруй і бывай.

*Сакавік — 4 ліпеня 67 г.*
*Мінск*

* * *

Зацвітае дрэва Іудзіна,
Горы ў весняй, цёплай журбе...
Ну куды ж уцячы мне, людзі,
Ад кахання, ад дум, ад сябе?!

Не купляў я зямлі гаршчэчніка
І нікога ў жыцці не прадаў,—
Што ж ты помсціш мне, чалавечнасць,
Што ж ты, лёс, мне нічога не даў?

Так, нічога ў жыцці не зроблена,
Так, пражыты нікчомны век,
Так, і словы і справы дробныя,—
Але ж хоча святла чалавек.

Гімнаў тых, што няма і не будзе...
Рук дзіцячых і словаў яе...
Цяжка, людзі. Нясцерпна, людзі.
Сонца здрадзіць. Шчасце заб'е.

Хутка сорак, і хутка восень...
Ўжо адна толькі прага пячэ,
Каб скаціліся цёплыя росы —
Хай на крыж мой з людскіх вачэй.

І малю я вышэйшаю верай —
Ўздайце мне дабрынёю ці злом
Не за тое, што на паперы,
А за тое, што ў думках было.

Мы бываем невінаватыя,
Што звінім, як струны лазы,
Што вісяць нашы рукі клятыя,
Што маўчыць наш слабы язык.

Ўздайце мне. Хай, што будзе — будзе.
Нельга больш захлынацца ў крыві
Пад праклятым дрэвам Іудзіным
Без нянавісці і любві.

*6.IV.67*
*Ялта*

* * *

Няхай шчасця гадзіны
Адлічвае Славу і Тані
Гэты гадзіннік

*7.11.1967 г.*

## ЭПІТАЛАМА ТАЦЯНЕ І СЛАВЕ

Кахання Бог у светлай сіле
Сядзіць між нас. Я п’ю нагбом
За вас: прыгожых, добрых, мілых,
За ваш стары і *новы* дом.

Да схілу дзён сваіх астанніх
Мы вам сябры. Няхай жыве
Наш гонар: Слава і Тацяна,
Сябры ад сёння і — навек.

Малю аб вечным і адзіным:
Хай шчасны будзе на вякі
Шлюб Беларусі і Ўкраіны,
Шлюб Львова й Іслачы-ракі.

*8 лістапада 1967 года. Ракаў*

* * *

Скрыпка ціхая ночы. Дрымотная музыка ночы.
Водар мора і кветак. Глухая начная пара.
Аюдаг за чаўнамі рыбацкімі ў моры напружана сочыць
Зыркім вокам адзіным — чырвонаю іскрай кастра.

Што як ярасна скочыць? Дарэмна. Дрымотаю скораны.
Галаву ён на мяккія лапы здранцвела паклаў.
Чайкі спяць на вадзе, як плаўкі, у сярэбраных водсветах зорных,
Спіць каханне ў дамах. Спіць прадоння марскога імгла.

Наздраватыя сходы завулкаў ад дзённай хады спачываюць,
Крок паэта апошняга замер на вулках крывых,
І магноліі кветкі так соладка дурацъ і так спавіваюць,
Што ні людзям,  ні горам дрымотнай не ўзняць галавы.

І лянотна мядзведзь на спакойнае мора успёрся,
І ў знямозе салодкай, забыўшы пра гнеў і гразу,
Касавурыць адзінае вока на зоры, што ўнізе і ўверсе,
На скупое сузор’е між іх, на сп’янелы і сонны Гурзуф.

*15 крас.— май 68 г.*
*Гурзуф — Брэст*

## МАЙ

Парасон і плашч між сабою гамоняць
І ідуць тратуарамі ўніз галавой,
А пад імі, як хмары, дрэвы зялёныя,
Ўспышкі кропляў, маланкі, дамы і балконы...
Ўвесь амыты,— як вабяць кветак далоні! —
Плашч прыпаў да ружовага парасона,
Нібы чмель, што ўпяўся ў ружовы павой.

*12 вер. 69 г.*

* * *

Мы не ўпершыню, Адась Каханы,
У адзінай кніжцы пахаваны.
Два Адамы ў ёй, адзін Ладысь,
Ўсе ўтраіх адзін адному рады.

*Першы* экзэмпляр дастаўшы «Мешка»,
Як кацапы рэкаюць, «не мешкай»,
О, Адась
У гэтай кнізе <...>

Хай сябры, ўзламаўшы Пекла браму,
Ўздымуць чары з мёдам пасля бою,
Як Янук Чачот з другім Адамам,
Як Парай і князь, як мы з табою.

Плюнь! Яшчэ мы два тамы ўсясільных
Грукнем разам на чыюсь магілу.
Пра Гародню, Мілавіды, Вільню
І пра звычаі Радзімы мілай.

*[1969]*

* * *

Ў золь і туман Вы святло мне і радасць,
Зорка адзіная ў змрочны час...
Кінуў бы нават маю «Іліяду»,
Каб Адысеем даплысці да Вас.
Вечарам п’яным ці золкам суровым,
Ноччу адчайнай ці днём пустым
Прозвішча «Галачка Шаранговіч»
Музыкай Божай у сэрцы маім.
З княскім запалам хаплю я паўлітру...
Каб не насіла шчасліўца зямля,—
Кіну пальчатку яму на палітру,
Выклічу я на дуэль Васіля.
І у апошняй ахвярнай скрусе
Стрэлю ў паветра, ўпаду нежывы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Можа, пад плач ўсіх жанчын Беларусі
Хоць бы слязіну ды ўроніце Вы.

*29.X.70 г.*
*Мінск. Пляцоўка выдавецтва*

## КАЛЯДНАЕ ВІНШАВАННЕ МАКСІМУ ТАНКУ

На новы лета
Хай родзіцца жыта.
    Шчодры вечар!
    Багаты вечар!

Ідэі, тэмы,
Вершы, паэмы.
    Шчодры вечар!
    Багаты вечар!

Хай шчасціць з імі
Пану Максіму.
    Шчодры вечар!
    Багаты вечар!

Хай у кішэню
Запусціць жменю.
    Шчодры вечар!
    Багаты вечар!

І ў торбу наску
Кіне каўбаску.
    Шчодры вечар!
    Багаты вечар!

Ды паляндвіцу,
Дый гарэліцу.
    Шчодры вечар!
    Багаты вечар!

*[1960-я — пачатак 1980-х]*

* * *

О, ілюстрысіме Грынчык, ў дзень гэты светлы
Шчыра вітаю цябе я, пісьменства прыгожага друг,
Ўсё аддаю: і лясы, і Дзвіну, і Дняпро, і сады нашы ветлыя,
А наўзамен толькі сэрца... і светлую Шчару бяру.
Мінімум здаў я. І толькі. Ты ж смела узрынуў
Ў неба навукі з Бытэньскіх палёў і дуброў.
Гэта спрадвеку было. З тых часоў, калі *доктар* Скарына
Шлях прамяністы для многіх нашчадкаў адкрыў,
Стаў нашым доктарам першым і прыклад для іншых падаў.
Будзь на яго ты падобны. Дарогай горнай
Кроч і на гадаў трымай напагатоўку сціло.
Як мне шкада, што хістаюся ў моры я Чорным,
А не з табою хістаюся паміж банкетных сталоў!
Добра! Прыеду, і выправім! Будзе празрыстая Шчара,
Шлюзы пад ценем таполяў, аціца у глізах на дне,
Брохание тоўстых язёў, белых дзічак каравыя мары,
Спрэчкі аб песнях, аб звычаях і аб віне.
Рыбу усю не лаві. Хоць бы трохі для члена Саюза
Парачку плотак ў Шчары пакінь.
Як прыеду лавіць да цябе шчупакоў,
Замест цябе, дарагі, пацалую у морду я Зюзю,
Бо фамільярнічаць з доктарам можа хіба што Пшыркоў.

*18.V.70*
*Панядз. 12 г.*
*Скарына*
*Зюзя*

## АРМЯНСКІ МАТЫЎ

— Матухна,
глянь,
на галіны змярцвелыя
Селі ружовыя матылі!
— Не, мая дзетка, то яблыні белыя
І абрыкосы ўначы расцвілі.

— Матухна,
глянь,
гэткі цукар чысты
Там, на блакіце і срэбры, гарыць!
— Не, гэта летняе сонца агністае
Вочы сляпіць на Святой Гары.
— Матухна,
глянь,
як сплываюць крывёю
Волаты ў скалах, і ў барвах трава!
— Не, гэта проста халоднай рукою
Вецер лістоту з чынараў сарваў.
— Матухна,
глянь,
гэта ластаўкі белыя
Зверху імкнуцца й спадаюць у сне.
— Не, мая дзетка, то з неба знямелага
Падае,
падае,
падае снег.

*[1971]*

## НА ВУЛІЦЫ ДЭШЧОВАЙ

*Здзіславу Нядзелю*

На вуліцы Дэшчовай — слата і шэрань,
І вокны,— як з неба,— гарацъ уначы.
І я не зведаў, нашто мая вера,
Нашто жыццё я стаўлю на шчыт?!
Нашто шукаю ў душы маёй — Слова?!
Праўда — нашто? І Бог мой — нашто?
Нашто Касцюшкі капец над Дэшчовай
Так марна гарыць між цяпліц і платоў?!
Мэта, напэўна, і ёсць, і будзе,
І Вера, і Праўда, і Слова ёсць...
Вярнулі б вы толькі мне, добрыя Людзі,
Любоў да ўсяго і маю маладосць.

К нам прыходзяць...
І гінуць у скрусе...
Калі нават іх цёплай рукою бяру...
О Божа, даруй маёй Беларусі!
І Польшчы!
І ўсім на свеце...
Даруй.

*16 снежня 71 г.*
*Кракаў*

## ВАКОЛ ХЕЙНАЛА

*Яну Колтуну II, самаму маладому*
*трубачу — «хейналісту»*
*Вежы Марыяцкай*

Думае — герольды
Ў барве й каронах?
Рык фанфаронаў — ад суднага дня глухіх?..
А тут проста трубы
Чэшскай фірмы «Лігатона».
А на калках вісяць кажухі.
Бэлькам — шэсцьсот
(Тут што праўда, то праўда)...
Сведкі польскай, і нашай, і... іншай зары,
Але тут... Тут спявае ціхутка радыё,
І ў каморцы «тэлік» маленькі гарыць.
Тут дзяжураць. Тут звон адбівае рупліва
Ўсё, што з’елі, скахалі і прапілі...
Ну вас... З вашым... туды...
Рамантызмам саплівым.
Вы, паэты ўлюбёнай маёй зямлі.
Не прыполамі дам,
Не дамаскай парфумай
Пахнуць рукі «герольдаў» на гэтай «гары».
Пахнуць яны жалезам, пылам і гумай,
А ў сіх тых — часныком.
(Ходзіць Кракавам грып.)

Пахнуць добра баршчом, цёплым хлебам, цыбуляй,
Як дзяды ў старожцы ці ў начлег на Дняпры...
І мне добра.
І шчыт Марыяцкі, як вулей,
Над згасаючым Кракавам мёдам гарыць.
Ў Яна Колтуна ані гербоў ні дукатаў
(Як, між іншым, ва ўсіх «герольдаў» пяцёх),
А звычайная,
Такая сабе —
Зарплата —
Ад дзвюх тысяч злотых да чатырох.

*[1971, снежань]*

## ОДА НА ЎРАЧЫСТЫ ДЗЕНЬ ШЛЮБАСПАЛУЧЭННЯ ЯГОНАЙ ПАНСКАЕ МОСЦІ ГАСПАДАРА ЛАПУЦЯ І ГАСПАДЫНІ ЯГОНАЙ ПРАВЯЛЕБНАЙ — АД СЁННЯШНЯГА ДНЯ — ПАНІ ЛАПУЦЁВАЙ

Ўзыходзіць Геліас над светам,
Прарочыць новую зару,
І п’е гарэлку ўся планета,
І, разам з ёю, Беларусь...
П’юць кухары і п’юць паэты,
П’юць за свае і напавер
Усе калегі з камітэта
СССР і БССР.
Сяляне п’юць і касманаўты.
Бо ўжо законны шлюб бяруць
Яны, загадчык нашай нафты,
Віктóр Антонавіч Лапуць,
Якога можа паважаць
Аж сам т. Леановіч,
А пра мяне ўжо што казаць!!!
Лапуць, што так з народам зжыўся,
Лапуць акраса нашых ніў,
Што, раніцай не падлячыўшы,
Ні разу сябра не пусціў.

Што нам рабіць цяпер, калегі?
Хіба што, скорбію дыша,
Пайсці раўці на дзікім брэге
Бярэзіны ці Іртыша.<...>
Адно суцешвае паэта,
Што дужа любіць ён цябе,
Наш супергеній, наша Света,
Канструктар слаўны СКБ.
Бо ён мне так сказаў аб шлюбе,
Што калі прыме ён закон,
То жонка ўжо яго палюбіць,
Бо многа есці любіць ён.
То лепей не рыдаць, не вохкаць...
Давайце, хлопчыкі, усе
Пяроймем гэты слаўны вопыт,
Каб свет заззяў ва ўсёй красе.
Сваіх зямлячак не адрынем,
Не пойдзем за мяжу па мёд.
Хаця жанчын сабе пакінем,
Не сплавіўшы ў нафтаправод.

*[1972]*

## [ВІНШАВАННЕ В. РАГОЙШУ ДА ЯГО 30-ГОДДЗЯ]

Слава!
Для Беларусі
збірай пасаг —
Сто манаграфій
і дзесяць саг!

*5 чэрвеня 1972 г.*
*г. Менск*

## ДОМ СЯБРА

Маленькі астравок маёй зямлі —
Зялёны Астравец над срэбнай Лошай,
Такі прытульны і такі харошы,
        Як сонца, бор і родныя палі.
Дом друга. Не, дом тысячы сяброў.
Не ведаю, што можа звацца раем?
Хіба мароз і піва ў Гудагаі
І галасы далёкіх цягнікоў?
Маё другое сэрца. Год пяцьсот
Адлічваеш ты мне гады на свеце,
І кожны дзень аблокі, верас, вецер
І сонца неўміручага ўзыход.
        І твой святы і светлы чалавек,
Твой дым і крыж магутны Аняліна,
Твой лубін залаты, твой лес
                                        на ўзгорках сіні
І стронга ў крышталі маленькіх рэк.
Сто тысяч год няхай вакол шумяць палі,
Сто тысяч год няхай вакол гудуць дубровы,
Пакуль гучыць вакол святая наша мова,
Пакуль ёсць беларусы на Зямлі.

*1974 г.*

## [НАВАГОДНЯЕ ПАСЛАННЕ В. РАГОЙШУ]

Слава! Ты пэўна пад туфель
Трапіў уласнай жане,
Што замест Львова ў год гэты новы
Ты не прыйшоў да мяне.
Вядома, жывіце сто тысяч год
У шчасці, без маяты́,
У плёне, у сонцы, без розных нягод!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І ўсё ж паплачашся ты,
Што кінуў сяброў, свой абраны лёс
І падаўся кудысьці за край...

Дык насі свой нос, як той дзед-мароз,
Чырвоным.
Давеку.
Бывай.
*Твае Валодзя і Валя*

*30.XII.75*

## ОДА ИХ ВЫСОКОЙ ЛУЧЕЗАРНОСТИ, КАВАЛЕРУ ВЫСШЕГО ОРДЕНА ВСЕЛЕННОЙ, ИМЕНУЕМОГО «СПИНА В СОЛНЦЕ», В. С. РУДОВУ В ДЕНЬ ЕГО СЛАВНОГО ЮБИЛЕЯ

Валитесь на колени, люди!
Ведь в космосе такой один,
Вениамин Семёныч Рудов,
Великий минский гражданин.

Декабрь расцвел когда-то маем,
Когда «за жизнь» заговорил
Остряк, и воин, и прозаик,
И верный брат насчет че...го-нибудь.

Весь — всевеликое сиянье,
Весь — разной сволочи отпор.
Единственное оправданье
Существованья Лысых Гор.

Достичь его — и не пытайтесь!
В чем обаянье — не пойму!
Но даже пани Пальчинскайте,
Богиня, молится ему.

Кинь взор на нас, несчастных, сирых,
Когда на нас не смотришь ты,
Ты — Солнце, ты — царица мира,
А мы — всего твои цветы.

В лучах твоих безмерно бренны,
Но и вечны твоим огнем...
Мы рады, что в одной вселенной
С тобою, Рудов, мы живем.

Тобою бредят даже польки,
Ты швец и жнец, в дуду игрец...
Живи, великий, Столько, Столько,
Еще Полстолько и Полстолько
И Четверть Столько — наконец.

*17 декабря 76 г.*
*Дубулты*

* * *

Генадзь, княж Васілёў, сын Кісялёў,
Каб быў заўжды ты пройдам навуковым,
Мы дорым табе тоўсты гэты слоў-
нік тлумачальны беларускай мовы.

Ўдасканальвай мову ўглыб і ўшыр,
Вучы і ўдзень і ўноч, грызі, імкніся,
Каб селі ворагі твае ў сарцір[1],
А ў канкурэнтаў грошы не вяліся.

Знайдзі загадку там, дзе іх звялі,
І таямніцы раскрывай з налёту,
Каб вымушаны выпусціць былі
Дадатак слоўніка са словам «кротус».

*[1977]*

[1] Шашачны, шашачны, вядома.

## АЎТАЦЫТАТА

«Скінуць гукі і колеры пад адхон,—
Ў канчатковым сконе прасторы і часу,
Павуціннем аблытаны, спыніцца звон».

*2 ліпеня 79 г.*
*Друскенікі*

* * *

*Я. А. Сацішуру, хірургу Лечкамісіі*

Калі побач Сацішур —
Пакладзіся — як на мур.

Ён адправіць вас на неба,
З печані прамыўшы жвір.
Там, дзе трэба і не трэба,
Ён вам выража пузыр.
І ўжо ніякай бражкі,
Да канчыны, мой дружок,
Ні віна, ані барашка —
Толькі чай ды тваражок.

Ціха! — Цс-с-с! Ані мур-мур!
Ходзіць побач Сацішур.
Варыянт:
Калі ўчуеш: «Сацішур!!!» —
Абыдзі дзясяты мур.

*8 верасня 77 г.*
*Лечкамісія*

## НА ВЫГНАННЕ З ЛЕЧКАМІСІІ УЛ. КАРАТКЕВІЧА

Раззлаваўся Сацішур,
Што ў яго ізноў дыжур,
Што з асенніх хмар залева,
Як ад урыгіту, лье,
Што паганец Караткевіч
Выразацца не дае.

Аляксеевіч Яўген
Закрычаў страпціўцу: «Гэн!!!
Трапіце яшчэ сюды —
Ўсё вам выражу тады!!!»

Жэ вуá сюр сэт гравю́р?[1]
Сацішур
Ў божым гневе.

*16 верасня 77 г.*

## ПЕСНЯ КРАСАВИЦЫ ИЗ ГОРОДА НА НЕВЕ, ПОСВЯЩЕННАЯ ВРАЧАМ МИНСКОЙ ЛЕЧКОМИССИИ

*(Поется на мотив «Позабыт — позаброшен»)*

Будь у меня десять желчных пузырей —
каждому бы по одному из симпатии подарила,
а так что ж...

*Из дамского разговора*

С глаз долой Короткевич,
Не показывай лыч —
Меня любит Ярошевич
И Евгений Кузьмич.
Эх, как выйду на Невский,
Как делов накрошу —
Меня любит Ковалевский
И месье Сатишур.

*24 августа 78 г.*

---

[1] Што мы пабачым на гэтай цікавай карцінцы? *(фр.)*

## МЕДСЕСТРАМ ЛЕЧКОМИССИИ В ОТВЕТ НА ПРОСЬБУ НАПИСАТЬ ПРО НИХ «ЗЛЫЕ СТИХИ»

Тошно мне в подлунном мире:
Не медсестры, а вампиры.
Вместо чарки шприц несут,
Кровь из жил моих сосут.
Неуклонны, непреклонны,
Как Георгий на иконе:
«Держит шприц, как копие,
Тычет змия в жопие».

*[1978, жнівень]*

## «АФІЦЭРСКІ ВАЛЬС»

(«Туркменфільм»)

Шли танки несказанным рыком
С экрана в просмотровый зал,
И наш комбат Василий Быков
Впервые в жизни убежал.

*[1979, 12 октября, Пицунда]*

## НАДПІСЫ НА ФАТАГРАФІЯХ (ПІЦУНДСКІХ), ПАДОРАНЫХ В. БЫКАВУ І А. САВІЦКАМУ

***

Кубінец Васіль у стыхіі роднай,
Ён з ціхай журбою ўспомніў былое,
Як быў нібы свой кракадзілам звыродным
І як у Гаване жаваў алоэ.
Ірына ж ягоныя ведае думы,

І Караткевіча цісне за мезенец:
«Не руш яго, бо ўзраве, як пума,
Не лезь да яго, бо на пальму палезе».

***

Кубінец Быкаў (бо ў кубінскай майцы)
Не пабываў хіба што на Ямайцы,
І паглядзець на дзіва ад сяла
Нясмела Кудла рыжая прыйшла.
Алесь калегу рэзка папракае,
Што ўвагі на паклонніц не звяртае.

***

Вянчаны прамянямі вечнай славы
Камбат стаяў, як велічны статуй:
Ён піў усё... ну... акрамя какавы,
Але за гэта Бог яму даруй.

## СУХУМСКАЯ ЗАСТОЛЬНАЯ

«Ва-сыль — гениальчык,
Васыль — абызьянчык.
Ва-сыль — наш любимчык,
Ва-сыль — наш инжирчик.
Ва-сыль — симпатычка,
Ва-сыль — мая птычка».

***

От двери кабака
Махает,
Дон Вальдемара видится
Манящая рука.

***

Падумала Кудла: «З сябрамі. З дамамі.
Класік? Жывы? Але ўсё ад Бога:
Выходзіць, і ў класікаў гэтых таксама
Бываюць спакуслівa голыя ногі.
Зазнаўся. На псоў і не гляне, зануда,
Але канцэрта на пляжы не будзе.
Хапаць за гэтыя лыткі не буду,
Даверу гэта зычлівым людзям».

***

«А гэта сабака,— Ірыне тлумачыць
З пачуццём перавагі Васіль.—
У «Чырвонай кнізе» пакуль не адзначаны...
Збегаўся... Спіць на асфальце нясіл».

***

Марціновіч з Быкавым  стакнуліся
І хаваюць карты хто куды,
І знялі з мяне касцюм, кашулю...
Скора плаўкі здымуць — што тады?

***

Васіль глядзіць ачумела
І думае пра няўдалых:
«Добра, што ў кактус не селі,
А толькі кактус кралі».

***

Савіцкі гожы муж і вока мае,
Таму ў шкарпэткі чачу разлівае.
На гэты важны акт глядзяць жанчыны.

Жанчынам не паложана па чыну.
Хіба што, можа, кроплю й ім наточым,
Умольныя пашкадаваўшы вочы.

***

Хаця нахабства ў Мужыка ў крыві,—
На «абаяху» надта не даві.

***

Хто б думаў, што й так на свеце бывае!
Прыкрасць і немы дакор у спіне:
Васіль натацыю жонцы чытае,
Што села за сажань яна ад мяне.

***

Расселіся з рознымі там мандарынамі,
З хурмою, аджыкай, цыцмою зялёнай
І павесілі над галавою «цагліну»,
Гэта значыць: «Праз нас праезд забаронены».

***

«Такіх абцягнутых з голаду рылаў,
Расчараваных вачэй такіх
Не бачыў, хлопцы, і на Курылах
Сярод салдацікаў слаўных маіх».

***

Скажыце мне хтосьці, хто побач сядзеў,
Ці з’еў я штось, ці нічога не еў?

***

Ў тумане абліччы — суцэльнае гора,
Пазнаеш хіба што па портках мужчыну...
Ці гэта фатограф затворам торгаў,
Ці хістаўся сам з невядомай прычыны.

***

О ворагі, сквернаўцы і сквернаўкі!
Што нам да вашых хвігаў і інтрыгаў?!
У нас аднолькавыя толькі плаўкі,
А ў вас стандартныя галовы й кнігі.

***

Дзесьці ў Дэлі паэтам (нават  не верыцца)
Дораць з кветак хамут і славу прарочаць.
Я ж ад краю свайго заслужыў толькі перац,
Каб жваў, аж пакуль не вылезуць вочы.

*[1979, кастрычнік]*

***

Тут твару няма, але гэта Быкаў,
Калі ён кагосьці ці штосьці пстрыкаў.

***

Мяркуюць па пузе
Аб членстве ў Саюзе.

***

Вось маршал пісьменства В. Быкаў
Кудысьці ідзе пакрысе,
За ім ад'ютант Караткевіч
Бутэлькі з... кефірам нясе.

***

«Я маю права на ўсё бурчаць,
На мора, жанчын і прыбой,
І рукі свае за паяс закладаць,
Як гэны... ну... Лёва Талстой».

***

О, колькі суму у пейзажы гэтым,
Журботы колькі — д'ябал вас бяры! —
Паспачувайце Васілю, кабеты!
Напоўніце графін яму, сябры!

***

Энергіі збытак у жылах клякоча.
Не ведаю, выкінуць што ён задумаў:
Ці, можа, дошак накрасці хоча,
Ці ў мора машыну скаціць без шуму?
Мараль без рыфмы:
Не трэба лапіць ГГЖ,
Бо можна трапіць ў КПЗ.

ЕСТЕСТВОИСПЫТАТЕЛЬ

Философ Быков с каменным лицом
Надежность камня пробует яйцом.

* * *

*Ірыне Быкавай*

Ідзе яна, качаецца,
Ўздыхае на хаду:
«Ох, з рынку шлях канчаецца!
Ох, зараз упаду».

* * *

Ірына сказала: «Не п’е дваццаць дзён»
(А вакол вінаробаў зямля).
І ўздыхнуў Караткевіч: «Няшчасны ён!
Горш за мяне й Васіля».

*[1979, кастрычнік]*

## НАСЛЕДАВАННЕ СЫРАКОМЛЮ

«Вясна будзе»,— людзі баюць.
Ды нашто нам росквіт той?
Мы адвыкнулі ад мая,
Нас не выручыць ніхто.
Ў скутай інеем краіне,
Ў мерзлай пушчы векавой
Толькі елкі цяжка стынуць
Мёртвай зеленню сваёй.
Ды палі ў снягах калеюць,
Ды на гора і на смех
Мох магільны зелянее
На капцах мужыцкіх стрэх.
Чэзнеш нівай непалітай,
Усялякі церпіш зброд.
Ці ўваскрэснеш? Ці жывы ты?
Ці забіты, мой народ?
Каб вясне прабіць дарогу,

Каб калісь вярнуўся рай,—
Слова праўды, слова Бога
Мусіш слухаць, родны Край.
І тады адтануць гоні,
Цеплынёй дыхне ралля,
Раем зоймецца зялёным
Маці — родная зямля.
Пройдзе нівамі, лясамі
Бог свабоды залатой.
Калі мы не ўстанем самі —
Не падыме нас ніхто.

*14 лістапада 79 г.*
*18.35. Мінск*

## ГЕНАДЗЮ КІСЯЛЁВУ

Кісялёў наш, харошы і ветлы,
Ты няробствам хоць нас не прымуч,
Бо гісторыі нашай — ты светач
І гісторыі нашай — ты ключ.

*[1970-я]*

## ЭПІГРАМЫ

### УЛАДЗІМІРУ КАЛЕСНІКУ

А Калеснік добры быў,
Мне козачку падарыў,
А козачка белая
Па пакоях бегае.

*[1970-я — пачатак 1980-х]*

## НАДПІС НА ДЗВЯРАХ КІНАСТУДЫІ

Доведем мы Быкова
До стыда великого.

*[1970-я — пачатак 1980-х ]*

## СЦЯПАНУ ГАЎРУСЁВУ

Сцяпан Захарыч Гаўрусёў
Уцёк ад жонкі без трусёў.

*[1970-я — пачатак 1980-х]*

## НА ВЯЛІКДЗЕНЬ ГАСПАДЫНІ ЯДВІНІ І ПАНУ ІВАНУ

Ай на Вялікдзень, ды на першы дзень,
Ісус Хрыстос, Сын Божы,
Валачобнікі сабіраліся...
Сабіраліся, рахаваліся...
У слаўны горад да слаўнага пана...
Да слаўнага пана, пана Івана...
Да гаспадыні пані Ядвіні...
А дзень добры таму, хто ў гэтым даму...
Пасадзі за стол і віно на стол...
Ды кусок сала — то для голасу...
А пірог жытні — то для коласу...
А кусок шынкі — каб здаровы свінкі,
Ісус Хрыстос, Сын Божы.

*[Пачатак 1980-х]*

## ЭПІТАФІЯ.
## ПАКАРАНЫМ СМЕРЦЮ
## Ў 1882 ГОДЗЕ

Сякуць, краіна, карак твайму сыну,
Ды ты не кажы ім: «Даволі!»...
Хай лепей ніколі не будзе краіны,
Чым будзе краіна — без волі.

*29 студзеня 1980 г.*
*21 гадзіна 38 хвілін*

## ВЯЧАСЛАВУ РАГОЙШУ
## Ў ДЗЕНЬ ЯГО НАРАДЖЭННЯ

Каня і падкову мы дорым сягоння
У дзень нараджэння для нашага Славы:
Каня — каб заўсёды любіў ты Пагоню,
Падкову — на шчасце, на вечнасць, на славу.

*5 чэрвеня 1980 г.*

## БОГ ВАЖДАЕЦЦА
## З БЕЛАРУСКІМІ ПРОЗВІШЧАМІ

Бог глядзеў на Беларусь з нябёсаў,
На жывых і мёртвых ягамосцяў,
На ўсе кальварыі і росы
І павольна закіпаў ад злосці.
«Што там робіцца, ядры іх мову? —
Закрычаў ён у страшэнным гневе.—
Быў там нейкі Ванька — стаў Ванькові́ч,
Быў там нейкі Міцька — стаў Міцкевіч.
З гонарам, нібы у Радзівіла,
Швэндаецца ў свеце пан Bowdzillo,
І ў шляхту точацца без мыла
Baran, Kozell, Piottuch і Pedrillo.

(Сто гадоў хавае ў торбе шыла
Пан Дэконт. А ўсё чуваць, васпане:
«Ты *Дэконт*? Пся крэў, а дзе кабыла?!
І *дзе конь*, пся маць тваю, галгане?!»)
Ў Сталіны там пнецца кожны Юзік,—
Быў там нейкі Сенька,— стаў Сянкевіч...
І адзіны, хто не прэцца у французы,—
Гэта безумоўна Караткевіч.
Гэты свой. [...]
Ведае, што хтось з ягоных продкаў
Ці азадкам быў крыху куцапы,
Ці вумом, ці чым яшчэ кароткі».

*10 вер.— 12 кастрычніка 1980 г.*

* * *

Лідзія Іванаўна Збралевіч,—
Гонар наш!!!
                І наша прыгажосць!!!
Шле Вам віншаванне — Караткевіч —
Беларусі —
                Раб і Ягамосць.

*[1980, кастрычнік]*

* * *

Ты не сніся мне, мама,
І не ваб у краіну, дзе ружы сінія.
(Пачакай! Ну, крыху!)
                                        Асабліва на гэны раз.
Ты ж так рэдка бачыла кветкі мімозы
І (яшчэ радзей)
добры квет туберозы,
І —
        зусім ніколі —
                                кветкі гліцыніі,

І астатнія дзівы,
якім прысвячу я свой сказ.
Пачакай мяне, мама!
Ёсць бярозы ў вільготнай лагчыне,
Ёсць Дняпра старыкі
і дубоў векавых запавет,
І народ мой,
якому я вінен
Ўсім,
ўсім
шчасцем,
турмой
і чужынай,
Той народ, у якім, можа, ўвеку ніхто не загіне,
Калі я,
Нават я,
што даўно за табою пакінуў Твой Свет.

*15(?).XII.80*

* * *

Агонь з вяршынь — і дом твой, як свяча,
І мёртвай хмарай — попел над Гаморай,
І ўсё з нуля даводзіцца пачаць,
Бо ў тым былым нічога не гаворыць.
Калі ўжо давядзецца зноў пачаць —
Ідзі ад дымам пушчаных святыняў
І не шкадуй ні плуга, ні мяча
На новы свет, дзе ўсё пакуль — пустыня.
Там будзе грай сівога крумкача,
Сто бездарожжаў, соль і пыл на веях...
Калі ўжо вырашыў з нуля пачаць —
Ідзі! Не аглядайся!
Скамянееш!

*Снежань [1980]*

## КАЛЯДНАЕ ВІНШАВАННЕ ВАСІЛЮ І ІРЫНЕ БЫКАВЫМ

На нова лета
Хай родзіць жыта.
Шчодры вечар!
Багаты вечар!

Піва варыці,
Дзяцей жаніці.
Шчодры вечар!
Багаты вечар!

Поўныя скрыні
Васю з Ірынай.
Шчодры вечар!
Багаты вечар!

А мне — як ласка —
Кольца каўбаскі.
Шчодры вечар!
Багаты вечар!

*Валя*
*Уладзімір*

*[Пачатак 1980-х]*

* * *

Тут кожны сядаў бы, дзе схоча,
Адзін — ля камінка
(Каб вечна сябе спрабаваў паўтарыць,—
Нясталы і зменны агонь),
Другі — ля вакна,
Што спрадвеку глядзіць
На здрадлівае мора.
А трэці, калі б не схацеў,
Проста ў кут бы зашыўся з уздыхам палёгкі.
І ўсе б працавалі,

І ў гэтай прывольнай майстэрні
Ніхто б не пісаў
І ніхто бы не ўбачыў
Аднолькавых твораў.

*[1980]*

* * *

Панна Варшава,—
Яна сваёй дарогай ішла...
Мурамі крывавымі
Падпертая ззаду і спераду.
Панна Варшава,—
Ніка —
Аднойчы шпажонку ўзняла.
І ёю
Зваліла
Ні многа ні мала
Дваіх мядзведзяў.

*[1980]*

* * *

Шчасны хай Ваш будзе брод без меры
Дзецьмі, ўдачай, любасцю гасцей,
Дамалюбствам, дарагая Лера,
Працалюбствам, дарагі Сяргей.

Некалі праз семдзесят і з гакам
Хай сабе развалены, як дуб,
Я, хоць рассыпаючыся макам,
На брыльянтавы прыйду Ваш шлюб.

Хай заўсёды поўнай будзе чаша
Шчасця вашага і ўсіх страсцей,
Мілыя, харошыя вы нашы,
Залатыя Лера і Сяргей.

*26.VI.1981*

# ВІНО АРМЯНСКАЙ ГІСТОРЫІ

Раздан, Арташат, Аўрэшат. Што б ні ўзяць.
Сотню назваў любых абяры між іх.
Але ўсе.
Ўсе
        армянскія віны гарчаць,
Як гарчыць гісторыя іх.
Можаш тысячы кніг геніяльных стварыць,
Збудаваць Гарні, Гегард, Кармір-Блур...
Ды зірні і ўважай:
                                    над Масісам крывы ятаган,
Над Масісам месяц — крывы ятаган.
Над народам, які палюбіў і люблю.
Хай бы ўсім пражыць, хай бы ўсім дажыць
Без пакут,
                    без хлусні,
                                    без ран...
П’ю віно, а яно, халера, гарчыць,
Як стагоддзі жыцця армян.
І каштую, і — ўсё ж — без ахвоты п’ю,—
Як душу прадаю сатане —
І душу народа ў ім пазнаю,
А іншай — не трэба мне.
Божа мой! Я пеклу б душу аддаў
І здохнуў ахвотна, як нейчы там сын,
Каб аднойчы ў жыцці толькі «горка!» крычаў
На вяселлі дачкі армянін.
П’ю.
Гарчыць. І думаю я пра сябе:
О Арменія гор, што крывавяць ад ран!
Хай бы горка ўжо мне...
Хай не горка табе,
Маці мільёнаў забітых армян!
Хай раней за дабро памірае гнюсь,
Хай сонца жыве, хай гіне туман...
Бо як без Беларусаў мая Беларусь,
Так Арменія без Армян.
Добры Божа! Гарчыць! Вось відаць і дно.
(Дзе я? Ў пекле? У раі? Дзе?)...

Зразумееш не зразу армян віно,
Як душу карабахскіх людзей.
Горыч вінаў Арменіі... І Беларусь...
Ну каму па плячы вас здушыць?..
Можа — горкія — мы й не да смаку камусь,
Але нам — узаемна — мы па душы.

*21 лістапада 81 г.*
*12.25. Паўн[очныя] м[огілкі]*

## СТАРААРМЯНСКАЕ, З ПРАЦЯГАМ...

Трапяткая грубасць — не сродак на ўсё...
Злы язык — не падстаўка для зла...
У Ісуса мо тысячны служыць асёл,—
А калі Ісус — у асла?

Удава і пасерб жылі на сяле,
І бывала — о Божа жывы! —
Што пасерб сена краў для асла,—
Дзве былкі... —
У каровы ўдавы.

І ўзвыла ўдава: «Разбярыся ў траве!
Ён працуе? — гной яму ў рот?!
Хай ён здохне — асёл, хай карова — жыве!..»

Выйшла, ясна ж, наадварот.
І ты разабрацца не змог,
Дзе асёл і карова дзе?!

Гэта байка — пра беларускі народ
І пра месца яго між людзей.

Ён працуе — якую ўжо тысячу год,
Ён да скону верны сябрам,
Чым ён вінен табе, мой народ,
Які нават былкі чужое не ўкраў.

Спытай у суседзяў. <...>
Скажуць: «добры», «шчодры», «ворагам жах».
Дык хіба на добрых возяць  ваду?
На каровах?
І на ішаках?

*[1981]*

## ПЕСЕНЬКА ПРА ВЫПАДАК У КАФЭ

Яго не абслугоўвалі
Хвілін так сорак пяць.
Пайшоў Ён да дзвярэй і раптам
Порткі стаў здымаць.
Тады ускалыхнуў скандал
Кафэ і ўвесь гатэль,
Афіцыянт туды пабег
І сам метрдатэль.
—Я думаў звычай тут такі,—
Нявінна Ён сказаў
І, портак не ўздымаючы,
На шыльду паказаў.
—Вось бачыш: «Ў верхняй вопратцы»,—
Умееце чытаць? —
«Не абслугоўваць людзей
І есці не даваць».

*21 ліст. 81*

## КІТАЙ

Затаптаныя песня і слова матчына,
Па правінцыях людзі ядуць траву...
Канфармізм з папраўкай на азіятчыну,
Мудрасць продкаў з папраўкай... на галаву.

*23 ліст. 81 г.*
*12.15*

# ВЫШЭЙШЫЯ ЖЫВЁЛЫ,
# АБО «ВЯНЕЦ ТВАРЭННЯ»

...у вышэйшых жывёл патрэба
і здольнасць прычыняць разбурэнні
і шкоду ўзрастаюць прамапрапар-
цыянальна ступені іхняй разумнасці.

*Канрад З. Лоранц*

І тое праўда. Лемур нецікаўны:
Вісіць на галіне плюшавым мішкаю.
Капуцын (з вузканосых) гарлае песні,
Псуюць уласныя цацкі мартышкі.
Чым вышэй, тым больш разбуральна-цікаўныя,
Нібы гарылы з пачкаю сернікаў...
Натуральна ўзнікае пытанне: «А людзі?»
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І ўспомніў Хатынь, Хірасіму і Герніку.

*23 лістапада 81 г.*
*13.32*

* * *

Дарогі ўсёй зямлі маёй
Гудуць у стомленых нагах.
Куды табе ісці за мной
У гэткі невыносны шлях?
Выццё здалёк. Бяжыць руя,
І вочы свецяцца ваўкоў,
Такіх жа валацуг, як я,
Маіх сяброў, маіх братоў.
І, можа, тыя, што ў мане
Жывуць свой век, п’юць добрых кроў,
Цкаванне ўладзяць на мяне
Калісьці — горш, чым на звяроў.
Ўзяць не магу цябе я ў бой,
Аддаць марозу і агню,
Аддзячыць ліхам за любоў,

Нянавісцю — за дабрыню.
Не плач над лёсамі звяроў
І вей не апускай разбег,
Як крумкачынае пяро
На белы-белы, чысты снег.
Дарогі ўсёй зямлі маёй
Гудуць у стомленых нагах.
Куды табе ісці за мной
У гэткі невыносны шлях.

*25 ліст. [1981]*
*22 г. 58 хв. П[аўночныя] м[огілкі]*

* * *

Аб існаванні подласці й наветаў,
Падступных махінацый і інтрыг
Я ведаю, паверце мне у гэтым,
Зусім не са старонак даўніх кніг.
Мужчыны і жанчыны сонмам цэлым
Імкнуцца здрадзіць, край свой ашукаць.
Я проста ў гэтым не прымаю ўдзелу.
Няма мяча, дык чыстай будзь рука.

*26 ліст. 81 г.*
*11.29. П[аўночныя] м[огілкі]*

* * *

Стаіць ля ідэі на варце,
Хвалу бессаромную п’е.

Не ўсякая шыя вартая,
Каб меч тупіць аб яе.

*26 ліст. 81 г.*
*11.40*

# ЯК МЯНЕ ПЕРАКЛАДАЛІ НА ЯПОНСКУЮ МОВУ, АБО ЛЕТАВЫЛІЧЭННЕ

Па японскім летавылічэнні 1981 год —2641 (з дня каранавання першага мікада)

Ну, хочуць перакласці японцы — і годзе...
— Калі нарадзіўся?
— Гэх, старасць не радасць.
Ў дзве тысячы пяцьсот дзевяностым годзе...
(Ад каранавання першага мікада.)
— Жартуеце? Ці проста лухту гародзіце?
— Ды зусім не жартую... Адкуль жа знову?..
Ну... Тады ў дзевяцьсот трыццатым годзе
(А сам падумаў: «Ад нараджэння Хрыстова»).
— У тысяча дзвесце сямідзясятым?
(Ён тады — за мікада, я — за новую эру.)
— Зноў жарты? У нас манголы трыклятыя.
— А ў нас з крыжакамі войны за веру.
— Вам дзвесце шэсцьдзясят. Пяцьдзясят,
трошкі болей.
— То што, дзве тысячы дзвесце дваццаты?
А зараз?
— Шэсцьсот сорак першы грымзоліцца
Пад гэтым пяром на паперу клятую.
— Паслухайце, жарты ў вас проста конскія.
Вы, «бака», дурань.— Бяка? — То самае.
— Знаеце,
не хачу гучаць па-японску.
Ў вас «яма» —
«гара»,
а ў нас «яма» —
«яма».

*26 ліст. 81 г.*
*13.35. П[аўночныя] м[огілкі]*

* * *

Бог пайшоў. Жыццё ідзе пад кручу.
Але йдзі і не губляй спакой.
Ёсць замест прыватнай неўміручасці —
Бессмяротнасць нацыі тваёй.
Ты памрэш. Але ў бязмежным свеце
Будуць працвітаць твой Люд і Край...
Вер, што ў гэтым, вер, што толькі ў гэтым
Шчасце пасмяротнае і рай.

*28.I.82 г. 17.40*

## ПРЫВАТНАЯ ГІСТОРЫЯ

Без сцягоў, без прамоў, без багнетаў,
Без атак з паміnaннем чартоў —
Вяршыць яна справы сусвету
Побач з іншай гісторыяй,— *той*.
Без крыклівай і кідкай грубасці
З ёю робіць справу жыцця.
Але той — барабаны і трубы.
Гэтай — сціплы спакой забыцця.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ў час разгрому прайграны і раны і планы
Ў сто слупоў аж пад неба дымяць:
Гэта ўспыхвае Пушкініяна,
Каб не пэцкалі любых імя...
Ляпнуў нехта слова міжвольнае,
Наракнуўшы на штось, і таму
Рве Купала паперы крамольныя,
Каб сяброў не павесці ў турму.
Ў паляўнічых доўгія лапы,
Ім гаворыць кожны трафей,—
Ёсць — «свае» з прадажнаю зяпай,
Ёсць — ахранка, СД і гестапа,
Ёсць,— каб людзям да іх не трапіць,—
Ў кожнай попельні — аўтадафэ.
Пра падзеі ратнай гісторыі

Ў паднябеснай слава звініць.
Ўсе архівы прыватнай гісторыі
Ў выбаровай яме (у адходжым месцы) й агні.
Пра вялікую трубы гнюсяць,
Пра малую шапочуць лісты.
Ды яе забіваюць хлусы,
А цябе забівае — святы.
Не спявае нідзе араторый
Пра твае неўміручасць і жах.
Гіне праўда прыватнай гісторыі
У пляткарак на языках.
І пакольні ідзе непрыкаянай,
І пакольні ў хлусні — сто ног! —
Выглядае нязломны — Каінам,
Дантэ — бабнікам, Юдам — Пан Бог.
І за «Шэйлака» йдзе бяссрэбранік,
«Прадае» Багушэвіч пяро,
І хаваюць «мільёны» пад зрэб'ем
Страстацерпцы за бедны народ.
Некрыклівая, безабаронная,
Бо адкрыты ж кожны парог,
Патанае ў чорным бяздонні.
А гісторык — адзіны бог.
Ды сумленне і нюх некаторых,
Якіх нельга маніць навучыць...
Ўсю гісторыю гэта гісторыя
На нябачнай пласе маўчыць.
У засценку дапытчыкаў платных,
Дзе ў вяках на цвіках стаяць...
Ты прабач, чалавецтву, прыватная,
Што не можа цябе адстаяць.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Абяздоленая, абясхлебленая,
Сярод родных душаў — адна,
Ўсё ж вядзе яна людства да неба,
Толькі ўбогая, толькі яна.

*4 лютага 82 г.*
*16.11*

## ГЕНІЯЛЬНАЕ НАСЛЕДАВАННЕ А. ГЛОБУСУ

Начны — у пражэктарах — стадыён
Рыкаў
І неба бароў кулакамі
Кучаравых і лысых галоў.

*26 сакавіка 82 г.*
*20 г. 48 хвілін 39 секунд*

## ЮБИЛЕЙНАЯ СТИХОЗА НЕСРАВНЕННОЙ НАШЕЙ РОЗЕ

Все вместе физкультурники для Розы
Нашли одну лишь рифму: «Вы — мимоза».
О, чахлая фантазия! О, слёзы!
Не буду Розу рифмовать с мимозой.
Ведь наша Роза лишь для тех мимоза,
Кто овладел одной лишь жалкой прозой.
А я без хвастовства, без всякой позы
Хоть тыщу рифм рожу сейчас для Розы.
Итак, стихоза
В честь милой Розы:
Вся Беларусь словно в наркозе
Перед своей богиней Розой.
Премьер-министр и студиозус —
Все влюблены в царицу Розу.
Ей преклоняются в нархозе,
Рыбоколхозе, леспромхозе,
Лесхо-, сельхо- и совнархозе,
Рыбхозе и зверосовхозе,
Олене-, коне-, льносовхозе.
Мясо-, рыбо-, овцесовхозе.
От управхоза до завхоза —
У всех в душе одна лишь Роза.
Сладчайшая, словно глюкоза,

И сахароза, и фруктоза.
Хожу я, как в анабиозе,
С тех пор, когда увидел Розу.
По всем подвозам все обозы
И на привозах углевозы,
Зерно-, тепло- и скирдовозы,
Тяжеловозы, нефтевозы,
Цементо-, мото-, лесовозы
И соле-, рудо-, турбовозы,
Электровозы, троллейвозы,
А также паротурбовозы,—
Не с недовозом, с перевозом,—
Привозят Розе туберозы.
Страна вся занята извозом
Цветов для милой пани Розы.
Смотрите, в лютые морозы
Цветет на Беларуси Роза,
О Розе грезят чернолозы,
По Розе плачутся березы.
Пусть ей не даст судьба-заноза
Бактериоза, кариоза,
Филяриоза, ихтиоза,
Тромбоза и парабиоза,
Некробиоза и невроза,
Всех токсикозов, силикоза
И прочих всяких разных «озов».
Все эти дерматомикозы,
А также авитаминозы,
Психоневрозы и циррозы,
А также прочие психозы
Пусть поразят враждебных Розе,—
Они ведь просто... сметьевозы.
Все лучшее огромной дозой
Пусть будет с Розой в симбиозе.
А все ее враги-стервозы
Пусть по уши сидят в навозе...
Престранные метаморфозы
Со всеми, кто увидел Розу:
Мужчины все словно в гипнозе,

Мечтают скрасть ее увозом,
И жен не помнят, как в склерозе,
И, находясь в метампсихозе,
Вокруг порхают, как стрекозы,
В восторге блеют, словно козы,
Пыхтят, подобно паровозам,
Полны к соперникам угрозы.
Не надо... Вы не бомбовозы...
И Розу все минуют грозы.
(Да и сидящий здесь угрозыск
Со мною вступится за Розу.)
Во все века, по всем прогнозам
Народ мой будет славить Розу.
Лью поэтические слезы
Пред нежною штокрозой Розой.
Плевал я на официозы!
В экстазе и апофеозе
Кричу: «Живи и здравствуй, Роза!
Да здравствует лет двести, Роза!»
Так улыбнись же виртуозу,
Красавица моя ты, Роза.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Вот так-то, братцы. Целлюлозы
Не хватит всей для рифм о Розе.
А вы тут лезете с мимозой.
Зачем мимоза гордой розе?

*8 апреля 1982 года*

## СЛАВУ РАГОЙШУ З ЛЕПШЫМІ ЗЫЧЭННЯМІ Ў ДЗЕНЬ САРАКАГОДДЗЯ

Не будзь да славы
надта ласы,
Пі памаленьку і не трусь,
І беларускага Пегаса
Любі, як маці-Беларусь.

Хадзі за ім старанна,
з потам,
І не шкадуй мазгоў і ног.
Тады і ён дабром адплоціць...
А з ім — і Беларускі Бог.

*5 чэрвеня 1982 г.*

## НЕ ВЕР ІМ

«Мудрасці не слухаў, мернасці не нюхаў...
Аддаваў належнае не кесарам — віну...
Да інфаркту спіўся, праз парэнч пераваліўся...
Да пятлі заліўся або воцату глынуў».

«Самі вінаватыя»,— нас судзяць з абурэннем.
Але ты не слухай тое гнюснае выццё:
Мёртвыя паэты даць не могуць тлумачэнняў.
Тлумачэнні мёртвых — гэта іхняе жыццё.

Як ішлі праз тысячы велічных сражэнняў,
Як крывёй сплывалі ў мностве дробязных баёў,
Йшлі да перамогі праз мільёны паражэнняў,
Сэрца аб грамадства разбіваючы сваё.

Дзе б мы ні памерлі: ў сутарэннях або ў хатах —
Верце ўчынкам нашым ад пачатку да труны.
Нам, што ўмерлі ў полі, як застрэльшчыкі-салдаты
Людскай і апошняй, Божай, праведнай вайны.

*4 жн. 82 г.*
*17.45*

# МІНАШУКАЛЬНІКІ

Ты — археолагаў сучасных зброя,
Ты — на зямлі ў балоце і ў вадзе
Шукаеш гарады, глыбіні крыеш
І проста на паселішчы вядзеш.
Ты — нібы пуцяводная заранка,
Вядзі, пакуль вушэй хапае й воч...
Але замест вясёлкі і світання
Як часта ты прыводзіш нас у ноч!
Вядзеш табой — і вось, здаецца, радасць,
Якая прывядзе цябе паўсюль,
А рыць пачнуць — і вось іржа снарадаў,
І міны йржа, і гнюсь руды ад куль!
Жалезная уся, з металу,
Ты хлусіш нам, шточасна, спакваля,
Ваенным потам і смярдзючым палам
Ушчэнт нашпігаваная зямля.
І вые, як дурны, мінашукальнік,
І ўжо, як той шукальнік, галава!..
О вый, зямля, о вый ад зброі пальнай,
Аж покуль не навучышся спяваць!

*22 верасня 82 г.*
*19 г. Піцунда*

# РАДЗІМЕ

Радзіма,
            стой як горды ўцёс.
У велічы і журбе,
Каб вецер за тысячагоддзе аднёс
Пясчынку адну ад цябе.

І хай той пясчынкаю буду я,
А не мой сусед і не брат.

*22 верасня 82 г.*
*19.53*

## НАТАШЫ Ў ЯЕ ШЭСЦЬДЗЯСЯТ

Вакол нас шляхі і дарогі
І пройма людзей ля двара...
І ўсё ж такі перад Богам
Адны мы з табою, сястра.
Нянька мая дарагая,
Мой абаронца ў бядзе.
Каменні няхай не трапляюць
Пад ногі твае нідзе.
Ні табе, ні тваім дзіцяткам
Каб ніколі не быць у журбе...
Ат, падумаеш, шэсць дзясяткаў —
Яшчэ шэсць дзясяткаў табе.
Сто год яшчэ хай дарогі
Вядуць цябе на гару,
Хай убачыш праўнукаў многіх
І хай любяць цябе, мой друг.
Як жнівеньскі добры вецер
На радасць усім жыві.
Але ўсё ж мы адны на свеце
Такой вось адной крыві.
І калісьці — аж страшна расказваць —
Воддаль парасцяў нашых жывых
Сядзем недзе на прызбу разам
І прыпомнім свой шлях векавы.
Оршу ўспомнім, тую, зялёную,
Бег крыніц ля Дняпра-ракі,
І уральскія эшалоны,
І ў цяплушках салдатаў палкі.
Гэта — наша.
Нашы дарогі.
Тут з табою мы лёсу багі.
Тут з табой мы адны перад Богам,
Сястрычка, мой друг дарагі.

*20 лістапада 1982 г.*

* * *

На празрыста-блакітную роўнядзь мора
Апускаецца сонца чырвоны жаўток.
Заўтра ўстане ён зноў,
І ў імгненні сканання самога быцця
Ёсць імгненне жыцця, і імгненне смерці,
І імгненне веры ў вечнасць жыцця.
Я імгненне жыву, і памру на імгненне,
І у думцы і ў слове маім аджыву.

*[1982 — 1984]*

## [ЭПІТАФІЯ НА ПОМНІКУ ЖОНЦЫ ВАЛЯНЦІНЕ КАРАТКЕВІЧ]

Вечна будуць дрэвы шумець над зямлёй,
Над нашай адвечнай зямлёй,
Над  зямлёй, што была і тваёй, і маёй,
Над зямлёй, што стала цяпер тваёй
І што скора будзе маёй.

*[1984, сакавік]*

## ПЕРАСТАЛІ  БРАЦЬ  ПАДАТАК ЗА БЯЗДЗЕТНАСЦЬ, АЛЕ НЕ ЗНЯЛІ ЯШЧЭ З ВАЙСКОВАГА ЎЧОТУ

Падаткаў стала трохі менш бярэмя,
Старэчай рыссю джгаю за трубой;
Стаў трохі менш прыдатны я на племя,
Але яшчэ прыдатны на забой.

*20 мая 84 г.*
*12.45*

## ВАСІЛЮ БЫКАВУ

Час стагоддзі, як касой, сцінае,
Веры, царствы, догмы йдуць да ценяў...
Ўсё мінае — Гонар не мінае,
Бо народжаны адным сумленнем.

Калі сонца выб’ецца з туману,
Толькі іх і ўспомніць хор народаў,
Воінаў сваіх, святых і зраненых,
Рыцараў сумлення і свабоды.

*[19 чэрвеня 1984]*

# ІНШЫЯ РЭДАКЦЫІ І ВАРЫЯНТЫ

## МАЯ ІЛІЯДА

### **Беларуская песня** (с. 5)

*Рукапіс:*

3 Дзе на стромах Наваградскіх дрэмлюць
18 А жанчыны, як радасны сон у стагах на зары.
31 Днём, калі нам архангелы грымнуць на страшнай трубе...

## ЗЯМЛЯ ЖУРБЫ

### **Дзяўчына пад дажджом** (с. 7)

*Першы, другі рукапісы:*

3—4 І ўспыхнулі раптам гваздзікі
Ў нетрах абмытых траў.
14 Палка, пяшчотна, ўзасос,
17 Дождж зрабіў сваё цуда,
19 Плечы, дзявочыя грудзі,

*Першы рукапіс:*

Пасля 20 радка:

Грудзі, якія будуць
Хутка дачку гадаваць,
Вусны, якія будуць
Словы кахання шаптаць.

**Трасцянец** (с. 8)

*Першы рукапіс:*

Пасля 12 радка:
17 — 20 радкі.
22 І, каб цемра не ўпала на край,

*Першы, другі, трэці, чацвёрты рукапісы:*

21 Мы — прах. Але сэрца наша стучыць.

**Здратаваныя магілы** (с. 9)

*Першы рукапіс:*

4 Дзе ж цяпер ты, мой сыне, мой светлы, мой мілы?
7 За труною людзей — што на полі калоссяў,
20 Мой далёкі, мой блізкі, мой родны, мой мілы.
27 І грымоты над Грамасам білі не ў хвоі,
31 З дальняй, цяжкай, паўночнай тваёй Адысеі
33 І канец... І людскія маўклівыя гурмы.
50 І таму, пакуль гора зямлі не ў магіле —
52 Мой сыночак, мой цёплы, мой добры, мой мілы.

**Балада плахі** (с. 10)

*Рукапіс:*

35 Калі ё ў гэтым свеце вера,

**Балада аб трыццаць першым сярэбраніку** (с. 11)

*Першы рукапіс:*

22 І вяроўку купіў, і яе у пякельнай журбе
70 — 71 Толькі выпадак дай — распаўзецца чумою па свеце,
Закладзе ён і вас, і дзяцей, і ўчарашніх багоў...
74 Досыць! Сэрца хлусні ў яго вырвіце, людзі, з-пад рэбраў.

*Другі рукапіс:*

12 Ўсё адно як зайца, што загнаны крывавай пагоняй,
24 І ударам нагі шар зямны з-пад сябе адштурхнуў.
59 І ніхто не сказаў яму слогам старых беларусаў,

*Першы, другі рукапісы:*

53 А пакольні трапаўся ён прыгожа, то ўсе, як бараны,
62 Па ахранках служыў, па засценках, ад стогнаў глухіх,
66 І жыве. Ўсё жыве, хоць прыціхнуў... заходзе ў ваш дом...

**Крумкачы** (с. 13)

*Рукапіс:*

Пасля 1 радка:

Аголеныя дрэвы сумавалі
Па кветках за бліскучым шклом вітрын.
19 Што чалавек ідзе перада мною,
86 Мы кулі наша вернае сяброўства.

**Пры смерці** (с. 16)

9 — 10 Я б памёр.
Я знаёмы з апошняй тугой
12 Замест слёз і сліны, замест усяго

Пасля 13 радка:

Ля брамы пекла пад Цэрбера брэх,
Два гады са смерцю адзін на адзін,
Выкупляю я невядомы мне грэх
На Галгофе з белых прасцін.
Я не веру, што ноччу знікне яна...
Што адолею цудам... Што стрэну зару...
Гэты ложак — краіна мая і труна,
Белы свет і Беларусь...

**Балада аб асуджаных і аб чалавечым «даруй»** (с. 18)

*Рукапіс*:

24 Божым дзівам, што ўсё маглі:
53 Аб які клапоцімся мы,
62 — 63 Калі вы таксама — радзіма,—
Не дарую радзіме сваёй.

**Балада пра дзіка і чалавека** (с. 20)

*Першы, другі рукапісы, машынапіс:*

Пасля 4 радка:

Ўвесну будуць рыкаць каровы,
Цёплай сытасці прыйдзе край...
Старшыня падумаў сурова,
Стрэльбу даў і сказаў: «Карай!..»
96 А ўначы, калі хмурнае неба
98 Выйшаў я на двор за патрэбай,

**Слова беларускай бярозы** (с. 23)

*Першы, другі рукапісы:*

6 — 7 А вакол, у густым травяным халаду,
Валуны бялеюць, як белыя гусі,

## СТАРЫЯ СУВОІ

**Чашы слёз** (с. 28)

*Другі рукапіс:*

Перад 1 радком:

У адным з музеяў пад Рыгай пабачыў гэтыя чашы. Вада поўніла іх. Горкая вада позняй восені.

*Першы, другі рукапісы:*

52 Лепей, чым слёзы, да Бога дайдуць.

**Самсон** (с. 32)

*Другі рукапіс:*

49 Прыгожай сукі ў разубраным зале!..

**Балада аб нашэсцях** (с. 34)

*Першы, другі рукапісы:*

Пасля 20 радка:

На слядах палонных — рос алмазы,
А на месцы, дзе вяршыўся пір,—
Дым — ад летуценняў, прах — ад казак,
Струны абгарэлыя — ад лір.

*Другі рукапіс:*

24 І — чуйдух! — пастукаў да ракі.

**Скарына пакідае радзіму** (с. 35)

*Другі рукапіс:*

14 Яны у лютых баях
17 З упартасцю паслядоўнай

Пасля 20 радка:

Аленяў лясных чароды
Страляюць з дазволу багоў,
Кіруюць прыгонным народам
Першыя дзеці яго.

Пасля 24 радка:
Хутка нашчадкі катаў,
Такія ж сляпыя краты,
Аб’явяць мяне крылатым,
Мудрым, божым, святым.
Калі ж паспрабую ўваскрэснуць,
Каб справу рабіць далей,—
Зацягнуць старую песню
Пра ерась, касцёр і ялей.

## КАЛІ ПАМІРАЕ КАХАННЕ...

### **Чырвоны шар** (с. 37)

*Рукапіс:*
28 Сумны ў халодным сяйве нябёс,
Пасля 29 радка:
Ляці, як я, ні аб чым не шкадуй.
І аблокам скажы пра мяне.
Маленькі сведка майго: «Даруй»
І яе кароткага: «Не».

### **Фантазія** (с. 38)

*Першы рукапіс:*
1 Знову блукаю пад месяцам сінім.—
5—6 Ноччу ў таемнае гэта сховішча
З блытанай сеці завулкаў начных
18 А пяцярня, што брыльянты ўзяла.
25 Проста да зор халодных упарта
27 Смутныя цені Джульеты Гвічардзі.
33 Потым, як пойдуць у глебу сырую.

### **«Ўкруг месяца туманнае гало...»** (с. 39)

*Трэці рукапіс:*
6 Самотай знішчаны нечалавечай,

### **Калі паміраюць...** (с. 40)

*Першы, другі рукапісы, машынапіс:*
Перад 1 радком:
Калі паміраюць багі — над імі рыдае зямля.

Пан памёр, і дрыяд блакітныя слёзы
Спарадзілі крыніцы па ўсёй зямлі.
Калі памёр Хрыстос (не на крыжы, а ў сэрцах),
Ягоная ўсмешка засталася толькі ўсмешкай дзяцей,
А на іконах, што пісалі ханжы і для ханжэй,
На гэтых іконах — углядзіцеся,— бачная іншая ўсмешка,
Сатанінская ўсмешка з выскалам доўгіх зубоў.

**Песня колаў** (с. 43)

*Першы рукапіс:*
[19] І ёсць вераніцы, з кім можна спаць,
*Другі рукапіс:*
[1 — 2] Кожны раз я дамоў праязджаю
На цягнік міма дома твайго...
[21 — 22] І палае сэрца, як цэпелін
І ў агні, што спаліць на тло.
[48] І цябе... І цябе... І цябе...
[53] Душы родныя дзе? Прадалі і яны.

**Таруская віла** (с. 46)

*Другі рукапіс:*
Пасля назвы, перад 1 радком, як аўтаэпіграф:
Гэты верш застанецца як знак перамогі адвечнай
Простай праўды жыцця над вялікай маною балад.
Гэты верш будзе жыць, як песня на грубай паперы,
Як таруская мальва у слоўніку цяжкім маім.
*(У. Караткевіч)*

## ІНГА І МАРЫЯ

**Жаўранак — звонкая ніць** (с. 55)

*Першы, другі рукапісы:*
[9] За раллёю, тваім зайздросцячы лаўрам.
[16] Зноў цяплеюць разоры і сытая пара

**Мёртвае рэчышча** (с. 56)

*Першы, другі рукапісы:*
[9] Ні прызыў твой, калісьці любы.
[11] Ні апошніх архангелаў трубы

**Крокі ўначы** (с. 56)

*Рукапіс:*

[27] Раптам крокі, гулкія крокі

**Карадаг** (с. 60)

*Другі рукапіс:*

[17] І авечым памётам, і ёдам, і вечным спакоем зямлі.

**Раманс Марылі** (с. 61)

*Першы рукапіс:*

Пасля 16 радка:

Усміхаюцца кемна лабеліі,
Архідэя падступна маўчыць,
Пад руку з камеліяй белай
Ходзяць Кручаныя панічы.

**Дняпро і Ака. Ён і яна** (с. 62)

*Рукапіс:*

[27] У тваіх гарлачыках спіць
[29] У свяцёлках тваіх агні
[31] Чым не муж табе, не жаніх,

*Машынапіс*:

[12] Як начнога змагання дым.

**Туман** (с. 64)

*Другі машынапіс:*

[12] Ад мільёнаў глухіх існаванняў людскіх.

**Каравелы** (с. 66)

*Рукапіс:*

[10] Смярчы лавілі ветразяў сцяной,

**Бахайская чарапаха** (с. 67 )

*Рукапіс:*

Пасля 40 радка:

Я адна толькі сведчу,
Што калісьці было
На Усуры

Залатое,
Багатае,
Грознае царства Бахай.
І таму, што ў вайну
І па самым моцным плачуць,
І таму,
Што й магутныя самыя царствы
Таксама калісьці падуць.

**Легкаважная песенька...** (с. 68)

*Першы рукапіс:*
11 І ў моры рыфаў вострыя свечы

## ТАЎРЫДА

**Дрэва на Чатырдагу** (с. 69)

*Першы рукапіс:*
6 Там пчолы гудуць закахана,
9 — 10 У прысенні пекла, пад спевы
12 Стаіць каравае дрэва,

**Чатырдаг** (с. 69)

*Рукапіс*:
34 Ў парчы з ільду і зорак агнявой —

**Спуск з гор** (с. 71)

*Рукапіс:*
24 Мо анёлы ўскінулі крылы свае

**Лебедзь** (с. 72)

*Першы рукапіс:*
9 Страсаў? Эўкаліптаў пер’е?

**Вадаспад Учан-су** (с. 73)

*Рукапіс:*
1 Як Божая з нябёс пагрозных кара...

**Маладая вясна** (с. 73)

*Рукапіс:*

[5] Снег вяршынь ажывае ў снягах цвіцення.

**Дзве вады** (с. 78)

*Рукапіс:*

[8] Якім бы злым ні здалася яно.

**«Я чакаў цябе тысячы год...»** (с. 79)

*Рукапіс:*

[16] І канец. І канец,
Канец...

**«І бывай. Не трэба шкадаванняў...»** (с. 81)

*Першы рукапіс:*

[5] Цела тваё — сонечныя соты,

**Кінааслы** (с. 81)

*Рукапіс:*

[2] Б’е ў дыхту сценак вецер-дуралей.
[4] Нібы Хрыстос, я еду на асле.
[7] Галіны лаўраў машуць мне «асанну»...
[18] Глядзіце лепей, як на грані ймглы

**Шайтан-Мярдвень** (с. 82)

*Рукапіс:*

[3] Ледзьве паўзу, а ў прорве — крамень.
[7] Я учапіўся за хвост яму,

**Песня Мехмета** (с. 84)

*Рукапіс:*

[30] Хай пад крылляў архангельскіх звон —
[34] Вось крычыць вязь на піхвах крывавых:
[38] З сілай кідаю піхвы ў дрок.

**Маўзалей Джаніке-ханум** (с. 86)

*Першы рукапіс:*

[8] Як Алах, як вада ў пясках.

**Нараканні Насрэдзіна Ахмет-Аха эфендзі** (с. 88)

*Рукапіс:*

11 — 12 Выгортваць студні, што патрэбны ўсім,
На мінарэт, што непатрэбны й Богу?!
32 — 33 Пракляты мой...
Прапашчы...

**Браты па няшчасці** (с. 89)

*Рукапіс:*

9 Лепей давай я гарэлку дастану,

**Усходнія песні** (с. 90)

*Другі рукапіс:*

21 — 23 Без вярблюда,
Без солі
І без вады
Я іду ў пустынях сухіх
28 — 29 Дзе тая пальма,
Што лісцем сваім
34 У льва спытаю,
41 — 43 Пасля 44 радка.

*Трэці рукапіс:*

19 І дні ляцяць
33 Насарога смяротны рог
Пасля 36 радка:
Любых,
Стомленых ног.
40 Таеш ты, як міраж, як дым.
42 Адсутнічае ў трэцім рукапісе.

**Сэрца гары** (с. 93)

*Першы рукапіс:*

7 І зорка, як Божае вока
11 Нібы маг на вялікай эстрадзе
17 — 20 Гімн расколіне Гяур-Баха,
Што анёлаў рассёк ятаган
Ў дні, калі ты змагаўся без жаху
Нават з небам, грозны вулкан.

### **Падмогі** (с. 96)

*Першы рукапіс:*

[7] Я скачу, быццам там адбіраюць

*Першы, другі рукапісы:*

[15—18] Бо цябе ад мяне увозяць,
Бо забыў я цябе, любоў.
Цябе прымушаюць?
Пачакай! Не гасі свячу!

## ВЯРТАННЕ

### **«Ўсё, што было, і ўсё, што часам сніцца...»** (с. 99)

*Рукапіс:*

[5] Зноў ружавеюць шышкі на ялінах,

### **«Падымаюць жоўтыя галовы...»** (с. 99)

*Першы рукапіс:*

[3] Рыба б’ецца ў столь ракі.

### **Чурлёніс** (с. 100)

*Першы рукапіс:*

[13] Як нямую ахвяру сонцу памерламу,
[24] І ўзглашаю. Як Бог:

### **Балада пра сыноў Пітакоса** (с. 101)

*Першы рукапіс:*

Пасля 52 радка:

Якія ў вас смешныя буры!
Як нудна ад вашай ігры,
Парафіяне Дурасці,
Бяздарнасці сакратары!

### **Корчмы** (с. 104)

*Першы рукапіс:*

[1] Па корчмах, з бабамі і лірай за спіною...
[29] Іду па ёй ад самага світання,
[44] Па ўсёй маёй азёрнай старане.

**Надзея лістападу** (с. 105)

*Рукапіс:*

[7—8] На пралцы ў глухой леснічоўцы прадзеш,
У сяйве сафітаў стаіш.

**Белавежскі алень** (с. 106)

*Рукапіс:*

[3] Што ж у чорнай тузе твае мудрыя сумныя вочы,
[13] Ў гэтых чорных тужлівых вачах, бы ў персідскай
красуні, бяздонных
[16] Наш лясны, наш лагодны, трывалы і моцны народ.

**Каложа** (с. 107)

*Першы рукапіс:*

[19] Уся — крышталь сапфірава-сіні,

**Дзядзькаў кубак** (с. 110)

*Рукапіс, машынапісы:*

[34] Рыдлёўкай, гноем, садам і радзімай,

Пасля 58 радка:

Жанчына, што была зямлёй і сонцам,
За срэбранікі прадала мяне.

Пасля 89 радка:

Піў наша гора і атруту нашу,—
Ўсё тое, што павінны б выпіць мы.

**Нашы бярозы** (с. 112)

*Рукапіс:*

[2] Дым мяшаўся з зямлёю. Сцяліўся гар.
[7] Цякла па зямлі маёй цёплая кроў...

**Маленне аб чашы** (с. 113)

*Рукапіс:*

[1] Паплавок то спачне, то пляша,
[3] Нібы поўная сіняя чаша,
[23] Мне, рабу твайму, цяжка загінуць,

**«Па-над шчыраю Шчарай, над шчодраю Шчарай...»** (с. 114)

*Рукапіс:*

[13] Можна верыць. А выжыць? Як там выжыць, о дружа,

**Вільня ў дождж** (с. 115)

*Першы, другі рукапісы:*

[3] Далеч крадзе туман. Ўсё ў звівах, нібы на паперы вяленевай,

Пасля 12 радка:

Ў глотках рынаў хрыпіць, насцярожана замірае,
Быццам ярасць стрымаўшы, бурчыць і чакае з пагрозаю звер.
І, здаецца, пад аркамі вуліц, дзе змрок ад вякоў спачывае,
Крочыць цень Кастуся, насцярожана ўзняўшы каўнер.

Крыкнуць?
Позна!..

**Нявесце Каліноўскага** (с. 115)

*Першы, трэці рукапісы:*

Перад першым радком:

Ён цябе не бачыў ніколі,
Не дарыў табе мокры бэз,
Сэрца, поўнае гневам і болем,
Не паклаў на далоні табе.

*Трэці рукапіс:*

[2] Спеў кахання ляцеў ад ніў,

**Мы** (с. 116)

*Тры рукапісы, тры машынапісы:*

[10] Калі дзіка крычаць брантазаўры, звіваючыся між гінкго
[13] Калі дойлід за смех Хатшэпсут з каменняў узводзіць легенду,
[15] Калі я аддаю ўсе імгненні мае для яе.

**«Як сканаю — душа застанецца...»** (с. 117)

*Рукапіс:*

[8] Вакол драхлай капліцы цвіце,

16 Ціхім звонам мой родны край.
22 Досыць крокі начныя чуяць,
24 Абцяжарваць памяць людскую,—

**«Medusa Ludovisi» ў Рыме** (с. 119)

*Першы рукапіс:*
7—9 Ціха шчоўкнуў будзільнік над вухам.
Папярэдзіў:
Вось-вось зазвініць.

**Землятрус** (с. 119)

*Другі рукапіс:*
12 Шыбануў у кусты насцярожаны трус.
14—15 Пакідаюць нагор'і звяры.
Імчаць, як у летні зыр —
17 Небу крывавы язык.
24 Нівы моршчацца — шорах і хруст.
29 Горы нема равуць: «Ратуй!»

## БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДУ.

**Мой век** (с. 122)

*Першы рукапіс:*
5—6 А ўсё ж ён, напэўна, сасніцца
Мне ў цемры пякельных начэй
10 З падлеткаў выцягваюць кроў
14 Пекіна — вар'яцкі сон...
27—28 Які той цяжар ні будзе,
А веры ён мне не сагне:
33 Я веру ў хрышчоны бомбамі
35—36 Цяжка раслося калоссям,
На вялікім абшары зямлі

**Разведчык** (с. 125)

*Першы, другі рукапісы:*
17—19 Вакол — асколы і лычы,

Слова ўсіх, як джала мяча.
З нянавісцю здраднікам клічуць
21 Атруту смяротную точаць

*Першы рукапіс:*

59—60 І няма на свеце вышэйшага:
Як аднаму на тысячы йсці.

**«Абяцаюць нам новы раскошны дом...»** (с. 131)

*Першы рукапіс:*

2 Але *тут* наш храм і палац.

**Паэт** (с. 131)

*Першы рукапіс:*

20 Брусок — у цемры час спявае ён.

**Надпіс на камені над крыніцай** (с. 135)

*Першы рукапіс:*

7 Душы забітых — аблокі — страчаюць зару.
15 Будзе давеку наш мужны, вялікі народ.

**Шляхі Ігната Буйніцкага** (с. 136)

*Другі рукапіс:*

1 Па дарогах пясчаных, па гразкіх дарогах,
8 Верх кучобрыка марна ловіць зару...
10 І які нязнаны твой шлях, Беларусь!
18 Каб дабіцца, каб даць ім — судом і мерай —
22—23 Што ім,— мо ўжо з магілы адкажаш ты,—
Да загнанай, забітай, мужыцкай мовы,
25—30 Я маўчу. Над кладамі святло і цені
Ў вечным бегу. І вечны няроўны бой,
І таму я міжволі схіляю калені
Перад ранняй, забытай магілай тваёй.
35 І гарэць той славе спакойна, шырока
38 Голас людзям вярнуць і зямлю бацькоў.
39—41 Бо адвеку знаходзілі людзі сілу,
Надрывалі голас, тупілі пяро,
Аддавалі душу, каб яна ажывіла

**Балада пра архангелаў** (с. 139)

*Рукапісы, машынапісы:*
27 — 28 (варыянты):
Ўссядае Гітлер на правым
І Рэйган — на левым крыле.

Ўссядае Гітлер на правым
І Сталін — на левым крыле.

Ўссядае Гітлер на правым
І Махно — на левым крыле.

**Прысенне зімы** (с. 140)

*Першы рукапіс:*
2 Рунь і дрэвы аж сняць аб снягах.
15 — 16 І калматыя конікі білі лёд
Да прамерзлых косаў травы.
20 — 21 Памірае каханы край.
Ноч... Гасцініца... Горад даўно апусцеў.
Пасля 29 радка:
Глуха ў цёмным пакоі. Прыйдзі ў журбе
З гэтых стылых прамерзлых лясоў і палян.
Прыйдзі. Я цябе сагрэю ўласнай крывёю,
Ты, святая зямля.

**Юнацтва маё** (с. 141)

*Другі рукапіс:*
13 Пад сэрцам маім і тваім...
*Першы, другі рукапісы:*
33 Што ж, не пла́чу.

**«Блякла-сіняе неба і чырвань галін...»** (с. 145)

*Рукапіс:*
1 — 2 Бледна-сіняе неба і чырвань галін.
Шапаценне вятрыска. Спадаючы ліст.
5 Як дзявочыя рукі, ствалы бяроз
10 Каб разведаць пра край, дзе пякуць бліны.

**«З вытокаў да вусця ракі, што няспынна бяжыць...»** (с. 149)

*Першы рукапіс:*

[2] Няўхільна адносячы юных і драхлых ладдзі,

**Вуліцы** (с. 150)

*Першы рукапіс:*

[42] Зноў падзе на плечы народа.

**Начная песня** (с. 156)

*Першы, другі рукапісы:*

[21 — 23] Пэўна, лягу пад стогам.
З глыбіняў знямелых
Хай у самым бяскрыўдным і вечным з баёў

**Рэчка Папараць** (с. 156)

*Рукапіс:*

Пасля 32 радка:

У машыне, што праз ноч ляцела,
Я казаў ёй пра разводдзі вод,
Пра лясы мае, пра зорку белую,
Пра легенды тарфяных балот.
І мяне туды закінуў вецер,
І цябе я ў шчасці і тузе
Клічу месяц, і другі, і трэці
У лясах, на ўзгорках, на вадзе.
Калі зорка вочы мне калола
Над садамі у маім акне,
Клікаў я, ў кулак сабраўшы волю:
«Помні, помні, помні пра мяне».
Але ты не прыплыла з разводдзяў,
Не з’явілася праз лісцяў сець.
Што табе нарэшце абыходзіць
Да мяне хоць з ветрам прыляцець?
На каго мне спадзявацца ў згубе?
Што са мною ў гэты цяжкі час?
І ўстае зямны, бязбожны, любы,
І ўстае ў вачах рублёўскі «Спас».
Ён плыве з тваім нясмелым словам
Па гарах, па пушчах, па вадзе

На барвяным ветразі любові,
На зялёным ветразі надзей.
Ён са мной. Сцяг бітвы, сцяг шалёны
Я ўздымаю над лясной ракой.
Выйду супраць тысяч і мільёнаў,
Каб прабіцца да цябе адной.

**Домік Багдановіча** (с. 166)

*Рукапіс:*

2 Пала сцежка жыцця на апошні-апошні парог

**Раманс пра караля, што пакінуў трон** (с. 173)

*Першы рукапіс:*

20 З тых, хто біў і мучыў народ.

**Прарок**

**(***Маналог Кастуся з III акта трагедыі «Кастусь Каліноўскі»)* (с. 181)

*Першы рукапіс:*

3 Не веру ў д’ябла. І не веру ў Бога.
26 Чуць мозг, што тае марна ў агні?

**Дэман** (с. 183)

*Рукапіс:*

23 Дзе міліярды братоў маіх гордых ляцяць,

**Гулянка ў дэкарацыях** *(Малая паэма)* (с. 188)

*Першы, другі рукапісы:*

1 Гродна над морам. Няўжо над морам?
51 Напаўняйце шклянкі —
53 Налівайце іх не на святасць
83 Ноч святога Вальпургія, рук спляценне,
90 — 92 Проста ў д’ябла капыты
Рэквізітарам п’яным рупна падбіты,
Бо ў імгненне стопчуць сярод камянёў...

Пасля 99 радка:

Важны пан, уладар кінасвету цэлага,
Скача, ўзяўшы на рукі сабаку белага,

Бо сабака цяжарны, бо сука ён,
Бо не можа скакаць, як нармальны, ён,
Бо сабаку шкада!..
Звон. Звон.

*Першы рукапіс:*

Пасля 38 радка:

51 — 60 радкі.

58 Праўду, людскасць і радасць у рукі узяць.

*Другі рукапіс:*

Пасля 43 радка:

Што царквы улада?
Мы — народ!
Мы ім, гадам,
Уставім пяро.
Войтам, кардыналам,
Здрадліўцам, панам,
Тлустым папам,
Запечным клапам.

**Паэма пра явар і каліну** (с. 191)

*Другі рукапіс:*

10 — 11 Народ, народ
беларускі,

180 Ні жыта, ні сінь ільноў,

*Першы, другі рукапісы:*

209 І канец балады журботнай,

*Першы рукапіс:*

211 Пра магутны і стройны явар.

**Плошча Маякоўскага (*Паэма*)** (с. 198)

*Рукапіс:*

10 На асфальце ён тае, на газонах ляжыць.
26 (Няўжо сапраўды была?).
28 Размятнуўшы два лёгкіх крыла,
55 Бо ў нас суседзі былі.
66 — 73 Адсутнічаюць у рукапісе.

Перад 74 радком:

Цябе далёка закінуў лёс.
Мінула лета ў журбе.

Пад нізкім скляпеннем шэрых нябёс
Я сёння прыйшоў да цябе.
Звініць ад напругі аўтобуса вось.
У метро паскараю крок.
І вось ён, пад’езд, і дзверы вось.
Званок! —
Адыходзяць дзверы назад...
Бачу тонкія пальцы рукі,
Добрыя вочы, адверты пагляд...
Прыемны хлопец такі.
І адказ яго забівае мне дых:
— Яе няма. Я адзін.
Тэрміновая кансультацыя ў іх.
Пайшла ў дзевяць гадзін.
112 Я адзін без агню і сну.
134 — 135 Не смей, не смей,
Кахай, гары і жыві.
137 — 138 Ніхто,
Ніхто
141 — 142 Да смерці кахай,
У радасці і журбе.

Пасля 144 радка:

На руках яе быў нясцерпны цяжар
Працы, жыцця, вайны,
Але ясным застаўся разумны твар,
Бы ў дні зялёнай вясны.
156 І любім верыць сваім вачам,

Пасля 165 радка:

Ён грудзі праб’е і сэрца праб’е,
І сканаю я ў барацьбе.
Толькі ведай:
Забіўшы сэрца маё,
Ты гэтым сябе заб’еш.
166 І ноч гэтага самага дня.
211 — 212 Не ў «Пекіне»,
Не тут, за тваёй спіной.
216 — 219 Хай пяшчотна, як косы, пагладзяць яго
Дзве прыгожых мужскіх рукі.
І стане іншай, зусім іной
241 І была яна прыгожая, першая.

243 Многа вершаў, найлепшых вершаў
248 Ў адной ракеце з ёю ляцеў.
253 — 254 Людзі, людзі, добрыя людзі
Пачуйце простыя словы мае:
261 Ён сказаў — а я сказаць не магу
263 І сэрца, як лебедзь на мокрым снягу,
278 Сіксцінскай мадонны твар.
280 — 281 Палёт ліхаманкавых мар,
Злітуйся нада мной,
286 Плывеш над маім сталом?
289 Вызвалі з гэтай любоўнай турмы,
307 Я кожнаму стулам лоб бы разбіў,
314 Фарысеі!

**Грубае і ласкавае** *(Паэма)* (с. 207)

*Рукапіс:*
17 — 18 У стрэмя нагой ці ў пень галавой.
У пень галавой!
24 Я многім вочы і сэрцы трывожыў
33 Жартам барола мяне галавой,
48 Ты смяешся? Такога нямае на свеце?
56 Аддайце, сарока. Нямае сілы.
63 Без кахання. Без сонца. Без цеплыні.
106 Брыдкасловіў у доме тваім.
136 Вазьміце язык на замок.
191 Электразваркі змярцвелы агонь.
216 Я хацеў бы рухаць партальныя краны.
Пасля 229 радка:
Дзеці гуляюць. Слата і вецер.
Дом навісае над імі скалой.
Бедныя дзеці. Бедныя дзеці,
Быццам травінкі ў студні гнілой.
239 — 240 Іх трэба вельмі любіць на зямлі.
Каб мая дарагая мяне пакахала,
252 Мне ні ў чым на зямлі нямае патрэбы:
258 Толькі б думы і мукі мае у нетры
278 Два страі. Хутка звінець мячам.
285 Вы каханне забілі кожнаму з нас.
305 Над намі — нямае Бога,
349 — 350 Два прабітыя сэрцы, два сірых кані.

371 Чорны цень уначы.
376 Яны маленькія, хоць з барадамі,

### **Масква — Вечнасць** (с. 221)

*Рукапіс:*
24 Палаючай топкі агонь?
Пасля 61 радка:
Зноў ты..
Другая.
Боль у вачах.
70 — 71 Гады прайшлі.
Забыўся боль.
Жывы з жывым жыве.
І слёз забытых ядучая соль,
Быццам раса на траве.

### **«Дваццаты век, цень верталёта...»** (с. 224)

*Рукапіс:*
7 — 8 Над абеліскамі з нейлона
І горад,
Ад неона сіні.
18 У Бацічэлі і ў Манэ,
26 Манэ — ад снегу за акном.
33 Мне кажуць: моцным без патрэбы

### **Рагнарадзі** (с. 225)

*Рукапіс:*
15 І час зжуе іх даспехі,
38 Талент мне не належаў,
Пасля 50 радка:
Таму, што скрогат жалеза
З музыкай не параўнаць.
54 — 57 Бывай, дарагая, апошняя,
Ўклон глыбокі, і — дзякуй,
Я зразумеў канчаткова:
Не ў ложку мне паміраць.
65 Біўся за мой народ.
84 Тады не крывёй паэты
91 Толькі сардэчныя раны.

## ПАЭТЫЧНЫЯ ТВОРЫ 1961 — 1984 гадоў, ЯКІЯ НЕ ЎВАЙШЛІ Ў ЗБОРНІКІ ПАЭЗІІ

**Вуліца Касманаўтаў** (с. 229)

*Рукапіс:*

7 Тут тонуць дамы ў пажары каралавых арабін —
9 А поруч з імі узносяцца над пенай садоў залатых
12 Па гэтым цёплым пыле я вуды нёс на плячы.
14 Чакае нястрымнага сына з далёкіх-далёкіх дарог...
18 Нідзе ў сусвеце нямае стрэх і кветак такіх,
28 — 29 Каб сэрцу далі вы сілу ў чорны паўночны час.
Вуліца Касманаўтаў сцякае ў лагчыну з гары.
31 — 33 Направа — дамы і краны, і чорны з комінаў дым,
Налева — Дняпро і адхоны, і аблокі над гэтым усім,
А зараз, далёка за поўнач, як згаслі агеньчыкі ўсе,
37 Спявайце, дзяўчаты, спявайце — ўсіх адзіны чакае лёс.
39 Дзякуй за адпачынак. У шатах яблынь драма.

**Нямыя дрэвы** (с. 40)

*Рукапіс на рускай мове:*

НЕМЫЕ ДЕРЕВЬЯ

Над февральским городом такое тяжелое небо,
Что оно наседает на дым и его пригибает к земле.
На февральских улицах такие хмурые лица,
Хмурые, как тучи, как ночь в милиции,
Что не хочется лезть в автобус, а хочется взять такси.
На февральских бульварах такие немые деревья,
Что вороны и те неохотно садятся на них,
Не желая пустую свою сварливость
Тяжело сажать на деревьев вселенскую скорбь.
Ах, немые деревья, немые, как мертвые рыбы,
Немые, как поэты в безвременье, в подлые годы,
Немые, как я, бесцельно идущий под ними,
Потому что она положила запрет на слова о любви.
А о чем мне еще?
Я немею, немею, немею,
Но шаги безнадежные ног, отдаваясь в немых переулках,
Безнадежно и немо вопят против неба немого,

Против хмурых лиц, против этих молчащих
деревьев,
Молчаливых и голых, как древний скелет динозавра.
Каждый шаг — это крик о высоком и солнечном небе,
Голубом, как Эллады лазурь меж колонн Парфенона,
О улыбках, открытых и детских, слепящих,
как огненный лед,
О деревьях, поющих зеленую звонкую песню
О моем разрешенном молчаньи, что в небо
взвивается гимном,
Чтобы мир облететь и к ногам твоим немо упасть.

*12 февраля 62 г.*

**Калі паміраюць...** (с. 40)

*Рукапіс на рускай мове:*

КОГДА УМИРАЮТ...

Когда умирают боги — над ними рыдает земля.
Умер Пан, и дриад голубые слезы
Породили источники всей земли.
Когда умер Христос (и не на кресте, а в сердцах),
Его улыбка осталась только в улыбках детей,
А на иконах, писанных ханжами и для ханжей,
На этих иконах — всмотритесь! — заметна другая
улыбка,
Сатанинская улыбка с оскалом длинных зубов.
Когда умирают деревья — они медленно падают
на землю,
Медленнее пушка одуванчика — и остаются лежать.
Когда умирают животные — они засыпают
в буреломе
Или чернеют на пашне вздувшимся животом,
А над ними хищно влекутся медлительные облака.
Когда умирают города — по анфиладам шагают
рыжие львы
И скользит струйкою ртути змея по упавшим
в музее картинам.
Когда умирают планеты — остаются свинцовые воды
И свистящая песня песка в расселинах скал.

Когда умирает любовь...
Но любовь не умирает.
Она вечно остается в груди ликующей скорбью
слов,
Неутоленною нежностью и безнадежною болью,
Когда ничем не поможешь, хоть сердце о звезды
разбей.
Плачь дриадой, хохочи сатанинской притворной
улыбкой,
Львом бесхвостым шагай, скользи
самоотверженным змеем
Или падалью жалкой валяйся на пахоте жизни —
Всё напрасно. Ничто не поможет. Любовь
бессмертна.
Человек только смертен. Но если деревья не помнят,
Города не помнят, не помнят немые планеты —
Сердце помнит любовь, даже в прах обратив свою
плоть.
О пушистом снеге оно без конца вспоминает,
О следах на снегу, о заснеженных милых ресницах,
О улыбке печальной и о горьких, последних, совсем
невесомых
Поцелуях в запястья, глаза и губ уголки...
Скорбью полное, вспоминает мертвое сердце
И о том, чего не было и не будет уже никогда:
Об огне очага, о навязчивых теплых детских
ладонях,
И о страсти жизнь положить за нее и со вспоротой
грудью
Приползти и издохнуть у ног, спасенных тобой.
Без забвенья издохнуть. Все помнит и мертвое
сердце
И летает, крича, в предсмертной и все же
бессмертной тоске
Над могилами мертвых богов, над
скорбным покоем упавших деревьев,
Над животными, брошенными на пашне,
Над планетами мертвыми и городами —
Словно чибис бессмертный, молящий о капле воды.

*12 февраля 62 г.*

**Мы** (с. 116)

*Рукапіс на рускай мове:*

МЫ

О вселенское, всепобеждающее молчание первой земли.
Когда вышла она из горнила огня и страданья,
Перешла от кипения жизни к мгновению сна и покоя,
К мигу смерти. В объятьях пробыв у огня миллионы столетий,
Остывала, чтоб жизнь молчаливо зачать.
О земля победной, безмозглой и яростной страсти,
Побеждающей в мраке и испареньях,
Когда дико кричат бронтозавры, свиваясь меж гинкго
И дурманными папоротниками в лиловой воде.
О земля побеждающей нежности человечьей,
Когда зодчий возводит за взгляд Хатшепсут
из камня легенду,
Когда мастер мадонн от любви умирает в объятьях любимой,
Когда я отдаю все мгновенья свои для нее.
Кто же мы?
Мы дети твои, мать-земля.
Неизменны мы и, как ты, каждый миг многолики.
Мы из ждущей глины на поле родном,
молчаливой и туго упорной,
Из огня, что бушует под нею, из гнева и страсти,
И из нежности, странно лежащей в губах Нефертити.
Мы такие
И будем такими — вовеки.
Пребудем —
Вовеки.

*12 фев. 62*

**«Чым прагнявіла ты Бога? І чым раззлавала...»** (с. 232)

*Іншы рукапіс, верш Алеся Загорскага ў фінале рамана «Каласы пад сярпом тваім»:*

18—19 «Ў бітвах скрываўлена, каб чалавецтва ўваскрэсла,
Каб на палетках ягоных воля і мова ўзраслі».

**Здратаваныя магілы** (с. 9)

*Рукапіс на рускай мове:*

Еще одно стихотворение. Оно посвящено моему другу, греческому революционеру-эмигранту, чудесному поэту Петросу Антеосу. У него умирала в Афинах мать. Монархические власти не пустили его к ней.

МОГИЛЫ ЗА КОЛЮЧЕЙ ПРОВОЛОКОЙ

Там, где Лесбоса волны по берегу били,
Я тебя родила и растила, любя.
Весны пели на скрипках, и зимы трубили.
Где ж теперь, милый сын мой, искать мне тебя?
Ты не верь докторам. Мне не тяжко пришлося.
Просто взял меня вечер, прозрачен и синь.
Просто люди за гробом моим, как колосья,
Колыхались на улицах скорбных Афин.
Нет, мне не было больно. Не мучайся, милый.
Просто мучало горе, что было нельзя,
По запрету властителей мрака и «мира»,
Быть тебе близ меня, чтоб закрыть мне глаза.
Сквозь просторы морей, сквозь рассветы и ночи
Из могилы, что проволокой оплетена,
Говорю: ты не плачь, мое солнце, сыночек,
Мне теперь для покоя могила дана.
Я привыкла к разлукам с тобою печальным:
Войны, тюрьмы, подполье и Граммоса мгла,
Палачи всех мастей, немцы и англичане,—
Я всю жизнь тебя, сын, бесконечно ждала.
Что мне было до ваших боев кровеносных?
Просто я сберегала от смерти жилье,
И над Граммосом молнии били не в сосны,
Не в сынов, а в открытое сердце мое!
И судьба погнала вас в изгнанье, в изгнанье.
Я ждала тебя из Одиссеи твоей
Так, как жаждут зари. Но — не вышло свиданья.
И — конец. Ведь теряем мы все матерей.
Проклинаю вас, башни, проклинаю, остроги.
Проклинаю,— как самое слово «тюрьма»,—
Всех врагов человека, свободы и Бога,

Убивающих счастье, надежду и май.
Мать рассвета людей, мать сынов человечьих,
Чьей-то адскою властью лишенная их,
Не склонив до кончины печальные плечи,
Умирает мать-Греция в муках моих.
По земле проползают гадюки-границы,
Мхи пытая допросом, траву, валуны.
На земле рудники, казематы, темницы
И — могилы, что проволокой оплетены.
...Меркла искра... И мне показалось: колонны
В доброте и отваге идут за тобой.
На челе твоем — раны, колосья — в ладонях,
Бесконечные стяги горят за спиной.
Жажду встречи с тобой. Но пока не в могиле
Вся великая скорбь колыбели земной,—
Мой сынок, мой далекий, мой храбрый, мой милый,—
Ты не смей, ты не смей повстречаться со мной.

*[1962]*

**Маціцовыя слёзы** (с. 237)

Пасля 54 радка:

Што рабіць, калі скрозь, дзе маркоцяцца лозы,
Па абшарах пясчаных нямога Дняпра,
Замест хлеба — мяхі з маціцовымі слёзамі,
Як стагі: на касе, у чаўнах і ля крам.
О Дняпро, абакрадзены ў нэндзы і горы,
Ўстань! Патопам ачысці ад злыдня гаі,
Змый іх гной са святых, апаганеных гораў,
Адплаці ім, як вечна плаціўся за іх!!!

**«Следапыт гістарычных палёў...»** (с. 238)

*Іншы варыянт:*

Эскамільё архіўных палёў,
Лыцар Кліо — Генадзь Кісялёў.
Не затопча рэгрэсу карова
Дарагога Г. В. Кісялёва.

*6 ліпеня 65 г.*

**Бахайская чарапаха** (с. 67)

*Рукапіс на рускай мове:*

Много столетий назад на территории Приморья существовало государство Бохай. Его уничтожили орды захватчиков.

От него осталось немного, в том числе каменные изваяния черепах.

Мне показалось, что они молчаливо кричат против войны. И еще — говорят о будущем. Так вот, говорит —

БОХАЙСКАЯ ЧЕРЕПАХА

Я — Бохайская черепаха,
Я — на чреве сонно лежу.
Я — из камня.
Мое царство рухнуло прахом
Под пятою китайцев,
Киданей,
Монголов,
Маньчжур.
Я познала тщету:
Где дороги, сквозь сопки пробитые,
Пролегали когда-то,—
Там теперь среди рыжей травы
Только мы и остались:
Черепахи гранитные,
Обезьяны гранитные
И гранитные львы.
Ровно восемь столетий
Я лежу среди праха...
Уссурийские тигры одни,
Когда гаснет сияние дня,
Подползают и смотрят
Золотыми глазами
На меня,
Черепаху,
Что одна умудрилася
В вечность удрать из огня.
Я лежу здесь, чтоб вы

Не забыли захватчиков хмурых,
И кровавые войны,
Что родной уничтожили край.
Я — единый свидетель того,
Что когда-то жило на Уссури
Золотое,
Богатое,
Грозное царство Бохай.
И поскольку война
Даже самых могучих обидит,
И поскольку в войну
Даже самые мощные царства падут.
Я иду,—
Только люди слепые не видят,—
Черепаха истории.
Я размеренно к солнцу иду.
Я дойду.
Все равно —
Я дойду.

*[1 верасня 1965 г., Уладзівасток]*

**«Месяц над садам, ад квецені белым...»** (с. 240)

11 Воды пратокаў стогнам рыдаюць,
Кветкі разводжу і шэптам гукаю,

**«У золь і туман Вы святло мне і радасць...»** (с. 248)

*Іншы рукапіс:*

1—3 У асеннюю золь Вы святло і радасць,
Адзіная зорка у змрочны час...
Аддаў бы я нават маю «Іліяду»,
9 З княскім запалам я вып’ю літру,
11 Кіну яму на палітру пальчатку,
13 Самаахвярна, ў апошняй скрусе

## КАМЕНТАРЫІ

У другі том Збору твораў Уладзіміра Караткевіча ўключаны яго паэтычныя творы 1961 — 1984 гг.

Першы раздзел складаюць творы са зборніка «Мая Іліяда» (1969), другі раздзел — творы са зборніка «Быў. Ёсць. Буду.» (1986), трэці раздзел — паэтычныя творы 1961 — 1984 гг., якія не ўвайшлі ў гэтыя зборнікі. Творы трэцяга раздзела друкаваліся ў перыядычных выданнях ці былі выяўлены ў архівах і размешчаны ў храналагічным парадку.

У каментарыях падаюцца: крыніца, паводле якой друкуецца твор, час яго першай публікацыі, пры магчымасці — дата яго напісання, наяўнасць рукапісных, машынапісных і друкаваных варыянтаў.

Пры ўстанаўленні аўтэнтычнага тэксту і напісанні каментарыяў выкарыстаны галоўным чынам рукапісныя, машынапісныя і друкаваныя матэрыялы, якія захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі (АРКіР ЦНБ НАН Беларусі), Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ), Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, Цэнтральным маскоўскім архіве-музеі асабістых збораў [Центральном московском архиве-музее личных собраний (ЦМАМЛС), ф. 113], асабістым архіве У. Караткевіча, у яго сяброў і знаёмых.

У асноўным тэксце падаюцца прысвячэнні, якія ёсць у рукапісах і машынапісах асобных паэтычных твораў, але адсутнічалі ў іх тэкстах, змешчаных у зборніках «Мая Іліяда», «Быў. Ёсць. Буду.».

## МАЯ ІЛІЯДА

Чарнавікі і белавікі паэтычных твораў, якія ўвайшлі ў зборнік вершаў «Мая Іліяда», захоўваюцца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 1—52.

Чарнавікі, белавікі і машынапісы варыянта зборніка вершаў і паэм «Землятрус» (адна з ранніх назваў зборніка «Мая Іліяда») — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 1 — 78.

Машынапісы, з рукапіснымі праўкамі аўтара і пазнакамі нявызначанай асобы, зборніка «Землятрус» (вершы і паэмы) — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 7, с. 1 — 47.

Ранні машынапісны і рукапісны няпоўны варыянт зборніка «Мая Іліяда» — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 4, с. 1 — 94. Гэты варыянт мае раздзелы «Старыя сувоі», «Калі памірае...» (у кніжным выданні зборніка — «Калі памірае каханне...»), «Інга і Марыя», «Каравелы», «Таўрыда», «Вяртанне».

Чарнавікі, белавікі, машынапісы паэтычных твораў раздзела «Здратаваныя магілы», што склалі раздзел «Зямля журбы» кніжнага выдання «Маёй Іліяды»,— у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 8, с. 1 — 25.

Ранні машынапісны, з рукапіснымі праўкамі аўтара, няпоўны варыянт зборніка «Мая Іліяда» (вершы і паэмы) — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 10, с. 1 — 172. Гэты варыянт мае раздзелы «Здратаваныя магілы» (у кніжным выданні — «Зямля журбы»), «Старыя сувоі», «Калі памірае...» (у кніжным выданні — «Калі памірае каханне...»), «Інга і Марыя», «Каравелы» (вершы гэтага раздзела «Цюляня», «Каравелы», «Бахайская чарапаха», «Легкаважная песенька, якую я спяваў, ідучы да каханай цераз хрыбет Мангугай» сталі заключнымі вершамі раздзела «Інга і Марыя» ў кніжным выданні зборніка), «Таўрыда», «Вяртанне». У кніжным выданні «Маёй Іліяды» адсутнічаюць наступныя паэтычныя творы гэтага варыянта: «Балада пра архангелаў», «Юнацтва маё», «Энкелад», «Маціцовыя слёзы», «Вуліцы», «Сведка», «Тагасветнае», «З вытокаў да вусця ракі, што няспынна бяжыць...», «Дуб», «Амаль хрысціянскі тост за ворагаў», «О любоў мая, Беларусь!..», фрагменты з трагедыі «Смерць і неўміручасць Кастуся Каліноўскага», «Дэман».

Машынапісы, з рукапіснымі праўкамі аўтара, няпоўнага варыянта зборніка «Мая Іліяда» (вершы і паэмы) — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 11, с. 1 — 225. Гэты варыянт мае раздзелы «Здратаваныя магілы» (у кніжным выданні — «Зямля журбы»), «Старыя сувоі», «Калі памірае...» (у кніжным выданні — «Калі памірае каханне...»), «Інга і Марыя», «Каравелы» (вершы

гэтага раздзела «Цюляня», «Каравелы», «Бахайская чарапаха», «Легкаважная песенька, якую я спяваў, ідучы да каханай цераз хрыбет Мангугай» сталі заключнымі вершамі раздзела «Інга і Марыя» ў кніжным выданні зборніка), «Таўрыда», «Вяртанне».

У кніжным выданні адсутнічаюць наступныя паэтычныя творы гэтага варыянта: «Балада пра архангелаў», «Юнацтва маё», «Энкелад», «Бывай», «За перавал, сябрам», «Зацвітае дрэва Іудзіна», «Маціцовыя слёзы», «Вуліцы», «Сведка», «Тагасветнае», «З вытокаў да вусця ракі, што няспынна бяжыць...», «Дуб», «О любоў мая, Беларусь!..», фрагменты з трагедыі «Смерць і неўміручасць Кастуся Каліноўскага», «Дэман». Некаторыя з іх пазней былі ўключаны У. Караткевічам у кнігу паэзіі «Быў. Ёсць. Буду.», некаторыя не друкаваліся пры яго жыцці.

У згаданых вышэй варыянтах зборніка «Мая Іліяда» адсутнічае верш «Беларуская песня», які адкрываў кніжнае выданне гэтага зборніка.

Карэктура зборніка «Мая Іліяда» — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 3, с. 1 — 96. Маюцца рукапісныя ўстаўкі аўтара да верша «Бахайская чарапаха», с. 50 адв.

### **Беларуская песня** (с. 5)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда». Мінск: Беларусь, 1969. С. 6 — 7.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 10, з датай і месцам напісання: *16 красавіка 68 г., Брэст.*

## ЗЯМЛЯ ЖУРБЫ

### **Дзяўчына пад дажджом** (с. 7)

Упершыню — кн.: «Мая Іліяда», с. 10.

Рукапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 2, з датай: *18.IV.60*; у БДАМЛМ, ф. 56: 2) воп. 2, спр. 15, с. 5 адв., прыкладзены ў лісце да Ю. К. Гальперына за 20.04.60 г.; 3) воп. 1, спр. 20, с 2.

### **Трасцянец** (с. 8)

Упершыню — газ. «Ніва», 1966, 13 сак.; кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Беларусь, 1966. С. 100 — 101.

Рукапісы: 1) у БДАМЛМ, ф. 41, воп. 1, спр. 864, с. 14; у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 2) воп. 1, адз. зах. 7, с. 84; 3) воп. 1, адз. зах. 10, с. 2; 4) воп. 2, адз. зах. 6, с. 16.

*Трасцянецкі лагер смерці* ў Вялікую Айчынную вайну створаны нямецкімі фашыстамі ў лістападзе 1941 г. каля вёскі Малы Трасцянец Мінскага раёна (цяпер у межах г. Мінска) для масавай загубы савецкіх грамадзян і ваеннапалонных, палітычных вязняў нямецкіх турмаў і лагераў, яўрэяў з Аўстрыі, Германіі, Польшчы, Чэхаславакіі. Усяго ў Трасцянецкім лагеры смерці загублена 206,5 тысяч чалавек. Па колькасці знішчаных людзей гэты лагер стаіць на чацвёртым месцы пасля Асвенціма, Майданака і Траблінкі.

**Здратаваныя магілы** (с. 9)

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1963, № 5, с. 81 — 82.

Рукапісы: 1) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 20, с. 3, з прысвячэннем Петрасу Антэасу і датай: *11 снежня 62*; у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 2) воп. 2, адз. зах. 8, с. 4 — 4 адв., з прысвячэннем Петрасу Антэасу; 3) на рускай мове воп. 1, адз. зах. 7, с. 21— 21 адв.

*Антэас Петрас* (нар. у 1920 г.) — грэчаскі пісьменнік. З 1949 г. жыў у СССР, палітэмігрант. У 1958 — 1960 гг. вучыўся з У. Караткевічам на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. У. Караткевіч пераклаў на беларускую мову яго п’есу «Праметэй перад трыбуналам».

*Лесбас* — востраў у Эгейскім моры, каля ўзбярэжжа паўвострава Малая Азія. Тэрыторыя Грэцыі. Адзін з цэнтраў старажытнагрэчаскай культуры.

**Балада плахі** (с. 10)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 14 — 15.

Рукапіс — у асабістым архіве пісьменніка, з прысвячэннем Сяргею Панізніку, датай і месцам напісання: *15 красавіка 68 г., Брэст.*

Машынапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 10, с. 8 — 9, прысвячэнне Сяргею Панізніку закрэслена; 2) адз. зах. 11, с. 7 — 8, з прысвячэннем Сяргею Панізніку.

*Панізнік Сяргей* (нар. у 1942 г.) — беларускі паэт і перакладчык. У. Караткевіч называў яго «Лермантавым беларускай паэзіі». Ён запісаў вершы і песні ў выкананні У. Караткевіча.

*Кастылія* — гістарычны рэгіён на паўночным захадзе Іспаніі.

*Бастылія* — крэпасць у Парыжы ў XIV — XVIII стст. Пабудавана ў 1370 — 1382 гг. У XV ст. ператворана Людовікам XIV у турму. У канцы XVI ст. тут трымалі пераважна палітычных зняволеных. Была сімвалам дэспатызму Бурбонаў. 14 ліпеня 1879 г. паўстанцы штурмам узялі Бастылію, што стала пачаткам Французскай рэвалюцыі 1789 — 1799 гг. У 1790 г. Бастылія разбурана. З 1880 г. у Францыі дзень 14 ліпеня святкуюць як нацыянальнае свята.

**Балада аб трыццаць першым сярэбраніку** (с. 11)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 16 — 18.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 7, с. 5 — 7 адв.; 2) воп. 2, адз. зах. 8, с. 9 — 10, з датай і месцам напісання: *20 красавіка 68 г., Брэст.*

*Фарысеі* — грамадска-рэлігійная плынь у Іудзеі ў ІІ ст. да н. э. — ІІ ст. н. э. Мелі вялікі ўплыў на народныя масы і часам узначальвалі народныя паўстанні. Ёсць сведчанні і пра ўзаемную варожасць фарысеяў і простага люду. У пераносным сэнсе фарысеі — крывадушнікі, ханжы.

*Брахма, Брама* — у брахманізме і індуізме адзін з асноўных багоў, творца Сусвету, яго ўвасабленне і душа. Яго ўяўляюць чырвоным, з барадой, чатырохтварым і васьмірукім. Практычна культ Брахмы адсутнічае. Лічыцца, што Брахма трасфармаваў рэчаісны свет з Адзінага. Канчатковай жа мэтай усіх вернікаў індуісцкіх рэлігій з'яўляецца дасягненне супрацьлеглага — растварэння ў Вечным і Адзіным. Індуісцкія ўяўленні пра касмічныя цыклы стварэння і разбурэння звязаны з «днём», «ноччу», «годам» Брахмы.

*Бруна Джардана* (1548 — 1600) — італьянскі філосаф-матэрыяліст, паэт. Выступаў супраць каталіцызму, схаластыкі і цемрашальства. Быў абвінавачаны інквізіцыяй у ерасі і вальнадумстве, пасля 8-гадавога зняволення ў турме спалены. Абапіраючыся на геліяцэнтрычную сістэму М. Каперніка і дапаўняючы яе новымі палажэннямі, Бруна выказваў думкі, што Сусвет не абмяжоўваецца Сонечнай сістэмай, а Сонца не з'яўляецца абсалютным цэнтрам Сусвету, яно рухаецца і мяняе сваё становішча адносна зорак, што існуе бясконцае мноства светаў. Аўтар антыклерыкальнай сатырычнай паэмы «Ноеў каўчэг», камедыі «Падсвечнік» (1582), філасофскіх санетаў.

**Крумкачы** (с. 13)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 19 — 21.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 4 — 4 адв., пад назвай «Пеўнік. Крумкачы. Сэрца», з датай і месцам напісання: *снежань 60. Рыга — Масква.*

**Пры смерці** (с. 16)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 22 — 23.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 5 — 5 адв., з датай і месцам напісання: *20.IV.65. Шагол.*

*Шагол* — пасёлак, цяпер у межах г. Чалябінск (Расія), дзе ў той час жыла з сям'ёй Наталля Кучкоўская, старэйшая сястра Уладзіміра Караткевіча.

**Балада аб асуджаных і аб чалавечым «даруй»** (с. 18)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 24 — 26.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 17 — 18, з датай і месцам напісання: *14 лістапада 65. Рагачоў. 13 гадз.*

**Балада пра дзіка і чалавека** (с. 20)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 27 — 30.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 6, с. 5 — 5 адв., з датай: *11 студз. 63 г.*; 2) адз. зах. 11, с. 2, пад назвай «Дзік».

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 9, с. 9 — 12, з прысвячэннем Анатолю Забалоцкаму і датай: *11 студз. 63 г.*

*Забалоцкі Анатоль* (нар. у 1935 г.) — кінааператар-пастаноўшчык, фотамастак, пісьменнік, грамадскі дзеяч, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1967) і Расіі (1976). У 1960 — 1969 гг. працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм». Удзельнічаў у стварэнні 15 мастацкіх і дакументальных фільмаў «Праз могілкі» (1965), «Сведкі вечнасці» (1965), «Альпійская балада» (1966), «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» (1967), «Печкі-лавачкі» (1972), «Каліна чырвоная» (1974), «Слова маці» (1978) і інш.

**Слова беларускай бярозы** (с. 23)

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1966, № 2, с. 20.

Рукапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 23, з датай: *18.II.62, 23.55*; 2) у БДАМЛМ, ф. 37, воп. 1, спр. 298, с. 51.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 8, с. 24 — 25, з прысвячэннем Міхасю Рудкоўскаму.

*Рудкоўскі Міхась* (1936 — 1991) — беларускі паэт, перакладчык.

## СТАРЫЯ СУВОІ

**І сніў Адам...** (с. 24)

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1966, № 2, с. 20.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 1, з прысвячэннем N.N., датай і месцам напісання: *9 жніўня 62 г., Рагачоў.*

*Рагнеда Рагвалодаўна* (?—1000) — полацкая князёўна, дачка полацкага князя Рагвалода, жонка вялікага князя Уладзіміра Святаславіча, маці князя Ізяслава Уладзіміравіча. Паводле летапісаў, адхіліла сватанне Уладзіміра Святаславіча, які тады княжыў у Ноўгарадзе. Каля 980 г. Уладзімір захапіў Полацк, забіў бацьку, маці і двух братоў Рагнеды Рагвалодаўны, а яе гвалтоўна зрабіў сваёй жонкай і даў славянскае імя Гарыслава. З пачуцця помсты Рагнеда Рагвалодаўна зрабіла няўдалы замах на жыццё мужа. Уладзімір хацеў пакараць яе, але за маці заступіўся сын Ізяслаў. Тады Уладзімір саслаў Рагнеду Рагвалодаўну і сына ў г. Ізяслаўль (Заслаўе). Паводле падання, пасля хрышчэння Уладзіміра і ліквідацыі яго гарэма Рагнеда Рагвалодаўна адмовілася другі раз выйсці замуж і пастрыглася ў манашкі пад імем Анастасіі. Каля Заслаўя назвы ўрочышчаў звязаны з імем Рагнеды Рагвалодаўны.

*Хірасіма, Хіросіма* — горад у Японіі, на паўднёвым захадзе вострава Хонсю. У Другую сусветную вайну падвергнуты атамнай бамбардзіроўцы (6.08.1945) амерыканскай авіяцыяй. Ад выбуху загінула больш за 200 тысяч чалавек, разбурана каля 75 тысяч будынкаў. Многія жыхары памерлі пасля вайны ад хвароб, звязаных з радыяцыяй. Адбудавана, на месцы выбуху атамнай бомбы ў Хірасіме ўзведзены мемарыяльны комплекс Міру.

### **Апошняя песня Дантэ** (с. 25)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 36 — 38.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7: 1) с. 40 — 41, з датай і месцам напісання: *3.I.62. Орша*; 2) с. 46, няпоўны.

*Дантэ Аліг'еры* (1265—1321) — італьянскі паэт. Вяршыня творчасці Дантэ «Боская камедыя». Гэта манументальны твор позняга сярэднявечча ўяўляе сабой энцыклапедыю філасофіі, касмагоніі, рэлігіі, маралі, палітычных поглядаў еўрапейскага чалавека напярэдадні Адраджэння.

*Кашкурэвіч Арлен (Арсен)* (нар. у 1929 г.) — беларускі графік, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1973), народны мастак Беларусі (1991). Ілюстраваў творы У. Караткевіча.

### **Чашы слёз** (с. 28)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 40 — 41.

Рукапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 2, з датай і месцам напісання: *11 снежня 60 г. Рыга — Масква*; 2) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 20, с. 8 — 8 адв.

**Чорная балада Гаркушы** (с. 30)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Беларусь, 1965. С. 78 — 80.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, пад назвай «Чорная балада»: 1) с. 53 — 54, з датай і месцам напісання: *7.VII.63. Мінск*; 2) с. 57 — 58.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 4, с. 7 — 9, з датай і месцам напісання: *7.VII.63. Мінск.*

*Гаркуша Ілья* — адзін з кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў у час народна-вызваленчай вайны 1648 — 1651 гг. на Украіне і Беларусі.

**Самсон** (с. 32)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 45 — 47.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 7, с. 38, няпоўны; 2) воп. 2, адз. зах. 6, с. 14 — 14 адв., з датай: *24.XI.61. 2 г. ночы.*

*Самсон* (у Бібліі, Стары Запавет) — старажытнаяўрэйскі герой-асілак, надзелены звышчалавечай сілай і адвагай. Здзейсніў шматлікія подзвігі ў барацьбе з філістымлянамі, але закахаўся ў філістымлянку Далілу, якая выведала, што неадольная сіла Самсона — у яго валасах. У час сну філістымляне абстрыглі Самсона, асляпілі і закавалі ў ланцугі. Калі валасы ў Самсона адраслі, ён разбурыў храм, пад абломкамі якога загінулі філістымляне і Самсон.

**Балада аб нашэсцях** (с. 34)

Упершыню — газ. «Ніва», 1966, 24 крас.

Рукапісы: 1) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 19, с. 1, з датай і месцам напісання: *16.III.62. Масква*; 2) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 16.

**Скарына пакідае радзіму** (с. 35)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 49.

Рукапісы пад назвай «Скарына»: 1) у лісце да Янкі Брыля за 30.03.1959 г. (з Масквы); у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 2) воп. 2, адз. зах. 47, с. 2; 3) воп. 1, адз. зах. 7, с. 80; 4) воп. 1, адз. зах. 8, с. 3, пад назвай «Скарына пакідае радзіму» і прысвячэннем Вячаславу Рагойшу.

*Скарына Францыск* (каля 1490 — каля 1551) — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, асветнік-гуманіст, пісьменнік, грамадскі дзеяч, вучоны-медык.

*Рагойша Вячаслаў* (нар. у 1942 г.) — беларускі літаратуразнавец, перакладчык, доктар філалагічных навук (1993), прафесар (1994), акадэмік Міжнароднай АН Еўразіі (з 1994).

**«О каханне маё бясконцае...»** (с. 36)

Упершыню — кн. «Мая Ііяда», с. 52.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 7, с. 50, з датай і месцам напісання: *28.IV.61*; 2) воп. 2, адз. зах. 6, с. 25.

**«Я іду лугавою дарогай...»** (с. 36)

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1968, № 1, с. 14.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 7, с. 51, з датай*: май 61 г.*; 2) воп. 2, адз. зах. 6, с. 26.

**Чырвоны шар** (с. 37)

Упершыню — кн. «Мая Ііяда», с. 54.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 49, з датай: *Ноч 19-га ліп. 61 г. 1 гадз.*

**Фантазія** (с. 38)

Упершыню — кн. «Мая Ііяда», с. 55 — 56.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 8, с. 4; 2) воп. 2, адз. зах. 47, с. 4.

*Бетховен Людвіг ван* (1770 — 1827) — нямецкі кампазітар, піяніст, дырыжор, прадстаўнік венскай класічнай школы.

*Лермантаў Міхаіл* (1814 — 1841) — рускі пісьменнік.

*Петрарка Франчэска* (1304 — 1374) — італьянскі паэт, вучоны-гуманіст эпохі Адраджэння.

*Катул Гай Валерый* (87 ці 84 да н. э. — каля 54 да н. э.) — старажытнарымскі паэт. Яго вершы У. Караткевіч перакладаў на беларускую мову.

*Багдановіч Максім* (1891 — 1917) — беларускі паэт, перакладчык, літаратуразнавец, празаік.

*Гвічардзі Джульета* (1782 — 1856) — аўстрыйская піяністка і спявачка. Бетховен прысвяціў ёй «Месяцавую» санату. Дзяўчына пакарыла сэрца маладога кампазітара, а потым жорстка разбіла яго.

*Лота* — гераіня рамана І. В. Гётэ «Пакуты маладога Вертэра». Яна адмовіла Вертэру ў каханні, што прывяло таго да смерці.

*Лесбія* — псеўданім, якім стажытнарымскі паэт Гай Валерый Катул называе ў лірыцы сваю каханую.

### **«Ўкруг месяца туманнае гало...»** (с. 39)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 57.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 79, з датай і месцам напісання: *5 лютага 66 г., Рагачоў*; 2) адз. зах. 8, с. 5, з пазнакай: *5 лютага 1966 г., Рагачоў*; 3) адз. зах. 10, с. 3.

### **Нямыя дрэвы** (с. 40)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 58.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 7, с. 61; на рускай мове воп. 2, адз. зах. 56, с 1.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 27.

### **Калі паміраюць...** (с. 40)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 59 — 60.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 7, с. 73; 2) воп. 2, адз. зах. 6, с. 28 — 28 адв. (верш на рускай мове «Когда умирают...», рукапіс якога захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 6, с. 4, мае дату: *12 фев. 62 г.*).

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 4, с. 21 — 22, з прысвячэннем Вячаславу Зайцаву.

*Зайцаў Вячаслаў* (1917 — 1992) — беларускі літаратуразнавец-славіст, перакладчык.

### **Снягір** (с. 42)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 61.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 82, пад назвай «Снягур», з датай і месцам напісання: *10 лютага 60 г., Орша.*

### **Песня колаў** (с. 43)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 62 — 64.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 11, с. 1; 2) воп. 2, адз. зах. 6, с. 29 — 29 адв., з датай і месцам напісання: *7.III.65, Карал. 23.40.*

Верш напісаны ў былым Доме творчасці Саюза пісьменнікаў БССР «Каралішчавічы» ў Мінскім раёне, на паўднёвы ўсход ад Мінска.

*Каноса* — замак у паўночнай Італіі, пабудаваны ў X ст. Тут у студзені 1077 г. адбылася значная падзея ў гісторыі барацьбы за

інвестытуру. Адлучаны ад каталіцкай царквы і пазбаўлены прастола, імператар «Свяшчэннай Рымскай імперыі» Генрых IV у рыззі і босы тры дні прасіў тут даравання і літасці ў свайго праціўніка Рымскага Папы Грыгорыя VII. З таго часу выраз «ісці ў Каносу» азначае згоду на зневажальную капітуляцыю.

*Дэга Ілер Жэрмен Эдгар* (1834 — 1917) — французскі мастак, скульптар.

*Курбэ Жан Дэзірэ Гюстаў* (1819 — 1877) — французскі жывапісец, скульптар, заснавальнік рэалізму, адзін з папярэднікаў імпрэсіянізму.

*Пікасо, Пікаса Пабла* (1881 — 1930) — французскі мастак, скульптар, графік, кераміст, дызайнер іспанскага паходжання, адзін з найбуйнейшых прадстаўнікоў авангардызму, заснавальнік (з Ж. Бракам) кубізму.

*Этна* — дзеючы вулкан на востраве Сіцылія ў Італіі.

**Імпрэсія** (с. 45)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 65.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 30, з датай і месцам напісання: *15 крас. 65 г. 11.45. Шагол.*

*Шагол*, гл. каментарый да верша «Пры смерці».

**Таруская віла** (с. 46)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 66 — 70.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 26 — 27, пад назвай «Таруская віла» (Паэма) з датай і месцам напісання: *Жнівень. Таруса ў Шчарбакова — 15 сакавіка 68*; 2) адз. зах. 8, с. 6 — 9, пад назвай «Таруская віла» (Паэма) з датай і месцам напісання: *Жнівень 67 г., Таруса — 15 сакавіка 68 г., Мінск — Брэст.*

*Таруса* — старажытны рускі горад, размешчаны ў Калужскай вобласці, у 130 км на поўдзень ад Масквы, на высокім беразе Акі, дзе ў яе ўпадае рака Таруска. Горад мае статус прыродна-архітэктурнага запаведніка, унесены ў пералік гістарычных гарадоў Расіі.

У нашы дні Таруса набыла статус культурнага цэнтра, з гэтым горадам звязаны гісторыі жыцця і творчасці вядомых пісьменнікаў і рэжысёраў. Ганаровымі грамадзянамі горада з’яўляюцца пісьменнік Канстанцін Паўстоўскі і краязнаўца Іван Бадроў. У розныя часы ў горадзе жылі і працавалі паэтэсы Марына Цвятаева і Бэла Ахмадуліна, паэт Мікалай Забалоцкі, пісьменнікі Антон Чэхаў, Аляксей Новікаў-Прыбой, рэжысёр Арсен Таркоўскі і інш. У Тарусе жыў і працаваў таксама і Уладзімір Караткевіч.

*Казакоў Юрый* (1927 — 1982) — рускі пісьменнік-празаік.

*Станіслаўскі* (сапр. Аляксееў) *Канстанцін* (1863 — 1938) — расійскі рэжысёр, акцёр, педагог, тэарэтык тэатральнага мастацтва, рэфарматар тэатра, народны артыст СССР (1936).

*Хэмінгуэй Эрнэст* (1899 — 1961) — амерыканскі пісьменнік.

*Мікеланджэла Буанароці* (1475 — 1564) — італьянскі скульптар, жывапісец, архітэктар, паэт, адзін з найбуйнейшых прадстаўнікоў Адраджэння.

*Вакар Сяргей* (1928 — 1998) — беларускі скульптар, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1978).

*Глебаў Аляксей* (1908 — 1968) — беларускі скульптар, народны мастак Беларусі (1955).

*Бембель Андрэй* (1905 — 1986) — беларускі скульптар, народны мастак Беларусі (1955), прафесар (1962).

*Краўчанка Ігар* (1926 —1998) — беларускі скульптар.

*Канова Антоніо* (1757 — 1822) — італьянскі скульптар, буйнейшы прадстаўнік італьянскага класіцызму.

*Яхмес* (вядомы таксама як Яхмос I, Ахмос ці Амасіс I) — фараон Старажытнага Егіпта, які кіраваў прыблізна ў 1580 — 1559 гг. да н. э.

*Неферціці* — старажытнаегіпецкая царыца (канец XV — пачатак XIV ст. да н. э.), жонка Аменхатэпа IV. Разам з мужам праводзіла рэлігійную рэформу (пераход да адзінабожжа), пасля якой атрымала імя Нефер-Неферу-Атон («цудоўная прыгажосць Атона»). Яе называлі «Дасканалая», яе твар упрыгожваў храмы па ўсёй краіне. У 1912 г. у Амарне (паселішча паблізу Каіра) была раскапана майстэрня скульптара Тутмеса з партрэтамі Неферціці.

**«Зноў над ракою чаплі сівыя...»** (с. 50)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 71.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 64.

Машынапісы: у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах 6: 1) с. 31; 2) с. 46; 3) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 21, с. 10.

**«О вясна! Таполі! Свеце мілы!..»** (с. 50)

Упершыню — газ. «Ніва», 1965, 25 крас.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 7, с. 63; 2) воп. 1, адз. зах. 11, с. 3, пад назвай «Крылы залатыя»; 3) воп. 2, адз. зах. 56, с. 3, з датай і месцам напісання: *8 мая 62. Рагачоў.*

Машынапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 32 — 33; 2) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 21, с. 17 — 18.

**Жанчыне з бэзам** (с. 52)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 76 — 77.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7: 1) с. 65 — 65 адв., пад назвай «Жанчына з бэзам» і прысвячэннем Л...; 2) с. 66, пад назвай «Жанчына з бэзам», прысвячэннем Л..., з датай і месцам напісання: *4.V.62. Рагачоў.*

Машынапісы — пад назвай «Жанчына з бэзам» і прысвячэннем Л...— у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 4, с. 32 — 33; 2) воп. 2, адз. зах. 6, с. 34 — 35; 3) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 21, с. 8 — 9.

**Шчасце** (с. 53)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 78.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 59, з прысвячэннем В. Ч. і датай: *14 сак. 62. 1.30 ночы.*

Машынапіс — у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 21, с. 16.

*В. Ч.*— Валянціна Папова (Чакалава; нар. у 1940 г.), маскоўская знаёмая У. Караткевіча (гл. яе ўспаміны пра У. Караткевіча «Помню яго маладым», надрукаваныя ў часоп. «Полымя», 2000, № 11, с. 143—154).

**«Бацькі з магіл цяплом дыхнулі...»** (с. 54)

Упершыню — газ. «Ніва», 1966, 10 крас.

Рукапісы: 1) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 20, с. 2а адв., з пазнакай: *15.IV.62*; 2) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 37.

**Жаўранак — звонкая ніць** (с. 55)

Упершыню — часоп. «Маладосць», 1963, № 5, с. 82.

Рукапісы — у БДАМЛМ: 1) ф. 56, воп. 1, спр. 20, с. 2а, з пазнакай: *15.IV. 62. Мінск. Першы верш у новым пакоі*; 2) ф. 37, воп. 1, спр. 272, с. 29; 3) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 4, с. 37.

**Мёртвае рэчышча** (с. 56)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 82.

Рукапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 62, з датай: *24.V.62*; 2) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 20, с. 4.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 38, з датай: *24.V.62.*

**Крокі ўначы** (с. 56)

Упершыню — часоп. «Полымя», 1966, № 10, с. 114 — 115.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 41, з датай і месцам напісання: *Лета 64-га — 15 ліст. 65 г. Рагачоў. 0.30 хв.*

**Раманс вінаграднай лазы** (с. 57)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 85 — 86.

Рукапісы: 1) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 20, с. 6 — 6 адв., пад назвай «Раманс» з датай і месцам напісання: *2.V.62. Рагачоў*; 2) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 39 — 39 адв.

Машынапіс — у БДАМЛМ, ф. 41, воп. 1, спр. 864, с. 11 — 13.

**Ты і я** (с. 59)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 88.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 40, прысвячэнне Н. Д. закрэслена, з датай і месцам напісання: *5 мая 63. Мінск.*

*Левіяфан* — у біблейскай міфалогіі пачвара ў выглядзе кракадзіла, змея ці дракона, здольная ўскіпяціць увесь акіян. У Бібліі (Старым Запавеце) узгадваецца як прыклад (разам з бегемотам) недаступнасці спасціжэння Боскага тварэння або ў якасці варожай Богу магутнай істоты, якая сімвалізуе першабытны хаос, які ён перамагае напачатку светаўтварэння. У пераносным сэнсе — нешта вялізнае і пачварнае.

**«Калі агорне цемра неба...»** (с. 59)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 88.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 85, з датай*: 10.III.62.*

**Карадаг** (с. 60)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Беларусь, 1966. С. 99 — 100.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 78, з датай і месцам напісання: *5 крас. 65 г. Шагол*; 2) адз. зах. 10, с. 1.

*Шагол*, гл. каментарый да верша «Пры смерці».

*Карадаг* — вулканічны масіў у Крыме, на беразе Чорнага мора, за 20 км на паўднёвы захад ад г. Феадосія, на Украіне.

*Панамарэнка Лідзія Арсеньеўна* (1912 — 2000). Закончыла Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чар-

нышэўскага (1940). У 1946 — 1985 гг. працавала дацэнтам філалагічнага факультэта Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі, дзе выкладала літаратуру народаў СССР. У. Караткевіч з цеплынёй згадваў сваю выкладчыцу.

*«Арго»* — карабель, на якім, паводле грэчаскай міфалогіі, больш за 50 арганаўтаў пад кіраўніцтвам Ясона накіраваліся ў Калхіду па залатое руно, якое ахоўваў дракон. З дапамогай чараўніцы Медэі захапілі руно і прывезлі яго ў Грэцыю.

### **Раманс Марылі** (с. 61)

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1966, № 2, с. 20.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 7, с. 77, з датай: *15.VI.63*; 2) воп. 2, адз. зах. 6, с. 36.

*Міцкевіч Адам* (1798 — 1855) — польскі паэт беларускага паходжання, грамадскі дзеяч, публіцыст. Марыля Верашчака — яго першае і моцнае каханне.

### **Дняпро і Ака. Ён і яна** (с. 62)

Упершыню — часоп. «Полымя», 1966, № 10, с. 115, пад назвай «Маленне да бога рэк».

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 42, пад назвай «Маленне да бога рэк» з датай і месцам напісання: *24.VIII.63. Таруса.*

Машынапіс — у БДАМЛМ, ф. 42, воп. 1, спр. 508, с. 6 — 7, пад назвай «Маленне да бога рэк».

*Таруса*, гл. каментарый да верша «Таруская віла».

*...Асіянаўскі месяц...* — Відаць, маецца на ўвазе вобраз з твора шатландскага пісьменніка Джэймса Макферсана (1736 — 1796) «Паэмы Асіяна, сына Фінгала».

### **Раманс шлагбаума** (с. 63)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 94.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 7, с. 76; 2) воп. 1, адз. зах. 7, с. 77, з датай: *15.VI.63*; 3) воп. 2, адз. зах. 6, с. 43.

### **Аптымізм** (с. 64)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 95.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 36.

**Туман** (с. 64)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 96.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 68.

Машынапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 6, с. 45; 2) адз. зах. 9, с. 8.

**Цюляня** (с. 65)

Упершыню — газ. «Ніва», 1965, 25 крас.

Рукапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 69, з датай: *1 лютага 61 г.*; 2) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 20, с. 7.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 47, з датай: *1 лютага 61 г.*

**Каравелы** (с. 66)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 98.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 48, з прысвячэннем Н. Мацвеевай, датай і месцам напісання: *11 ліст. 65. Рагачоў, 2 ночы.*

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 4, с. 56, з прысвячэннем Н. Мацвеевай.

*Мацвеева Навела* (нар. у 1934 г.) — руская паэтэса.

*Каравела* — марское ветразевае судна з 3 — 4 мачтамі, адной палубай, высокімі бартамі і надбудовамі ў насавой частцы і на карме. Была пашырана ў краінах Міжземнага мора ў XIII — XVII стст. На каравелах здзяйснялі акіянскія плаванні, напрыклад, Хрыстафор Калумб — цераз Атлантычны акіян, Васка да Гама — з Еўропы ў Індыю.

**Бахайская чарапаха** (с. 67)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 99 — 100.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 10, з прысвячэннем Янку Брылю, датай і месцам напісання: *1 верасня 65 г., Уладзівасток.*

Напісаны падчас праходжання вайсковых збораў у штодзённай газеце Ціхаакіянскага флоту «Боевая вахта».

*Брыль Янка* (1917 — 2006) — народны пісьменнік Беларусі (1981), ганаровы акадэмік Нацыянальнай АН Беларусі (1994).

*Бахай, Чжэнь* — дзяржава на Далёкім Усходзе ў 698 — 926 гг. Уключала землі расійскага Прымор'я, Паўночна-Усходняга Кітая і Паўночнай Карэі. Заваявана мангольскімі плямёнамі кіданяў.

**Легкаважная песенька, якую я спяваў,**
**ідучы да каханай цераз хрыбет Мангугай** (с. 68)

Упершыню — кн. «Мая Ілiяда», с. 101.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 8, пад назвай «Легкаважная песенька», з датай і месцам напісання: *1 верасня 65 г. Уладзівасток*; 2) адз. зах. 8, с. 11, з датай і месцам напісання: *4 (7?) верасня 65 г. Уладзівасток.*

Напісаны падчас праходжання вайсковых збораў у штодзённай газеце Ціхаакіянскага флоту «Боевая вахта».

ТАЎРЫДА

*Таўрыя* — гістарычная назва Крымскага паўвострава з XVI ст. У XIX — пачатку XX ст. Таўрыяй называлі не толькі Крым, але і сумежныя з ім раёны Таўрычаскай губерні (т. зв. Паўночная Таўрыя).

**Дрэва на Чатырдагу** (с. 69)

Упершыню — кн. «Мая Ілiяда», с. 104.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 2, з датай і месцам напісання: *...сак. — 17 верасня 67 г., Крым — Мінск*; 2) адз. зах. 8, с. 12, з прысвячэннем Васілю Быкаву.

*Чатырдаг,* Шацёр-гара — горны масіў у цэнтральнай частцы Галоўнай грады Крымскіх гор (Украіна). Даўжыня каля 8 км, вышыня да 1527 м (г. Эклізі-Бурун).

*Быкаў Васіль* (1924 — 2003) — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч, народны пісьменнік Беларусі (1980).

**Чатырдаг** (с. 69)

Упершыню — кн. «Мая Ілiяда», с. 105 — 106.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 13, з прысвячэннем Арсеню Лісу, датай і месцам напісання: *19 сакавіка 68, Брэст*.

*Ліс Арсень* (нар. у 1934 г.) — беларускі фальклрарыст, літаратуразнавец, краязнавец, доктар філалагічных навук (1997).

**Спуск з гор** (с. 71)

Упершыню — кн. «Мая Ілiяда», с. 107 — 108.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 63, с. 1, з датай і месцам напісання: *сакавік 67 — 15 крас. 68. Перавал — Брэст.*

**Генуэзская крэпасць** (с. 72)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 109.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 2, з датай і месцам напісання: *27 крас. — 17 вер. 67 г. Марское — Мінск*; 2) адз. зах. 4, с. 59, з прысвячэннем Ул. Дамашэвічу.

*Генуэзская крэпасць* — сярэдневяковыя ўмацаванні ў горадзе Феадосія (Крым, Украіна), пабудаваныя Генуэзскай рэспублікай для абароны свайго буйнейшага ўладання ў Крыме — Кафы. Размешчана на беразе Феадасійскага заліва ў паўднёвай частцы горада. Цяпер гісторыка-культурны запаведнік «Генуэзская крэпасць Кафа».

*Дамашэвіч Уладзімір* (нар. у 1928 г.) — беларускі пісьменнік, заслужаны работнік культуры Беларусі (1992).

**Лебедзь** (с. 72)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 110.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 15, з датай і месцам напісання: *май — 20 кастрычніка, Алупка — Мінск*; 2) адз. зах. 4, с. 60, з прысвячэннем Івану Бурсаву.

*Бурсаў Іван* (нар. у 1927 г.) — рускі паэт, перакладчык.

**Вадаспад Учан-су** (с. 73)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 111.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 14, з прысвячэннем Пімену Панчанку, датай і месцам напісання: *сакавік — 5 кастрычніка, Крым — Мінск.*

*Панчанка Пімен* (1917 — 1995) — народны паэт Беларусі (1973), ганаровы акадэмік Нацыянальнай АН Беларусі (1994).

**Маладая вясна** (с. 73)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 112.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 15, з датай і месцам напісання: *крас. — 5 кастрычніка. Ялта — Мінск.*

**«О, якое цёплае, цёплае, цёплае мора...»** (с. 74)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 113.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 15 адв., з датай і месцам напісання*: крас. — 5 кастрычніка. Панізоўка — Мінск*; 2) адз. зах. 8, с. 16.

*Панізоўка* — пасёлак гарадскога тыпу. Размешчаны на Паўднёвым беразе Крыма.

**Гурзуф уначы** (с. 74)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 114.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 17, з прысвячэннем Міколу Аўрамчыку, датай і месцам напісання: *май — 15 кастрычніка 68 г., Гурзуф — Брэст.*

*Гурзуф* — пасёлак, які знаходзіцца ў 11 км на паўночны ўсход ад Ялты, на паўночным узбярэжжы Чорнага мора ў вусці ракі Авунда.

*Аўрамчык Мікола* (нар. у 1920 г.) — беларускі паэт, празаік, перакладчык, заслужаны работнік культуры Беларусі (1980).

**«Прыўкрасная пальма...»** (с. 75)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 115.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 19, з датай і месцам напісання: *25 красавіка 67 г., Ялта. Гадзіна ночы.*

**«Над Аюдагам — над Мядзведзь-гарою...»** (с. 76)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 116.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 20, з датай і месцам напісання: *29 сакавіка 67 г.*

*Аюдаг* (*цюрк.* Мядзведзь-гара) — гара-лакаліт і мыс на Паўднёвым беразе Крыма. Замыкае з усходу Гурзуфскую бухту. Даўжыня каля 3 км, вышыня да 572 м.

**«Сумесь Бураціна з Аэлітай...»** (с. 76)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 117.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 21, з датай і месцам напісання: *19 сак. 67 г. Ялта. Сонечныя горы.*

*Бураціна* — галоўны герой казкі А. М. Талстога «Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна».

*Аэліта* — гераіня фантастычнага рамана А. М. Талстога «Аэліта». У перакладзе з выдуманай марсіянскай мовы яе імя абазначае «бачнае ў апошні раз святло зоркі».

**«Спіш? Я прыйду, пагушкаю...»** (с. 77)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 118.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 22, з датай і месцам напісання: *22 красавіка 67 г., Ялта.*

**Дзве вады** (с. 78)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 119.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 23, з датай і месцам напісання: *29 сакавіка 67 г., Ялта.*

**«Прыпадзі да мяне, прыпадзі...»** (с. 78)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 120.

Рукапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 15, з датай і месцам напісання: *сак. — 5 кастрычніка. Ялта — Мінск*; 2) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 2, спр. 14, с. 17 — 17 адв.; 3) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 18.

**Кіпарысавыя жарцікі** (с. 79)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 121.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 24, з датай і месцам напісання: *29 сакавіка 67 г., Ялта.*

**«Я чакаў цябе тысячы год...»** (с. 79)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 122.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 25, з датай і месцам напісання: *22 сакавіка 67 г., Ялта.*

**«Мора гранітныя хвалі...»** (с. 80)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 123.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 26, з датай і месцам напісання: *27 сакавіка 67 г., Ялта.*

**«І бывай. Не трэба шкадаванняў...»** (с. 81)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 124.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп 1: 1) адз. зах. 7, с. 28; 2) адз. зах. 8, с. 27, з датай і месцам напісання*: 25 сакавіка 67 г., Ялта.*

**Кінаасслы** (с. 81)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 125.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 28, з датай: *29 красавіка 67 г.*

**Шайтан-Мярдвень** (с. 82)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 126.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 29, з датай: *29 красавіка 67 г.*

*Шайтан-Мярдвень,* ці Чортава Лесвіца — горны перавал Галоўнай грады Крымскіх гор.

**«Са стэпавымі вятрамі...»** (с. 82)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 127.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 30.

**Таўры** (с. 83)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 128 — 129.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 31, з прысвячэннем В. Б. В.

Верш прысвечаны Валянціне Браніславаўне Ватковіч (1934 — 1983), будучай жонцы У. Караткевіча.

*Таўры* — народ, які ў старажытнасці насяляў горныя і перадгорныя раёны Таўрыі (цяперашні Крым). Таўры засялілі паўднёвае ўзбярэжжа і горы Крыма ў пачатку 1-га тысячагоддзя да н. э. ці некалькі раней.

**Песня Мехмета** (с. 84)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 130 — 131.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 32 — 33, з датай і месцам напісання: *задумаў у сакавіку — 28 студзеня 68 г. Бахчысарай — Мінск.*

**Чуфут-Кале** (с. 85)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 132.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 34, з датай і месцам напісання: *19 сакавіка 67 г., Ялта.*

*Чуфут-Кале* — сярэдневяковы горад-крэпасць у Крыме (Украіна), размешчаны на тэрыторыі Бахчысарайскага раёна ў 2,5 км на ўсход ад Бахчысарая.

**Маўзалей Джаніке-ханум** (с. 86)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 133 — 134.

Рукапісы — АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 14, з датай і месцам напісання: *красавік — 5 жніўня, Чуфут-Кале — Мінск*; 2) адз. зах. 8, с. 35.

*Маўзалей Джаніке-Ханым* — маўзалей XV ст., які амаль поўнасцю захаваўся. Знаходзіцца ў пячорным горадзе Чуфут-Кале на ўсход ад плошчы, бліжэй да абрыву. Гэта грабніца дачкі хана Тахтамыша. Яна памерла ў 1437 г.

**Нараканні Насрэдзіна Ахмет-Аха эфендзі** (с. 88)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 135 — 136.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 36, з датай і месцам напісання: *красавік — 3 снежня 67 г., Чуфут-Кале — Мінск.*

**Браты па няшчасці** (с. 89)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 137.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 37, з датай: *29 сакавіка 67 г.*

**Раманс аб расстраляным каханні** (с. 89)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 138.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 38, з датай і месцам напісання: *29 сакавіка 67 г., Ялта.*

**Усходнія песні** (с. 90)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 139 — 140.

Рукапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 39 — 40; 2) у ЦМАМЛС, ф. 113, воп. 1, спр. 352, с. 16, частка ІІ, з датай: *11.Х.59*; у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7: 3) с. 18, частка ІІ; 4) с. 83, частка І, дзевяць пачатковых радкоў, з датай і месцам напісання: *7 кастрычніка 66. Рагачоў. 22.45.* Другі рукапіс пад назвай «І сонца...» упершыню апублікаваны ў кнізе «Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы». Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. С. 148 — 149.

**Фантан слёз** (с. 92)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 141.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 33, радкі 1 — 9, 14 — 17; 2) адз. зах. 8, с. 41, з датай: *29 красавіка 67 г.*

*Бахчысарай* — горад на Украіне, цэнтр Бахчысарайскага раёна ў Рэспубліцы Крым, у даліне ракі Чуруксу. 25 тысяч жыхароў (1993).

Вядомы з 1502 г. Да 1783 г. — сталіца Крымскага ханства. У Бахчысараі заключана Бахчысарайскае перамір’е 1681 г. У 1735 — 1739 гг. захоплены рускімі войскамі, разбураны. У 1783 г. далучаны да Расіі (разам з Крымам), уваходзіў у Новарасійскую, з 1802 г. у Таўрычаскую губерню. У 1918 — 1954 гг. у складзе РСФСР, з 1954 г. — Украіны.

Помнікі архітэктуры: Ханскі палац (XVI ст., перабудаваны ў 1787 г., цяпер Гісторыка-археалагічны музей), які ўключае т. зв. «Пасольскія дзверы» (1503, архітэктар Алевіз Фразін), фантанны дворык з «залатым фантанам» (1737) і «фантанам слёз» (1764, іранскі майстар Амер), мячэць (1740), шматлікія залы і альтанкі. У наваколлі Бахчысарая — пячорны Успенскі манастыр з царквой (XIVст.), келлямі (XV — XVI стст.); пячорныя гарады Эскі-Кермен, Тэпэ-Кермен і Чуфут-Кале (Кырк-Ор; цяпер археалагічны запаведнік) з абарончымі сценамі і брамамі, маўзалеем Джаніке-ханым (XV ст.), вялікай (XIV ст.) і малой (XVIII ст.) караімскімі кенасамі (малельнымі дамамі), пячорным жыллём (V — XIV стст.).

**Штыль** (с. 93)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 142.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 42, з прысвячэннем А. А. Назарэўскаму, датай і месцам напісання: *13 чэрвеня 67 г., Ялта — Мінск.*

*Назарэўскі Аляксандр Андрыянавіч* (1887 — 1977) — украінскі філолаг, даследчык усходнеславянскіх літаратур XI — XIX стст., прафесар Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі. Заахвочваў У. Караткевіча да навуковай працы ў галіне літаратуразнаўства.

**Сэрца гары** (с. 93)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 143 — 144.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 32, з датай і месцам напісання: *Ноч на 27 красавіка — Сердалікавая бухта — 29 красавіка 67 г. Цягнік*; 2) адз. зах. 8, с. 43, з прысвячэннем Васілю Зуёнку і датай: *27 — 29 красавіка 67 г.*

*Зуёнак Васіль* (нар. у 1935 г.) — беларускі паэт, кандыдат філалагічных навук (1973), ганаровы акадэмік Нацыянальнай АН Беларусі (2000).

**На роднай магіле** (с. 94)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 44, з датай і месцам напісання: *29 сакавіка 67 г., Ялта.*

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 145.

**Саперніца** *(Супакоены ўспамін праз трыццаць год)* (с. 95)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 146 — 147.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 45, з датай і месцам напісання: *май — 27.VII.67, Крым — Нарач.*

**Падмогі** (с. 96)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 148.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 3 адв., з датай: *май — 4 ліпеня 67 г.*; 2) адз. зах. 8, с. 46.

**Таўрыдзе** (с. 97)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 149.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 3, з датай і месцам напісання: *май — 26.VII.67, Кабыльнік*; 2) адз. зах. 8, с. 47, з датай: *26.III.67.*

*Кабыльнік* — назва вёскі Нарач Мядзельскага раёна да 1964 г.

ВЯРТАННЕ

**На пачатак «Каласоў пад сярпом тваім...»** (с. 98)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 152.

Рукапісы: 1) у ЦМАМЛС, ф. 113, воп. 1, спр. 352, с. 23, пад назвай «Шчаслівы паўнатою сталай сілы...»; 2) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 48. Першы рукапіс упершыню апублікаваны ў кнізе «Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы», с.176. Апошнія восем радкоў у ім наступныя:

Ўсё разумею: гукі, твары, цені.
Над зразумелаю зямлёй стаю,
І поўніць сэрца прага тых здзяйсненняў,
Якія сілу падарвуць маю.
Няхай крывавы пот і бой да болю:
Зрабіўшы ўсё і дзён спыніўшы бег,
Спакойна потым лягу я, як поле,
Пад цёплы і пушысты зімні снег.

**Мужныя мятлушкі** (с. 98)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 153.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 22, з пазнакай: *7 чэрвеня 66 г. 10 веч. Дождж. Таполевы пух*; 2) адз. зах. 8, с. 49.

**«Ўсё, што было, і ўсё, што часам сніцца...»** (с. 99)

Упершыню — газ. «Ніва», 1965, 25 крас.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 47.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 4, с. 62, з прысвячэннем Міхасю Стральцову.

*Стральцоў Міхась* (1937 — 1987) — беларускі пісьменнік.

**«Падымаюць жоўтыя галовы...»** (с. 99)

Упершыню — газ. «Ніва», 1965, 25 крас.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 2, адз. зах. 57, с. 1, пад назвай «Падкова — зарожак Дняпра», з пазнакай: *10 жніўня 64 г. Падкова — вечар. Чырв. Гара (ніжэй). 8.45. Вогнішча. Агеньчык бакена чырвоны. Адзін*; 2) воп. 1, адз. зах. 7, с. 35, з датай і месцам напісання: *10 жніўня 64, Падкова — Чырвоная Гара.*

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 4, с. 65, з прысвячэннем Уладзіміру Лучуку.

*Лучук Уладзімір* (1934 — 1992) — украінскі пісьменнік. Жыў у Львове. Уладзімір Караткевіч пераклаў на беларускую мову яго вершы, напісаў пра яго паэзію артыкул «Бетховен б’е ў далоні...».

**Чурлёніс** (с. 100)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 156 — 157.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1: 1) адз. зах. 7, с. 23, з прысвячэннем В. І. Бараўскене; 2) адз. зах. 7, с. 24; 3) адз. зах. 7, с. 86, апошнія шаснаццаць радкоў, з датай і месцам напісання: *20 красавіка 66. Рагачоў*; 4) адз. зах. 4, с. 66, з прысвячэннем В. І. Бараўскене.

*Чурлёніс Мікалоюс* (1875 — 1911) — літоўскі жывапісец і кампазітар, прадстаўнік сімвалізму.

*Бараўскене Ванда Іванаўна* (Ёнаўна) (1927 — 1996) — літоўскі літаратуразнавец, фалькларыст, доктар філалогіі, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры і фальклору Літоўскай АН, сябра Літоўскай асацыяцыі беларусістаў. У канцы лютага 1966 г. арганізавала паездку У. Караткевіча і А. Мальдзіса на экскурсію з Вільнюса ў Каўнас.

**Балада пра сыноў Пітакоса** (с. 101)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 158 — 160.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп.1, адз. зах. 7: 1) с. 52 — 52 адв.; 2) с. 55 — 56.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 51 — 53.

*Пітак(ас)* — адзін з сямі мудрацоў на востраве Лесбас (памёр каля 570 г. да н. э., каля 620 г. да н. э.).

*Арфей* — у стажытнагрэчаскай міфалогіі фракійскі спявак, сын музы Каліопы. Цудоўнымі спевамі і ігрой на кіфары ён зачароўваў багоў і людзей, утаймоўваў дзікія сілы прыроды. Паводле міфаў, Арфей удзельнічаў у паходзе арганаўтаў, лічыўся заснавальнікам арфічных культаў. Калі раптоўна памерла яго жонка Эўрыдыка, Арфей адправіўся за ёю ў царства мёртвых.

*Пасейдон* — у старажытнагрэчаскай міфалогіі адзін з галоўных багоў-алімпійцаў, бог мораў, крыніц і землетрасенняў, якімі ён кіруе з дапамогай трызубца. Сын Кронаса і Рэі, брат Зеўса і Аіда, з якімі падзяляе панаванне над светам, бацька Тэсея, Мінатаўра і іншых міфалагічных персанажаў. Лічылася, што ён жыве ў раскошным палацы на дне мора. У рымскай міфалогіі Пасейдону адпавядаў Нептун.

*Аід, Гадэс, Плутон* — у стажытнагрэчаскай міфалогіі бог, уладар царства мёртвых, а таксама само царства. Аід — алімпійскае бажаство, але пастаянна знаходзіцца ў сваіх падземных уладаннях, дзе царуе з жонкай Персефонай. У хрысціянстве міф пра Аіда ператварыўся ў міф пра пекла, куды пасля смерці трапляюць душы грэшнікаў.

*Цэрбер, Кербер* — у старажытнагрэчаскай міфалогіі жудасны трохгаловы сабака-пачвара са змяіным хвастом і тулавам, усеяным змяінымі галовамі, які ахоўвае ўваход у падземнае царства мёртвых — Аід. Паводле міфаў, толькі асобным героям удалося перамагчы Цэрбера: Геракл звязаў яго, Арфей зачараваў сваімі спевамі, а адна з грэчаскіх сівіл, каб дапамагчы Энею, усыпіла праснаком са снатворнай травой. У пераносным сэнсе Цэрбер — люты, няўмольны вартавы.

*Лесбас*, гл. каментарый да верша «Здратаваныя магілы».

### **Корчмы** (с. 104)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 161 — 162.

Рукапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 54 — 54 адв., з датай: *19 жніўня 64 г.*; 2) у лісце да Янкі Брыля за 14.09.1964 г.

### **Надзея лістападу** (с. 105)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 163 — 164.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 55, з датай і месцам напісання: *13 лістап. 63. Каралішчавічы*.

*Каралішчавічы*, гл. каментарый да верша «Песня колаў».

**Белавежскі алень** (с. 106)

Упершыню — газ. «Заря», 1964, 24 мая.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 56 , з прысвячэннем Ул. і З. Калеснікам, з пазнакай: *9 мая 63, Брэст, 8-га ездзілі ў Белавеж.*

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 4, с. 75, з прысвячэннем Ул. і З. Калеснікам.

*Калеснік Уладзімір* (1922 — 1994) — беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік, кандыдат філалагічных навук (1958), прафесар (1983), заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі (1979). Працаваў у Брэсцкім педагагічным інстытуце імя А. С. Пушкіна ў 1954 — 1994 гг. Яго жонка Зося таксама там працавала.

**Каложа** (с. 107)

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1967, № 2, с. 22.

Рукапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 57, с. 6, з прысвячэннем Дануце Бічэль, датай і месцам напісання: *12 ліст. 65. Рагачоў. 12 ночы*; 2) у паэтэсы Дануты Бічэль.

Машынапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, з прысвячэннямі Дануце Бічэль: 1) воп. 1, адз. зах. 4, с. 76; 2) воп. 2, адз. зах. 10, с. 130 — 131.

*Бічэль Данута* (нар. у 1937 г.) — беларуская паэтэса.

**Багдановічу** (с. 108)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 73, з датай і месцам напісання: *9 снежня 66 г., Мінск.*

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 168 — 169.

Іншы рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 50, з датай: *9 снежня 66 г.*

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 11, с. 183 — 184.

*Багдановіч Максім*, гл. каментарый да верша «Фантазія».

**Дзядзькаў кубак** (с. 110)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 170 — 173.

Рукапіс — у асабістым архіве Васіля Сёмухі, з прысвячэннем яму і датай: *26.III.62. Палова пятай.*

Машынапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, пад назвай «Дзядзькаў кубак» (Паэма), з прысвячэннем Васілю Сёмуху:

1) адз. зах. 6, с. 58 — 61, з датай: *26.III.62. Палова пятай*; 2) адз. зах. 10, с. 132 — 135; 3) адз. зах. 11, с. 185 — 188.

*Сёмуха Васіль* (нар. у 1936 г.) — беларускі перакладчык.

**Нашы бярозы** (с. 112)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 175 — 176.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 62.

**Маленне аб чашы** (с. 113)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 175 — 176.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 63, з датай і месцам напісання: *22 крас. 65 г. Шагол.*

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 34, с. 83, з прысвячэннем М. Прашковічу.

*Прашковіч Мікола* (1932 — 1983) — беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык, кандыдат філалагічных навук (1965).

У міфах пра Грааль Чаша Тайнай вячэры, у якую была сабрана кроў Выратавальніка, была зроблена з каменя — вялікага ізумруда.

Чаша Грааля — Святы Грааль, загадкавы хрысціянскі артэфакт ці Чаша, якую кожны павінен знайсці ў сваёй душы.

*Шагол*, гл. каментарый да верша «Пры смерці».

**«Па-над шчыраю Шчарай, над шчодраю Шчарай...»** (с. 114)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 177.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 51, з прысвячэннем Міколу Грынчыку, датай і месцам напісання: *24.V. 67. Мінск.*

*Грынчык Мікола* (1923 — 1999) — беларускі літаратуразнавец і крытык, доктар філалагічных навук (1970), прафесар (1971), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1977).

**Вільня ў дождж** (с. 115)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 178.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, пад назвай «Крыкнуць? Позна!»: 1) адз. зах. 7, с. 25, з пазнакай: *першая думка 15 лют. Аўт.*; 2) адз. зах. 8, с. 52.

**Нявесце Каліноўскага** (с. 115)

Упершыню пад назвай «Нявесце Кастуся Каліноўскага» — часоп. «Полымя», 1961, № 5, с. 80.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 53, с. 3, з датай і месцам напісання: *5.VII.60. Орша*; 2) адз. зах. 6, с. 64; 3) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 2, спр. 15, с. 5.

*Каліноўскі Кастусь (Вікенцій, Канстанцін)* (1838 — 1864) — лідар беларускага нацыянальнага вызваленчага руху, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 — 1864 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве.

**Мы** (с. 116)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 180.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 1, адз. зах. 7, с. 48; 2) на рускай мове «Мы», воп. 1, адз. зах. 6, с. 3, з датай: *12 фев. 62*; 3) воп. 2, адз. зах. 6, с. 65.

Машынапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 10, с. 158; 2) адз. зах. 11, с. 212, з прысвячэннем Максіму Танку; 3) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 21, с. 19.

*Танк Максім* (сапр. Скурко Яўген Іванавіч) (1912 — 1995) — беларускі паэт, грамадскі дзеяч, народны паэт Беларусі (1968), акадэмік АН Беларусі (1972).

*Хатшэпсут* (1490/1489 — 1468 да н. э., 1479 — 1458 да н. э. ці 1504 — 1482 да н. э.) — жанчына-фараон Новага царства Старажытнага Егіпта з XVIII дынастыі. Хатшэпсут закончыла аднаўленне Егіпта пасля нападу гіксосаў і пабудавала шмат помнікаў па ўсім Егіпце. Яна, што «знаходзіцца наперадзе высакародных дам», з’яўляецца адной з першых вядомых жанчын у сусветнай гісторыі, а таксама, поруч з Тутмосам III, Рамсесам II, Эхнатонам, Тутанхамонам і Клеапатрай VII, адным з самых вядомых егіпецкіх кіраўнікоў.

**«Як сканаю — душа застанецца...»** (с. 117)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 181.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 4, с. 87, з датай і месцам напісання: *4 мая 66 г., Рагачоў.*

**Безгаловая Венера** (с. 118)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Беларусь, 1966. С. 101.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 2, адз. зах. 54, с. 1; 2) воп. 1, адз. зах. 7, с. 39, з пазнакай*: 16.XII.61. ВСК. Напісаў у будынку ВЛК*; 3) воп. 2, адз. зах. 6, с. 68.

*ВСК* — Вышэйшыя сцэнарныя курсы ў Маскве, дзе У. Караткевіч вучыўся ў 1960 — 1962 гг. *ВЛК* — Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве, дзе У. Караткевіч вучыўся ў 1958 — 1960 гг.

### **«Medusa Ludovisi» ў Рыме** (с. 119)

Упершыню — кн. «Мая Іліяда», с. 183.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 57, с. 2 адв, з датай: *5.XI.64 г.*; 2) адз. зах. 6, с. 69.

*«Medusa Ludovisi»* («Спячая Эрынія») — назва антычнай выявы багіні помсты.

*Эрыніі* — у старажытнагрэчаскай міфалогіі багіні помсты. У рымскай міфалогіі ім адпавядаюць фурыі. Іх нараджэнне прыпісваюць злачынству, якое ўпершыню адбылося, калі Кронас раніў свайго бацьку Урана: кроплі яго крыві, падаючы, нарадзілі фурый.

### **Землятрус** (с. 119)

Упершыню — часоп. «Полымя», 1967, № 7, с. 99 — 100; газ. «Літаратура і мастацтва», 1967, 11 ліп.

Рукапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 70; 2) у БДАМЛМ, ф. 41, воп. 1, спр. 864, с. 10 — 10 адв.

## БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДУ.

Чарнавікі, белавікі рукапісаў і машынапісаў кнігі паэзіі «Быў. Ёсць. Буду.», з аўтарскімі праўкамі, захоўваюцца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 12, 1 — 103 с. У гэтай кнізе, якую склаў у маі 1984 г. У. Караткевіч, адсутнічаюць паэмы «Плошча Маякоўскага», «Грубае і ласкавае», вершы «Масква — Вечнасць», «Дваццаты век, цень верталёта...», «Рагнарадзі». Упершыню апублікаваныя ў першым кніжным выданні на беларускай мове рамана «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі») (1982), згаданыя вышэй творы былі ўключаны ў кнігу паэзіі «Быў. Ёсць. Буду.» (1986).

### **«Быў. Ёсць. Буду...»** (с. 121)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1984. С. 139 — 140.

Рукапісы: 1) у асабістым архіве пісьменніка, з датай і месцам напісання: *9 снежня 76 г., Дубулты, 13.15*; 2) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 12, с. 2.

Верш напісаны ў Доме творчасці Саюза пісьменнікаў СССР у Дубултах (Латвія).

**Мой век** (с. 122)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.». Мінск: Маст. літ., 1986. С. 12 — 13.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 63, с. 9, з датай*: 17 верасня 69 г.*; 2) адз. зах. 12, с. 3 — 4.

**«На Беларусі Бог жыве»** (с. 124)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1982. С. 141 — 142.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 12, с. 5, з датай і месцам напісання*: 5 ліпеня 80 г. 14 г. 4 хв. Мінск*; 2) адз. зах. 86, с. 3.

**Разведчык** (с. 125)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1984. С. 138 — 139.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 68, с. 1, з датай: *19 жніўня 69 г.*; 2) адз. зах. 68, 21 пачатковы радок; 3) адз. зах. 12, с. 6 — 7.

*Убарць* — рака на Украіне і Беларусі, правы прыток ракі Прыпяць. Пачынаецца ў Жытомірскай вобласці Украіны, цячэ па Жытомірскім Палессі, на Беларусі — па Прыпяцкім Палессі.

*Ула, Ульянка* — рака ў Лепельскім, Чашніцкім і Бешанковіцкім раёнах Віцебскай вобласці, левы прыток ракі Заходняя Дзвіна.

Ульская бітва 1564 г., Чашніцкая бітва — адна з асноўных бітваў паміж войскамі Маскоўскай дзяржавы і ВКЛ у час Лівонскай вайны 1558 — 1583 гг. Адбылася 26 студзеня на рацэ Ула недалёка ад г. Чашнікі (Віцебская вобласць). Калі паслы ВКЛ, што прыехалі ў Маскву для падпісання міру яшчэ ў снежні 1563 г., не знайшлі паразумення з царскім дваром (не згадзіліся аддаць Полацк і Лівонію) і 9 студзеня 1564 г. пакінулі яе, рускі цар Іван IV аднавіў ваенныя дзеянні. Паводле яго загаду з Полацка выйшла 24-тысячная армія князя П. Шуйскага, а з Вязьмы — 50-тысячная армія братоў князёў В. і П. Сярэбраных. Яны мелі намер злучыцца каля Оршы, каб адтуль ісці на Менск і Навагародак. Вялікі гетман ВКЛ М. Радзівіл Руды, войска якога (8 — 10 тысяч) знаходзілася недалёка ад Чашнікаў, меў дакладную інфармацыю пра рух групоўкі. Каля вёскі Іванск над Улай (Чашніцкі раён) гетман спаткаў і атакаваў праціўніка. Пасля франтальнага ўдару яго харугвы ажыццявілі імклівы напад з тылу і завяршылі бітву разгромам арміі Шуйскага.

Загінула каля 9 тысяч маскоўскіх ратнікаў, а таксама князі Шуйскі, С. і В. Палецкія, А. Празароўскі, М. Адоеўскі і інш. Многія трапілі ў палон. Пераможцы завалодалі багатым абозам. Рэшткі разбітага войска ўцяклі да Полацка. Даведаўшыся пра поўны разгром Шуйскага, князь П. Сярэбраны, які ўжо стаяў пад Оршаю, пасля сутычкі з авангардам Ф. Кміты-Чарнабыльскага пачаў спешна адступаць да Смаленска. Перамога на рацэ Ула сарвала буйную наступальную аперацыю рускага цара, пасля яе ваенныя дзеянні мелі ў асноўным лакальны характар.

**«Радок бяззбройны і бясспрэчны...»** (с. 127)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ, 1980. С. 91.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 80, с. 4; 2) адз. зах. 12, с. 8, з датай і месцам напісання: *24 верасня 79 г. 15 г. 57 хв. Піцунда.*

Верш напісаны ў Доме творчасці Саюза пісьменнікаў СССР у Піцундзе (Абхазія).

**Кнігі** (с. 128)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1977. С. 66 — 67.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 79, с. 1 — 3.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 12, с. 9 — 12.

*Гельмальт Ганс Фердынанд* — адзін з выдаўцоў «Сусветнай гісторыі» ў 9 тамах (1899 — 1907).

**«Абяцаюць нам новы раскошны дом...»** (с. 131)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1980. С. 90.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 80, с. 2, з месцам і датай напісання: *Польшча. За Калюшкам. 21.55 (наш час).* На той самай старонцы захоўваецца рукапіс верша «Надпіс на камені над крыніцай», пазнака да якога сведчыць, што ён быў напісаны тамсама 29 жніўня 1979 г.; 2) адз. зах. 12, с. 13.

**Паэт** (с. 131)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1984. С. 137.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 91, с. 4, з датай: *8 лютага 84 г. 16.28*; 2) адз. зах. 12, с. 14.

**Мова** (с. 132)

Упершыню — у кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 25.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 75, з датай: *7 мая 76 г.*

**Афіцэру Лісаневічу** (с. 133)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1980. С. 89 — 90.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 80, с. 5; 2) адз. зах. 12, с. 16, з месцам і датай напісання: *17 г. 24 хв. Піцунда. 24 вер. 79 г.*

Верш напісаны ў Доме творчасці Саюза пісьменнікаў СССР у Піцундзе (Абхазія).

**Усход** (с. 134)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1972, с. 149 — 150.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 73, с. 3, з прысвячэннем Максіму Танку, месцам і датай напісання: *23 вер. 70 г. 16.40. Гагра.*

*Танк Максім*, гл. каментарый да верша «Мы».

Верш напісаны ў Доме творчасці Саюза пісьменнікаў СССР у Гагры (Абхазія).

**Надпіс на камені над крыніцай** (с. 135)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1980. С. 89.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 80, с. 3, з пазнакай: *Крупцы — цягнік Масква — Вена, паміж Варшавай і Лоддзю — 29 жніўня 79 г. 21.40 — Мінск 30.X.79. 13 г.*; 2) адз. зах. 80, с. 2, з пазнакай: *Цягнік Крупцы — Польшча, між Варшавай і Лоддзю. 29 жн. 79. 21.40*; 3) адз. зах. 12, с. 19, з пазнакай: *Крупцы — Польшча. 29 жн. 79 г. 21.40 — Мінск. 30 кастрычніка 79 г. 13.00.*

**Шляхі Ігната Буйніцкага** (с. 136)

Упершыню: 1) кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Беларусь, 1971. С. 133; 2) газ. «Голас Радзімы», 1971, № 23.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 12, с. 20, з датай і месцам напісання: *22 верасня 67 г. Мінск*; 2) адз. зах. 62, с. 6.

*Буйніцкі Ігнат* (1861 — 1917) — беларускі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, стваральнік беларускага нацыянальнага прафесійнага тэатра.

**Амаль хрысціянскі тост за ворагаў** (с. 137)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1984. С. 141 — 142.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 63, с. 4, з датай і месцам напісання: *18 сакав. 68 г., Брэст*; 2) адз. зах. 12, с. 21, з прысвячэннем Адаму Мальдзісу.

*Мальдзіс Адам* (нар. у 1932 г.) — беларускі літаратуразнавец, крытык, празаік, публіцыст, доктар філалагічных навук (1987), прафесар (1990), заслужаны дзеяч польскай культуры (1982).

**Балада пра архангелаў** (с. 139)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 34.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 63, с. 12.

Машынапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11: 1) воп. 2, адз. зах. 6, с. 3; 2) воп. 1, адз. зах. 7, с. 87; 3) воп. 2, адз. зах. 8, с. 7; 4) воп. 2, адз. зах. 10, с. 2; 5) воп. 2, адз. зах. 12, с. 22.

**Прысенне зімы** (с. 140)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 36.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 63: 1) с. 10, з пазнакай: *27 кастрычніка 69 г. Наваградак. Гасцініца. Ноч. 9 гадзін. А ўночы і сапраўды пайшоў снег*; 2) с. 11.

**Юнацтва маё** (с. 141)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 37 — 38.

Рукапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6, с. 24, з датай: *21.XII.61. 2 г. ночы*; 2) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 20, с. 9 — 9 адв.

**«Страціў лес свой зімні чуб...»** (с. 142)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1982. С. 146.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 89, с. 2, з датай і месцам напісання: *21 лістапада 81 г. 10.15. Паўн. м.*

**Балада пра развітанне** (с. 143)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 42 — 43.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 91, с. 5, з датай*: 8 лютага 84 г. 20.09*; 2) адз. зах. 12, с. 27.

**«Нават сцюжным зімовым вечарам...»** (с. 144)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 44.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 75, с. 4, з датай: *16 ліпеня 72 г. Гадзіна ночы*; 2) адз. зах. 12, с. 28.

**«Блякла-сіняе неба і чырвань галін...»** (с. 145)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 45.

Рукапіс — у БДАМЛМ, ф. 37, воп. 1, спр. 79, с. 18 адв.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 12, с. 29.

**Гляджу на тую, што спіць** (с. 145)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1982. С. 147.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 89, с. 1, з датай і месцам напісання: *20 ліст. 81 г. Мінск. Паўн. м.*; 2) адз. зах. 12, с. 30.

*Ліліт* — першая жанчына і першая жонка Адама. Яна не пажадала падпарадкоўвацца свайму мужу і пакінула яго. Паводле падання, пасля расстання з Адамам Ліліт стала злым дэманам.

**Новая Атлантыда** (с. 146)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1982. С. 142.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 89, с. 4, з датай: *21 ліст. 81. 13 г.*; 2) адз. зах. 12, с. 31.

*Атлантыда* — паводле старагрэчаскага падання астраўны кантынент, які існаваў 10 — 12 тысяч гадоў назад і быў заселены культурным і магутным племенем атлантаў. Факт існавання, месца знаходжання і прычыны знікнення Атлантыды не высветлены. Найбольш верагодна, што востраў знаходзіўся ў Атлантычным акіяне на захад ад Іспаніі, у выніку землетрасення апусціўся на дно акіяна.

**Энкелад** (с. 146)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Беларусь, 1971. С. 134.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 57: 1) с. 2, з датай: *5.XI.64*; 2) с. 3.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 11, с. 32, з прысвячэннем Валянціну Тарасу.

*Энкелад* — у старажытнагрэчаскай міфалогіі сын Урана і Геі. Адзін з гігантаў, якія паўсталі супраць алімпійскіх багоў. Ён быў забіты Зеўсам і пахаваны пад гарой Этна (Сіцылія). Вывяржэнні Этны старажытныя ўспрымалі як спробу Энкелада вызваліцца.

*Тарас Валянцін* (1930 — 2009) — беларускі пісьменнік.

**Я іду** (с. 147)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Беларусь, 1971. С. 131 — 132.

Рукапісы — АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 26: 1) адз. зах. 63, с. 6, з датай: *Студзень 1968 — 27 жніўня 1969 г.*; 2) адз. зах. 12, с. 33 — 34, з датай: *28 жніўня 69 г.*

*Пампеі* — горад у Італіі на беразе Неапалітанскага заліва, каля падножжа вулкана Везувій. Разбураны ў 63 г. н. э. у час вывяржэння Везувія, адбудаваны. Пры вывяржэнні Везувія 24 жніўня 79 г. засыпаны шматметровым слоем попелу (разам з Геркуланумам і Стабіямі). У 1689 г. адшуканы сляды горада, з 1748 г. (з 1860 г. сістэматычна) вядуцца раскопкі. Паколькі Пампеі загінулі раптоўна, захавалася ўсё абсталяванне дамоў, крам, грамадскіх будынкаў. Як найбольш захаваны горад старажытнасці, Пампеі — важная крыніца звестак пра гаспадарку, побыт, культуру, мастацтва Рымскай імперыі I ст. н. э.

**«З вытокаў да вусця ракі, што няспынна бяжыць...»** (с. 149)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 51.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 6, с. 49; 2) адз. зах. 12, с. 35.

**Старажытны беларус** (с. 149)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 52 — 53.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 12, с. 36, з датай: *5.II.84. 14.22*; 2) адз. зах. 91, с. 2, пад назвай «Стары беларус», 8 пачатковых радкоў.

*Мойзас* — лацінскі варыянт імя біблейскага прарока Майсея.

**Вуліцы** (с. 150)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 54 — 55.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 61, с. 1, з датай і месцам напісання: *12 лют. 66, Рагачоў. 11.10 вечара*; 2) адз. зах. 12, с. 37 — 38.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 10, с. 111 — 112.

**«Як Стажары ў небе заззялі...»** (с. 152)

Упершыню — газ. «Чырвоная змена», 1959, 22 сак.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 47, с. 3.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 12, с. 39 — 40.

*Стажары* — тое, што Плеяды,— рассеянае зорнае скопішча ў сузор'і Цяльца. Каля 300 — 500 зорак блакітнага колеру знаходзяцца ўнутры сферы дыяметрам каля 30 св. гадоў. Простым вокам відаць 6 зорак, самая яркая — Альцыёна. Зоркі знаходзяцца ў блакітнаватай газава-пылавой адбівальнай туманнасці, у якой яны ўтварыліся (узрост Плеядаў каля 50 мільёнаў гадоў). Сярэдняя адлегласць ад Сонца 407 св. гадоў.

**«О любоў мая, Беларусь!..»** (с. 153)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 58.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 6: 1) с. 42 адв.; 2) с. 57.

Машынапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 11, с. 180, з прысвячэннем Ларысе Геніюш; 2) адз. зах. 12, с. 41.

*Геніюш Ларыса* (1910 — 1983) — беларуская паэтэса, празаік.

**«Можна ўсё: пусціць каханне дымам...»** (с. 154)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 59.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 12, с. 42.

**Было юнацтва** (с. 154)

Упершыню — часоп. «Полымя», 1959, № 4, с. 90 — 91, пад назвай «Месяц над млынам».

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 12, с. 43 — 44.

**Начая песня** (с. 156)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Беларусь, 1971. С. 130.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 26: 1) адз. зах. 73, с. 2, з датай і месцам напісання: *9 жн. 70 г. Мінск*; 2) адз. зах. 12, с. 45.

**Рэчка Папараць** (с. 156)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 64 — 65.

Рукапіс — у ЦМАМЛС, ф. 113, воп. 1, спр. 352, с. 14 — 14 адв., з датай: *Чэрвень — верасень 59 г.* Упершыню гэты варыянт рукапісу — кн. «Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы», с. 145 — 146.

**Сведка** (с. 158)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 67.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 35, з датай: *11 жніўня.*

**Тагасветнае** (с. 158)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 66.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 35, першая страфа, з датай: *11 жн.*

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 12, с. 48.

**Дуб** (с. 158)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 68.

Машынапісы: у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 12, с. 50, з датай: *Травень — 16 ліпеня 62 г.*; 2) адз. зах. 6, с. 50; 3) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 21, с. 7.

**«Вецер ужо і лістотай не кружыць...»** (с. 159)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 69.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп 2: 1) адз. зах. 73, с. 4, з датай: *30 лістапада 70 г.*; 2) адз. зах. 73, с. 5; 3) адз. зах. 12, с. 51.

**«Вёслы мае разрываюць ноч...»** (с. 160)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 70.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 73, с. 4, з пазнакай: *30 ліст. 70 г. Ужо нават снежня*; 2) адз. зах. 12, с. 52.

Машынапіс — у БДАМЛМ, ф. 42, воп. 1, спр. 629, с. 78.

**«І тады закахалася хмара...»** (с. 160)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1982. С. 146.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 89, с. 9, з датай і месцам напісання: *26 ліст. 81 г. 9.45. П. м.*; 2) адз. зах. 12, с. 53.

**Наследаванне Байрану** (с. 161)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1982. С. 143.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 88, с. 1, з датай: *27 крас. 81 г.*; 2) адз. зах. 12, с. 54.

*Байран Джордж Ноэл Гордан* (1788 — 1824) — англійскі паэт-рамантык.

**«Закувала зязюля у лесе празрыста-зялёным...»** (с. 161)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1974. С. 64.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 12, с. 55; 2) адз. зах. 75, с. 8.

**«Над полем месяц двухрогі...»** (с. 162)

Упершыню — у кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 74.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 12, с. 56.

**«Ў бездарожжа для тых, каму шчасціць...»** (с. 163)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 75.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 88, с. 5, з пазнакай: *8 ліпеня 82 г. 19.10. Жонцы ў бальніцу.*

*Свет повен мною, як шар зямны вадою,*
*А я не магу падаць табе глытка вады.*

2) адз. зах. 12, с. 57, з пазнакай: *Пасля развітання — і 8 ліпеня 82 г. 19.10.*

**«Данеслі добрыя людзі...»** (с. 163)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1982. С. 143 — 144.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 86, с. 4, з датай і месцам напісання: *3 жн. 80 г. 17.15, Друск.*; 2) адз. зах. 12, с. 58, з датай і месцам напісання: *3 жніўня 80 г. 17.15, Друскенікі.*

Верш напісаны ў санаторыі «Беларусь» у Друскінінкаі (Літва).

**Стары певень** (с. 164)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1984. С. 140 — 141.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 91, с. 1, з датай*: 4 лютага 84 г. 16.11*; 2) адз. зах. 12, с. 59.

**Ворыва на валах** (с. 165)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1980. С. 91 — 92.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 75, с. 7, з датай і месцам напісання: *27 чэрвеня 73 г. 19.35. Мінск*; 2) адз. зах. 75, с. 5 — 6 адв.; 3) адз. зах. 12, с. 60.

**Домік Багдановіча** (с. 166)

Упершыню — часоп. «Полымя», 1971, № 3, с. 114, першыя 9 радкоў.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 66, с. 1, з датай і месцам напісання: *Сакавік — 3 снежня. Ялта — Мінск.*

**Бекеш, або Ода Ерасі** *(Балада 1555 года)* (с. 167)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 81 — 82.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 73, с. 6, пад назвай «Бекеш, або Ода Ерасі», з датай і месцам напісання: *Студзень 66 — 3 снежня 70 г. Рагачоў — Мінск*; 2) адз. зах. 12, с. 62 — 63.

*Бекеш Каспар* (1520 — 1579) — палітычны і ваенны дзеяч, беларускі мысліцель. Вакол яго групаваліся прыхільнікі антытрынітарызму. Паводле сведчання сучаснікаў, Бекеш не вызнаваў ніякай рэлігіі. Калі ён памёр у Гродне, каталіцкая і праваслаўная цэрквы забаранілі хаваць яго на сваіх могілках; пахаваны ў Вільні на высокім беразе ракі Вільня. Паводле наказу Бекеша, на яго надмагіллі высечаны надпіс: «...Не веру ў Бога, не прагну яго неба, не баюся пекла, не турбуюся пра Божы суд, не трывожуся пра цела і тым больш пра душу, якая памерла разам са мною...»

**Павешаным 1863 года** (с. 168)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 83.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 86, с. 1, пад назвай «Павешаныя 1863-га» і датай: *28 — 29 студзеня 80 г. 0 г. 20 хв.*; 2) адз. зах. 12, с. 64, пад назвай «Павешаным 1863 года» і датай: *28 — 29 ст. 80 г. 0 г. 20 хв.*

**Смяротная страта** (1 сакавіка 1881 г.) (с. 169)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 84 — 85.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 91, с. 7, з датай: *9 лютага 84 г. 17.05*; 2) адз. зах. 12, с. 65.

*Грынявіцкі Ігнат* (1855, паводле іншых звестак 1856 — 13.03.1881) — рэвалюцыянер-нарадаволец. З 1879 г. член партыі «Народная воля», адзін з заснавальнікаў яе беларускай фракцыі ў Пецярбургу і нарадавольскай «Рабочей газеты». Паводле рашэння выканкама «Народнай волі» ўваходзіў у групу, якая рыхтавала замах на цара. 1(13) сакавіка 1881 г. кінутай бомбай забіў цара Аляксандра II і смяротна параніў сябе.

**Цар-гармата** (с. 170)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 86 — 91.

Рукапіс у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 47, с. 17 — 17 адв.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 12, с. 66 — 69.

**Раманс пра караля, што пакінуў трон** (с. 173)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 92 — 93.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 89, с. 7 — 8, з датай і месцам напісання: *25 ліст. 81 г. 21.20. П. мог.* 2) адз. зах. 12, с. 70.

**Глухі геній** (Гоя) (с. 175)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Беларусь, 1971. С. 134 — 136.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 12, с. 71 — 72.

*Гоя, Гоя-і-Лусьентэс Франсіска Хасэ дэ* (1746 — 1828) — іспанскі жывапісец, гравёр.

**«Не злабіся на ерэтыкоў...»** (с. 176)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 96.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 89, с. 9, у нізцы «Запаветы сабе», з датай*: 26 ліст 81 г. 11.37*; 2) адз. зах. 12, с. 73.

**Беларускае мінулае** (с. 177)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 97.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 89, с. 4, з датай: *21 ліст. 81. 13.43*; 2) адз. зах. 12, с. 76.

**«Што такое ёсць справядлівасць...»** (с. 177)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 98.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 89, с. 5, з датай і месцам напісання: *23 ліст. 81 г. 12 г. 5 х. Паўн. м.*; 2) адз. зах. 12, с. 75.

**«З амбона хтось крычаў пра шлях да раю...»** (с. 178)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1982. С. 147.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 89, с. 4, з датай: *21 ліст. 81. 13 г.*; 2) адз. зах. 12, с. 76.

**Былому другу** (с. 178)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 100.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 83, с. 4, з датай: *21 ліст. 81. 13.25*; 2) адз. зах. 12, с. 77.

**Склероз** (с. 178)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1982. С. 147.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 89, с. 5, з датай і месцам напісання*: 23 ліст. 81 г. 12 г. 7 хв. П. м.*; 2) адз. зах. 12, с. 78.

**Арарацкая даліна** (с. 179)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 102.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 89, с. 10, з датай і месцам напісання: *26 ліст. 81 г. 20 г. 53 хв. П. м.*; 2) адз. зах. 12, с. 79.

**Армянскія ананімныя прытчы** *(Вольныя пераклады)* (с.179 )

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1982, с. 144 — 145, пад назвай «Два наследаванні сярэдневяковым прытчам».

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) верш «Наследаванне старажытнаармянскаму» («Воўк авечкам сказаў...») — адз. зах. 90, с. 1; верш «Ганарылася стронга перад печкуром...» — адз. зах. 89, с. 6, з датай: *23 ліст. 81 г. 13.58*; 2) адз. зах. 12, с. 80.

**Пяць струкоў перцу** (с. 180)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 105.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 89, с. 7, з датай: *25 ліст. 81. 9.55*; 2) адз. зах. 12, с. 81.

**«Старайся (але, вядома, не ка́ту)...»** (с. 181)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 106.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 12, с. 82, з датай і месцам напісання: *16 г. 20. 24 вер. 79 г. Піцунда.*

Верш напісаны ў Доме творчасці Саюза пісьменнікаў СССР у Піцундзе (Абхазія).

**Хан і табіб** (с. 181)

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст. літ., 1984. С. 143.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 91, с. 5 адв., з датай: *8 лютага 84 г. 21.03 — 9 лютага. 10.24*; 2) адз. зах. 12, с. 83.

**Прарок**

*(Маналог Кастуся з ІІІ акта трагедыі «Кастусь Каліноўскі»)*
(с. 181)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 109 — 110.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 57, с. 4, з датай і месцам напісання: *3.IV.65, Шагол*; 2) адз. зах. 12, с. 84, з прысвячэннем Генадзю Кісялёву і датай: *3 красавіка 65 г.*

Машынапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 10, с. 153 — 155; 2) адз. зах. 11, с. 207 — 209.

*Кісялёў Генадзь* (1931 — 2008) — беларускі гісторык, літаратуразнавец, пісьменнік, археограф, кандыдат гістарычных навук (1964), доктар філалагічных навук (1934).

*Шагол*, гл. каментарый да верша «Пры смерці».

**Дэман** (с. 183)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 111 — 112.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 56, с. 2, з датай: *13.III.62, 2 г. ночы.*

Машынапісы: у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 6, с. 66 — 67; 2) адз. зах. 10, с. 161 — 162; 3) адз. зах. 12, с. 85 — 86; 4) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 21, с. 5 — 6.

**Віно дажджоў** *(Малая паэма)* (с. 184)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 113 — 117.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 30 — 31, з датай і месцам напісання*: 5 жніўня 64 г., Рагачоў.*

Машынапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, з прысвячэннем Рыгору Барадуліну: 1) адз. зах. 12, с. 87 — 91; 2) адз. зах. 58, с. 1 — 5.

*Барадулін Рыгор* (нар. у 1935 г.) — беларускі паэт, перакладчык, народны паэт Беларусі (1992).

*...Заўтра Янка ліст напіша...*— Брыль Янка, гл. каментарый да верша «Бахайская чарапаха».

*Ладысь* — відаць, Уладзімір Калеснік, гл. каментарый да верша «Белавежскі алень».

*Сяргей* (нар. у 1952 г.) — сын Грынкевіча Ігара Васільевіча (1908 — 1985), брата маці У. Караткевіча; жыў матчын брат з сям'ёй у Рагачове, у хаце, пабудаванай В. Ю. Грынкевічам, дзедам пісьменніка.

*Галіна* (1923 — 2001) — жонка І. В. Грынкевіча.

*Ты ж, Георгій, як далёкі, але вечна блізкі госць...* — Вылчаў Георгій (нар. у 1926 г.) — балгарскі літаратуразнаўца і перакладчык, які ў той час наведаў Беларусь і гасцяваў у Рагачове ў І. В. Грынкевіча. У паэме згадваецца і як Юрась.

*...І яшчэ за Аляксандра, за яго знішчальны смех...* — Міланаў Аляксандр (1935 — 2006) — балгарскі паэт. У. Караткевіч перакладаў яго вершы.

*Мальдзіс Адам*, гл. каментарый да верша «Амаль хрысціянскі тост за ворагаў».

**Гулянка ў дэкарацыях** *(Малая паэма)* (с. 188)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 118 — 121.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, пад назвай «П'янка ў дэкарацыях»: 1) воп. 1, адз. зах. 7, с. 4 адв., з датай і месцам напісання: *1 крас. — 18 вер. 67 г., Панізоўка — Мінск*; 2) воп. 2, адз. зах. 64, с. 1 — 3, з датай і месцам напісання: *1 крас. — 18 вер. Панізоўка — Мінск 67 г.*

*Панізоўка*, гл. каментарый да верша «О, якое цёплае, цёплае, цёплае мора...».

**Паэма пра явар і каліну** (с. 191)

Упершыню — кн. «Быў. Ёсць. Буду.», с. 122 — 130.

Рукапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2: 1) адз. зах. 76, с. 1 — 4, з датай і месцам напісання*: Юрмала — Пумпуры. 19 жніўня 76 г.*; 2) адз. зах. 76, с. 5 — 11, пад назвай «Балада пра явар і каліну», з датай і месцам напісання: *Верасень — 1976, 12.20 ночы, Гагра*; 3) адз. зах. 12, с. 97 — 103.

Машынапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 76: 1) с. 12 — 22; 2) с. 23 — 33, пад назвай «Балада пра явар і каліну»; 3) с. 34 — 44.

*Давыд Гарадзенскі* (? — 1326) — ваенны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ, галоўны ваявода вялікага князя Гедзіміна. У нямецкіх хроніках называецца кашталянам або старастам Гродзенскага замка і зяцем Гедзіміна, у пскоўскім летапісе — князем. На думку В. М. Тацішчава, быў сынам пскоўскага князя Даўмонта. Упершыню ўпамінаецца ў хроніцы П. Дусбурга ў 1314 г., калі паспяхова ўзначальваў абарону Новагародка супраць крыжакоў Тэўтонскага ордэна. У 1319 г. узначальваў паход войска ВКЛ у Прусію, у 1323 г. двойчы прыходзіў на дапамогу Пскову ў яго барацьбе з Даніяй і Лівонскім ордэнам, а таксама зрабіў паход у Добжынскую зямлю ў Польшчы, у 1324 г. — у Мазовію, у 1326 г. дапамагаў польскаму каралю Уладзіславу Лакетаку супраць маркграфства Брандэнбург (Германія). У апошнім паходзе па-здрадніцку забіты мазавецкім рыцарам, верагодна, падкупленым крыжакамі.

*Юрмала* — горад у Латвіі, на беразе Балтыйскага мора, дзе быў Дом творчасці Саюза пісьменікаў СССР.

Твор завершаны ў Доме творчасці Саюза пісьменнікаў СССР у Гагры (Абхазія).

**Плошча Маякоўскага** *(Паэма)* (с. 198)

Упершыню — кн. «Нельга забыць». Мінск: Маст. літ, 1982. С. 140 — 148.

Рукапіс — у ЦМАМЛС, ф. 113, воп. 1, спр. 352, с. 1 — 4 адв., з датай: *13.X.59.* Упершыню гэты варыянт рукапісу — кн. «Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы», с. 150 — 158.

Машынапісы: 1) у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 72, с. 1 — 12; 2) у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 2, спр. 15, с. 10 — 20.

**Грубае і ласкавае** *(Паэма)* (с. 207)

Упершыню — кн. «Нельга забыць», с. 170 — 182.

Рукапіс — у ЦМАМЛС, ф. 113, воп. 1, спр. 352, с. 34 — 38 адв., з датай: *10.XI.59.*

Машынапісы — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 7: 1) с. 1 — 18; 2) с. 19 — 36, пад назвай «Грубае і ласкавае» (Паэма Грынкевіча).

*Сірын* — у міфалогіі ўсходніх славян фантастычная птушка з галавой дзевы, мілагучным голасам і незвычайнай прыгажосцю.

Заслухаўшыся яе спевамі, мараходы засыналі, караблі, якія страцілі кіраванне, разбіваліся аб скалы, а людзі станавіліся здабычай Сірын. Лічылася, што калі чалавек пачуе спевы Сірын на сушы, то, зачараваны, забыўшыся пра ўсё на свеце, ідзе за гэтай фантастычнай істотай да таго часу, пакуль не памрэ. Правобразам Сірын хутчэй за ўсё былі старажытнагрэчаскія сірэны.

**Масква — Вечнасць** (с. 221)

Упершыню — кн. «Нельга забыць», с. 234 — 237.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 53, с. 6 — 6 адв.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 72, с. 20.

**«Дваццаты век, цень верталёта...»** (с. 224)

Упершыню — кн. «Нельга забыць», с. 263 — 264.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 53, с. 5 — 5 адв., з датай: *31 ст. 61 г. Поўнач.*

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 72, с. 21 — 22.

*Суцін Хаім* (1893 або 1894 — 1943) — французскі мастак беларускага паходжання, прадстаўнік парыжскай школы.

*Халс, Гальс Франц* (паміж 1581 і 1585 — 1666) — галандскі жывапісец.

*Манэ Клод* (1840 — 1926) — французскі мастак, адзін з заснавальнікаў імпрэсіянізму.

*Пікасо, Пікаса Пабла*, гл. каментарый да верша «Песня колаў».

**Рагнарадзі** (с. 225)

Упершыню — кн. «Нельга забыць», с. 332 — 335.

Рукапіс — у АРКІР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 53, с. 1 — 2, з датай: *Сакавік 60 г.*

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 72, с. 13 — 16.

На аснове скандынаўскага міфа пра гібель свету і пра яго далейшае адраджэнне У. Караткевіч у вершы «Рагнарадзі» ўвасобіў думку пра ідэальнае, гарманічнае і справядлівае грамадства, паглыбіўся ў разуменне ўласнай постаці і ўвогуле быцця.

## ПАЭТЫЧНЫЯ ТВОРЫ 1961 — 1984 гадоў, ЯКІЯ НЕ ЎВАЙШЛІ Ў ЗБОРНІКІ ПАЭЗІІ

**Вуліца Касманаўтаў** (с. 229)

Друкуецца паводле часоп. «Полымя», 1962, № 3, с. 80 — 81, дзе ўпершыню апублікаваны.

Рукапіс — у БДАМЛМ, ф. 56, воп. 1, спр. 20, с. 1, з датай і месцам напісання: *30.XII.61. Орша.*

**Прыйдзі!** (с. 230)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 42, с. 2.

Упершыню — Зб. тв. У 8 т. Мінск: Маст. літ., 1987. Т. 1. С. 359.

**Приди!** (с. 231)

Друкуецца паводле машынапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 42, с. 5, з датай: *11 лютага 62 г.*

**«Чым прагнявіла ты Бога? І чым раззлавала...»** (с. 232)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 114, с. 1, з датай і месцам напісання: *1.III.62. Масква.*

Іншы варыянт «Чым угнявіла ты Бога? І чым раззлавала...» — верш Алеся Загорскага ў фінале рамана «Каласы пад сярпом тваім».

**Пародыі (З Рыгорам Барадуліным)**
«Сук Дазор і сучка Джэры...»
«Гэй, да сонца, гэй, да зор...» (с. 233)

Друкуюцца паводле артыкула Р. Барадуліна «І коскі з месца не зрушу!..», які змешчаны ў яго кнізе «Аратай, які пасвіць аблокі». Мінск: Маст. літ., 1995. С. 179 — 180.

Першая пародыя — на сабак Дома творчасці Саюза пісьменнікаў БССР «Каралішчавічы», другая — на верш Янкі Купалы «Гэй, наперад!».

**Людзі з маланкай** (с. 233)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў аксамітным сямейным альбоме Валянціна Краўца, з прысвячэннем Вальку і Сцепанчуку.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1990, № 11, с. 23.

Машынапісы — у БДАМЛМ: 1) ф. 56, воп. 1, спр. 21, с. 13 — 15, з прысвячэннем В. К. і У. С.; 2) ф. 37, воп. 1, спр. 298, с. 48 — 50, з прысвячэннем В. К. і У. С.

*Кравец Валянцін*, гл. каментарый да верша «Пра шчасце», т. 1, с. 504.

*Сцепанчук Уладзімір* (1928 — 1982) — беларускі вучоны ў галіне электратэхнікі, доктар тэхнічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Беларусі (1980). Працаваў на кафедры прамысловай цеплаэнергетыкі Беларускага політэхнічнага інстытута.

**«Не верыш зіме за сваім акном...»** (с. 235)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў аксамітным сямейным альбоме Валянціна Краўца, з прысвячэннем Галі і Вальку і датай: *9 снежня 62 г.*

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1990, № 11, с. 23.

*Кравец Валянцін*, гл. каментарый да верша «Пра шчасце», т. 1, с. 504, пра яго жонку *Галіну* — каментарый да верша «Жаданая», т. 1, с. 511.

**Маналог маці** *[Верш да трагедыі «Кастусь Каліноўскі»]* (с. 235)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 70, с. 1.

**Маціцовыя слёзы** (с. 237)

Друкуецца паводле машынапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 10, с. 108 — 110.

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 373 — 374.

Рукапіс захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 57, с. 5 — 5 адв., з датай і месцам напісання: *22 крас. 65 г. Шагол.*

*Маціца* (уст.) — перламутр.

*Шагол*, гл. каментарый да верша «Пры смерці».

**«Следапыт гістарычных палёў...»** (с. 238)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве Генадзя Кісялёва, змешчаны ў лісце да яго за 6 ліпеня 1965 г., з малюнкам, дзе намаляваны тарэадор і карова, якая на яго нападае (там змешчаны таксама іншы варыянт тэксту і крыху адрозны малюнак). На карове надпіс: ілжэгістарычная школа.

*Кісялёў Генадзь*, гл. каментарый да твора «Прарок» (Маналог Кастуся з III акта трагедыі «Кастусь Каліноўскі»).

**Паланэз Агінскага «Развітанне з Радзімай»** (с. 239)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 95, с. 1 — 1 адв. Тамсама, с. 2, захоўваецца іншы рукапіс, які мае пазнаку: *Сэнс будучага тэкста для «Паланэза Агінскага» (Смаргонскі хор).*

Упершыню — урыўкі, часткова — газ. «Голас Радзімы», 2009, 17 верас., с. 2; поўнасцю — часоп. «Роднае слова», 2010, № 8, с. 92 — 93.

**«Месяц над садам, ад квецені белым...»** (с. 240)

Друкуецца паводле часоп. «Полымя», 1971, №3, с. 114, дзе ўпершыню апублікаваны.

Рукапіс — у асабістым архіве пісьменніка, з датай і месцам напісання: *4 мая 1966 г. Поўнач. Рагачоў.*

**Прыморская танка** (с. 241)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 61, с. 2.

**«Тая жонка, якую ведаў...»** (с. 241)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 61, с. 4.

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 375.

**«За чорнаю ружай ідзі ўсцяж дарог...»** (с. 242)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 61, с. 3, з датай і месцам напісання: *8 кастрычніка 1966 г. Рагачоў.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 376.

**«Вільня. О Вільня! Гару, як салома!..»** (с. 242)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве пісьменніка, у жоўтым нататніку, з датай і месцам напісання: *11 студзеня 67. Вільня, «Нерынга», 22 пакой, 23.20.*

**Мінску** (с. 243)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве пісьменніка, у жоўтым нататніку.

**За перавал, сябрам** (с. 243)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 62, с. 2, з датай і месцам напісання: *19 сакавіка 67, Ялта.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 375 — 376.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 11, с. 115.

**Бывай!** (с. 244)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 3, з датай і месцам напісання: *Сакавік — 4 ліпеня 67 г. Мінск.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 376 — 377.

Іншы рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 62, с. 4.

**«Зацвітае дрэва Іудзіна...»** (с. 245)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 62, с. 3, з датай і месцам напісання: *6.IV.67, Ялта.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 377 — 378.

Машынапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 11, с. 136 — 137.

**«Няхай шчасця гадзіны...»** (с. 246)

Друкуецца паводле надпісу, выгравіраванага на манаграме насценнага гадзінніка — вясельнага падарунка Вячаславу Рагойшу і Таццяне Кабржыцкай, з датай: *7.11.1967 г.* і подпісамі: У. Караткевіч, А. Мальдзіс, М. Прашковіч, С. Панізнік. Захоўваецца ў асабістым архіве Вячаслава Рагойшы і Таццяны Кабрыжыцкай.

*Рагойша Вячаслаў*, гл. каментарый да верша «Скарына пакідае радзіму».

*Кабржыцкая Таццяна* (нар. у 1941 г.) — беларускі літаратуразнавец, крытык, кандыдат філалагічных навук (1971). Працуе дацэнтам кафедры славянскіх літаратур Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**Эпіталама Таццяне і Славе** (с. 246)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве Вячаслава Рагойшы, з датай і месцам напісання: *8 лістапада 1987 года. Ракаў* і подпісамі: У. Караткевіч, А. Мальдзіс, Я. Семяжон, Н. Гілевіч, Л. Акаловіч, М. Прашковіч, С. Панізнік, Ф. Янкоўскі і інш.

Упершыню — кн. В. Рагойшы «Тэорыя літаратуры ў тэрмінах». Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2001. С. 363.

*Эпіталама* — урачыстая вясельная песня ў гонар жаніха і нявесты.

**«Скрыпка ціхая ночы. Дрымотная музыка ночы...»** (с. 246)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 12, з датай і месцам напісання: *15 крас. — май 68 г. Гурзуф — Брэст.*

**Май** (с. 247)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 63, с. 7, з датай: *май — 12 вер. 69 г.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 378.

**«Мы не ўпершыню, Адась Каханы...»** (с. 247)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 74, с. 12.

Паэтычны экспромт на выданне кнігі А. Міцкевіча «Зямля навагрудская, краю мой родны...» (Мінск, 1969), якую ўклаў А. Мальдзіс і ў якой змешчаны таксама пераклад паэмы «Мешка. Князь Навагрудка» (Наследаванне Вальтэру), зроблены з польскай мовы У. Караткевічам.

*Міцкевіч Адам*, гл. каментарый да верша «Раманс Марылі».

*Мальдзіс Адам*, гл. каментарый да верша «Амаль хрысціянскі тост за ворагаў».

*Чачот Ян* (1796 — 1847) — беларускі і польскі паэт, фалькларыст, этнограф.

*Мілавідская бітва* паміж паўстанцамі і расійскімі войскамі ў час паўстання 1863 — 1864 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве. Адбылася 3 чэрвеня 1863 г. каля вёскі Мілавіды (цяпер Баранавіцкі раён) Брэсцкай вобласці.

**«Ў золь і туман Вы святло мне і радасць...»** (с. 248)

Друкуецца паводле надпісу на авантытульнай старонцы зборніка вершаў У. Караткевіча «Мая Іліяда» (1969), падараванай Галіне Шаранговіч, з датай і месцам напісання: *29.X.70 г. Мінск. Пляцоўка выдавецтва.* Захоўваецца ў асабістым архіве Галіны Шаранговіч.

Упершыню — кн. В. Шаранговіча «Ген жыцця». Мінск: Кнігазбор, 2009. С. 314.

Іншы рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 74, с. 13.

Прысвечаны *Галіне Шаранговіч* (нар. у 1940 г.), жонцы народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча. У 1970 г. яна працавала рэдактарам у выдавецтве «Беларусь», у 1972 — 1996 гг. — старшым рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

**Каляднае віншаванне Максіму Танку** (с. 249)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў БДАМЛМ, ф. 25, воп. 2, спр. 66, с. 20.

*Танк Максім*, гл. каментарый да верша «Мы».

**«О, ілюстрысіме Грынчык, ў дзень гэты светлы...»** (с. 250)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 74, з пазнакай: *8.V.70. Панядз. 12 г. Скарына, Зюзя.*

Віншаванне М. Грынчыка ў сувязі з абаронай ім доктарскай дысертацыі.

*Грынчык Мікола*, гл. каментарый да верша «Па-над шчыраю Шчарай, над шчодраю Шчарай...».

*Быцень* — вёска ў Івацэвіцкім раёне Брэсцкай вобласці, дзе нарадзіўся М. Грынчык. Размешчана каля ракі Шчара.

*Пшыркоў Юльян* (1912 — 1980) — беларускі літаратуразнавец, крытык, доктар філалагічных навук (1962), прафесар (1964), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1978).

**Армянскі матыў** (с. 250)

Друкуецца паводле часоп. «Полымя», 1971, № 3, с. 115, дзе ўпершыню апублікаваны.

Машынапіс — у БДАМЛМ, ф. 42, воп. 1, спр. 629, с. 79.

**На вуліцы Дэшчовай** (с. 251)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 75, с. 1, з прысвячэннем Здзіславу Нядзелю, датай і месцам напісання: *16 снежня 71. Кракаў.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 380.

*Нядзеля Здзіслаў* (1931 — 1996) — прафесар Ягелонскага (Кракаўскага) універсітэта. Нарадзіўся ў вёсцы Празарокі Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Яшчэ перад вайной апынуўся з бацькамі далёка ад родных мясцін. Пазнаёміўся з У. Караткевічам 11 ліпеня 1969 г. у Мінску на кватэры беларускага літаратуразнаўца, крытыка,

публіцыста, празаіка, прафесара Адама Мальдзіса. Па запрашэнні З. Нядзелі ў лістападзе — снежні 1971 г. У. Караткевіч наведаў Польшчу. У далейшым яны наведвалі адзін аднаго, ліставаліся.

**Вакол хейнала** (с. 252)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 75, с. 4.

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 381 — 382.

Іншы рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 75, с. 2 — 2 адв.

**Ода на ўрачысты дзень шлюбаспалучэння ягонай панскае мосці гаспадара Лапуця і гаспадыні ягонай правялебнай — ад сённяшняга дня — пані Лапуцёвай** (с. 253)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 74, с. 16.

*Лапуць Віктар Антонавіч* (1931 — 1994) — горны інжынер-геолаг, кандыдат геолага-мінерагічных навук (1962). У 1957 — 1958 гг. — аспірант Інстытута геалагічных навук АН БССР, галоўны інжынер, старшы навуковы супрацоўнік, загадчык лабараторыі геахіміі Беларускага навукова-даследчага геолага-разведачнага інстытута, з 1975 г. — у Цэнтральнай геафізічнай экспедыцыі Упраўлення геалогіі БССР. Вывучаў залежы нафты Прыпяцкага прагібу. У. Караткевіч называў яго «бацькам беларускай нафты».

**[Віншаванне В. Рагойшу да яго 30-годдзя]** (с. 254)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве Вячаслава Рагойшы, з датай і месцам напісання*: 5 чэрвеня 1972 г., г. Менск.*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 2002, 14 чэрв., с. 13.

*Рагойша Вячаслаў*, гл. каментарый да верша «Скарына пакідае радзіму».

**Дом сябра** (с. 255)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве Адама Мальдзіса. Напісаны да 500-годдзя горада Астраўца ў 1974 г.

Упершыню — часоп. «Беларусь», 1976, № 7, с. 10.

Іншы рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 75, с. 9.

*Мальдзіс Адам*, гл. каментарый да верша «Амаль хрысціянскі тост за ворагаў».

**[Навагодняе пасланне В. Рагойшу]** (с. 255)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве Вячаслава Рагойшы, з пазнакай: *Твае Валодзя і Валя. 30.XII.75.*

Рукапіс — на дасланай В. Рагойшу навагодняй віншавальнай паштоўцы з выявай Дзеда Мароза. Крыўда У. Караткевіча была выклікана тым, што В. Рагойша парушыў традыцыю — сустракаць Новы год у сяброўскім застоллі — і паехаў у Львоў, да бацькоў жонкі.

*Рагойша Вячаслаў*, гл. каментарый да верша «Скарына пакідае радзіму».

**Ода их высокой лучезарности, кавалеру высшего ордена вселенной, именуемого «Спина в солнце», В. С. Рудову в день его славного юбилея** (с. 256)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 74, с. 2, з датай і месцам напісання: *17 декабря 76 г. Дубулты.*

*Рудаў Веньямін* (17.12.1914 — 25.6.1999) — беларускі пісьменнік.

Верш напісаны да яго 60-годдзя ў Доме творчасці Саюза пісьменнікаў СССР у Дубултах (Латвія).

**«Генадзь, княж Васілёў, сын Кісялёў... »** (с. 257)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве Генадзя Кісялёва, з допісам: «У маім маўчанні ёсць крык, але зрыфмаваць яго не магу — празаік Вяч. Адамчык». Гэтыя надпісы размешчаны на авантытульнай старонцы «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» (Мінск, 1977, т. 1), які падаравалі Г. Кісялёву і падпісалі У. Караткевіч і В. Адамчык.

*Кісялёў Генадзь*, гл. каментарый да твора «Прарок» (Маналог Кастуся з ІІІ акта трагедыі «Кастусь Каліноўскі»).

*Адамчык Вячаслаў* (1933 — 2001) — беларускі пісьменнік.

**Аўтацытата** (с. 258)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве Васіля Быкава, з пазнакай: *2 ліпеня 79 г. Друскенікі.*

Рукапіс — на паштоўцы з выявай карціны М. Чурлёніса «Саната сонца. Фінале», 1907 г. Дасланы У. Караткевічам з санаторыя «Беларусь» у Друскінінкаі (Літва), дзе пісьменнік лячыўся.

*Быкаў Васіль*, гл. каментарый да верша «Дрэва на Чатырдагу».

**«Калі побач Сацішур...»** (с. 258)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 77, с. 4, з прысвячэннем: Я. А. Сацішуру, хірургу Лечкамісіі, датай і месцам напісання*: 8 верасня 77 г. Лечкамісія.*

*Сацішур Яўген Аляксеевіч* (нар. у 1935 г.) — хірург Лечкамісіі (у той час афіцыйная назва — Рэспубліканская бальніца 4-га Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР, цяпер — Дзяржаўнае ўпраўленне «Рэспубліканскі клінічны цэнтр» Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь), кандыдат медыцынскіх навук.

**На выгнанне з Лечкамісіі Ул. Караткевіча** (с. 259)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 77, с. 5, з датай: *16 верасня 77 г.*

**Песня красавицы из города на Неве, посвященная врачам Минской Лечкомиссии** (с. 259)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 77, с. 3, з датай: *24 августа 78 г.*

*Ярашэвіч Аляксандр Аляксандравіч* (1926 — 2012) — хірург Лечкамісіі.

*Шчэрба Яўген Кузьміч* (1931 — 2011) — уролаг Лечкамісіі.

*Кавалеўскі Вячаслаў Іванавіч* (нар. у 1931 г.) — хірург Лечкамісіі.

**Медсестрам Лечкомиссии в ответ на просьбу написать про них «злые стихи»** (с. 260)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 77, с. 2.

**«Афіцэрскі вальс»** («Туркменфільм») (с. 260)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 78, с. 3. На той жа старонцы ёсць рукапіс верша беларускага пісьменніка Алеся Савіцкага «Офицерский вальс», які мае пазнаку: Пицунда. 12 октября 1979 г.

**Надпісы на фатаграфіях (піцундскіх), падораных В. Быкаву і А. Савіцкаму** (с. 260)

Першыя 19 надпісаў друкуюцца паводле рукапісаў, якія захоўваюцца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 82, с. 1 — 2, апошнія 9 — паводле рукапісаў, якія захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, КП 10375/134, 136, 142, 144, 149, 153, 170, 174, 179 (рукапісы «Энергіі збытак у жылах клякоча...»

і «Я маю права на ўсё бурчаць...» захоўваюцца і ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 82, с.1 — 1адв.).

Упершыню 9 апошніх надпісаў — у зборніку навуковых артыкулаў «Да 80-годдзя народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава». Мінск, 2005. С. 21 — 22.

Гэтыя надпісы на фатаграфіях узніклі ў кастрычніку 1979 г., калі У. Караткевіч адпачываў з жонкай Валянцінай (1934 — 1983) у Доме творчасці Саюза пісьменнікаў СССР у Піцундзе. Там жа ў той час адпачывалі беларускія пісьменнікі Васіль Быкаў з жонкай Ірынай, Алесь Савіцкі і Павел Марціновіч.

*Быкаў Васіль*, гл. каментарый да верша «Дрэва на Чатырдагу».

*Савіцкі Алесь* (нар. у 1924 г.) — беларускі пісьменнік.

*Марціновіч Павел* (нар. у 1954 г.) — беларускі паэт, перакладчык.

**Наследаванне Сыракомлю** (с. 266)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 81, с. 2, з датай і месцам напісання: *4 лістапада 79 г. 18.35*, *Мінск* і надпісам літаратуразнаўца А. Мальдзіса алоўкам на левым полі старонкі: «Раскрыць містыфікацыю толькі ў XXI стагоддзі!»

*Сыракомля Уладзіслаў* (сапр. Кандратовіч Людвік; 1823 — 1863) — польскі і беларускі паэт.

**Генадзю Кісялёву** (с. 267)

Друкуецца паводле рукапісу, надпісу на фотаздымку, які захоўваецца ў асабістым архіве Генадзя Кісялёва.

*Кісялёў Генадзь,* гл. каментарый да твора «Прарок» (Маналог з III акта трагедыі «Кастусь Каліноўскі»).

**Эпіграмы**

Уладзіміру Калесніку (с. 267)

Друкуецца паводле артыкула У. Калесніка «Неспакойны Пегас», які змешчаны ў яго кнізе «Усё чалавечае». Мінск: Маст. літ., 1993. С. 100.

*Калеснік Уладзімір*, гл. каментарый да верша «Белавежскі алень».

У. Калеснік правёў 2 лістапада 1967 г. у Брэсцкім педагагічным інстытуце імя А. С. Пушкіна абмеркаванне рамана «Каласы пад сярпом тваім» з удзелам аўтара. Тады У. Караткевіч пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Валянцінай, выкладчыцай Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна.

Надпіс на дзвярах кінастудыі (с. 268 )
Сцяпану Гаўрусёву (с. 268)

Эпіграмы «Надпіс на дзвярах кінастудыі» і «Сцяпану Гаўрусёву» друкуюцца паводле кнігі «Анталогія беларускай эпіграмы». Уклад. і аўтар прадмовы К. Камейша. Мінск: Маст. літ., 2000. С. 88.

*Гаўрусёў Сцяпан* (1931 — 1988) — беларускі паэт, крытык, перакладчык.

**На Вялікдзень гаспадыні Ядвіні і пану Івану** (с. 268)

Друкуецца паводле рукапісу велікоднага віншавання, што захоўваецца ў асабістым архіве Івана і Ядвігі Навуменкаў, якія жылі ў Мінску ў адным пад'ездзе з сям'ёй У. Караткевіча на вуліцы Карла Маркса, д. 36.

*Навуменка Іван* (1925 — 2006) — беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч, народны пісьменнік Беларусі (1995), акадэмік Нацыянальнай АН Беларусі (1980), член-карэспандэнт (1972), доктар філалагічных навук (1969), прафесар (1971), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1978).

*Навуменка Ядвіга* (1929 — 2000) — беларускі гісторык, кандыдат гістарычных навук (1969), дацэнт (1971). Працавала на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**Эпітафія. Пакараным смерцю ў 1882 годзе** (с. 269)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 86, с. 2, з датай: *29 ст. 80 г. 21 г. 38 хв.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 384.

**Вячаславу Рагойшу ў дзень яго нараджэння** (с. 269)

Друкуецца паводле надпісу на адвароце барэльефа з выявай галавы каня і падковы, падараванага Вячаславу Рагойшу ў дзень яго нараджэння 5 чэрвеня 1980 г. Захоўваецца ў асабістым архіве Вячаслава Рагойшы.

Упершыню — часоп. «Роднае слова», 2002, № 6, с. 93; газ. «Літаратура і мастацтва», 2002, 14 чэрв., с. 13.

*Рагойша Вячаслаў*, гл. каментарый да верша «Скарына пакідае радзіму».

**Бог важдаецца з беларускімі прозвішчамі** (с. 269)

Друкуецца паводле машынапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 87, с. 3, з датай: *10 вер. — 12 кастрычніка 1980 г.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 384 — 385.

Рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 87, с. 1, з датай і месцам напісання: *10 вер. 80 г. Мінск. 19.45.*

**«Лідзія Іванаўна Збралевіч...»** (с. 270)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 74, с. 4.

Вершаванае віншаванне У. Караткевіча, адрасаванае Л. І. Збралевіч, было прымеркавана да яе 50-годдзя.

*Збралевіч Лідзія Іванаўна* (нар. 19.10.1930 г.) — у 1968 — 1991гг. загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, куды ў 1970 і 1981 гг. У. Караткевіч перадаў на захаванне значную частку свайго архіва.

**«Ты не сніся мне, мама...»** (с. 270)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 86, с. 5, з датай: *15 (?).XII.80.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 383 — 384.

**«Агонь з вяршынь — і дом твой, як свяча...»** (с. 271)

Друкуецца паводле рукапісу, атрыманага ад беларускага пісьменніка Дзмітрыя Падбярэзскага (нар. у 1952 г.).

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 385.

Іншы рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 86, с. 6, з пазнакай: *Вы павінны пачаць усё спачатку. І тут вам памочнік Вы сам. Ні Купала, ні Пушкін, ні я. Ніхто.*

**Каляднае віншаванне Васілю і Ірыне Быкавым** (с. 272)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве Васіля Быкава з подпісам: *Валя, Уладзімір.*

*Быкаў Васіль*, гл. каментарый да верша «Дрэва на Чатырдагу».

*Быкава Ірына* (нар. у 1927 г.) — жонка Васіля Быкава.

**«Тут кожны сядаў бы, дзе схоча...»** (с. 272)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 86, с. 6.

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 386.

**«Панна Варшава...»** (с. 273)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 86, с. 7, з пазнакай: *Чалавек, які не хоча паважаць ні мядзведзяў, ні Варшавы.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 387 — 388.

**«Шчасны хай Ваш будзе брод без меры...»** (с. 273)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 74, с. 14.

Напісаны ў гонар Валерыі, пляменніцы жонкі У. Караткевіча, і Сяргея да іх вяселля 21 чэрвеня 1981 г.

*Герасімава Валерыя* (нар. у 1959 г.) — вядучы рэдактар «Экономической газеты», кандыдат эканамічных навук (1987), яе муж *Сяргей* (нар. у 1955 г.) — інжынер.

**Віно армянскай гісторыі** (с. 274)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 89, с. 3 — 4, з датай і месцам напісання: *21 лістапада 81 г. 12.25. Паўн. м.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 386 — 387.

**Стараармянскае, з працягам...** (с. 275)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 90, с. 2.

**Песенька пра выпадак у кафэ** (с. 276)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 89, с. 5, з датай: *21 ліст. 81.*

**Кітай** (с. 276)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 89, с. 6, з датай: *23 ліст. 81 г. 12.15.*

**Вышэйшыя жывёлы, або «Вянец тварэння»** (с. 277)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 89, с. 6, з датай: *23 лістапада 81 г. 13.32.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 388.

*Лоранц З. Конрад* (1903 — 1989) — аўстрыйскі вучоны, адзін з заснавальнікаў эталогіі — навукі пра паводзіны жывёл, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па фізіялогіі і медыцыне (1973, разам з Карлам фон Фрышам і Нікаласам Тынбергенам).

**«Дарогі ўсёй зямлі маёй...»** (с. 277)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 89, с. 8, з датай і месцам напісання: *25 лістапада. 22 г. 58 хв. П. м.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 388 — 389.

**«Аб існаванні подласці й наветаў...»** (с. 278)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 89, с. 9, у нізцы «Запаветы сабе» з датай і месцам напісання: *26 ліст. 81 г. 11.29. П. м.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 389.

**«Стаіць ля ідэі на варце...»** (с. 278)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 89, с. 9, у нізцы «Запаветы сабе» з датай*: 26 ліст. 81 г. 11.40.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 390.

**Як мяне перакладалі на японскую мову, або Летавылічэнне** (с. 279)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 89, с. 10, з датай і месцам напісання: *26 ліст. 81 г. 13.35. П. м.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 390 — 391.

**«Бог пайшоў. Жыццё ідзе пад кручу...»** (с. 280)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве пісьменніка, з датай: *28.I.82 г.*

Упершыню — кн. «Дзень паэзіі». Мінск: Маст літ., 1982, с. 142.

**Прыватная гісторыя** (с. 280)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 88, с. 4, з датай: *4 лютага 82 г. 16.11.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 391 — 392.

**Геніяльнае наследаванне А. Глобусу** (с. 282)

Друкуецца паводле машынапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 78, с. 2, з датай: *26 сакавіка 82 г. 20 г. 39 секунд.*

*Глобус Адам* (сапр. Адамчык Уладзімір; нар. у 1958 г.) — беларускі пісьменнік.

**Юбилейная стихоза несравненной нашей Розе** (с. 282)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў Розы Бяловай, з датай: *8 апреля 1982 года.*

Іншы рукапіс — у АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 74, с. 7 — 8, з датай: *10 крас. 82 г. 2 г. 56 хв.*

Напісаны да 50-годдзя Розы Бяловай (нар. 8.4.1932 г.) — дырэктара Рэспубліканскай школы вышэйшага спартыўнага майстэрства Беларусі. Яе дзень нараджэння адзначаўся ў рэстаране гасцініцы рэспубліканскага спартыўнага комплексу «Раўбічы», што знаходзіцца на паўночным усходзе Мінскага раёна. Яе муж Генадзь Ватковіч (1936 — 2002) — брат жонкі Уладзіміра Караткевіча.

**Славу Рагойшу з лепшымі зычэннямі ў дзень саракагоддзя**
(с. 284)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве Вячаслава Рагойшы, з датай: *5 чэрвеня 1982 г.*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 2002, 14 чэрв., с. 13.

*Рагойша Вячаслаў*, гл. каментарый да верша «Скарына пакідае радзіму».

**Не вер ім** (с. 285)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў асабістым архіве пісьменніка, з датай: *4 жн. 82 г. 17.45.*

**Мінашукальнікі** (с. 286)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 88, с. 6, з датай і месцам напісання: *22 верасня 82 г. 19 г. Піцунда.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 392 — 393.

Напісаны ў Доме творчасці Саюза пісьменнікаў СССР у Піцундзе (Абхазія).

**Радзіме** (с. 286)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 88, с. 7, з датай: *22 верасня 82 г. 19.53.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 393.

**Наташы ў яе шэсцьдзясят** (с. 287)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 88, с. 9, з датай*: 20 лістапада 1982 г.*

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 393 — 394.

Напісаны да 60-годдзя Наталлі Кучкоўскай (20.11.1922 — 24.02. 2003) — старэйшай сястры Уладзіміра Караткевіча.

**«На празрыста-блакітную роўнядзь мора...»** (с. 288)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 88, с. 2.

Упершыню — Зб. тв. у 8 т., 1987, т. 1, с. 395.

**[Эпітафія на помніку жонцы Валянціне Караткевіч]** (с. 288)

Друкуецца паводле надпісу на помніку Валянціне Караткевіч (28.6.1934 — 28.2.1983) на Паўночных могілках у Мінску.

Упершыню — газ. «Беларускі час», 2005, 9 снеж., с. 17.

**Перасталі браць падатак за бяздзетнасць, але не знялі яшчэ з вайсковага ўчоту** (с. 288)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 78, с. 3, з датай: *20 мая 84 г. 12.45.*

**Васілю Быкаву** (с. 289)

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 92.

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1986, 15 жн.

Напісаны да 60-годдзя народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (19.6.1924 — 22.6.2003).

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК [1]



[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

## ЗМЕСТ[1]

### МАЯ ІЛІЯДА



### ЗЯМЛЯ ЖУРБЫ



### СТАРЫЯ СУВОІ



[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

## КАЛІ ПАМІРАЕ КАХАННЕ…



## ІНГА І МАРЫЯ

TAЎРЫДА

ВЯРТАННЕ



БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДУ.

## ПАЭТЫЧНЫЯ ТВОРЫ 1961—1984 гадоў, ЯКІЯ НЕ ЎВАЙШЛІ Ў ЗБОРНІКІ ПАЭЗІІ

**Караткевіч, У. С.**

К21 Збор твораў. У 25 т. Т. 2. Паэзія, 1961—1984 / Уладзімір Караткевіч ; падрыхт. тэкстаў і камент. Анатоля Вераб'я ; рэд. тома Вячаслаў Рагойша.— Мінск : Маст. літ., 2012.— 397 с.

ISBN 978-985-02-1407-2.

У другі том Збору твораў Уладзіміра Караткевіча ўвайшлі паэтычныя творы са зборнікаў «Мая Іліяда» (1969) і «Быў. Ёсць. Буду.» (1986). Асобны раздзел складаюць творы 1961—1984 гг., якія не ўвайшлі ў зборнікі паэзіі.

**УДК 821.161.3-1**

**ББК 84(4Беи)-5**

Літаратурна-мастацкае выданне

**КАРАТКЕВІЧ** Уладзімір Сямёнавіч

ЗБОР ТВОРАЎ
У дваццаці пяці тамах

**Том 2**

*Паэзія*

*1961—1984*

У кнізе выкарыстаны фота з асабістых архіваў
У. Караткевіча і С. Панізніка, з фондаў аддзела рэдкіх кніг
і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі.

Рэдактар *І. М. Паланейчык*
Мастацкае афармленне серыі *В. Г. Паўлавец*
Мастацкі рэдактар *Н. В. Барай*
Тэхнічны рэдактар *Л. С. Зубец*
Стылістычныя рэдактары *М. У. Віцько,*
*М. А. Паддубская, А. М. Анцытовіч*

Падпісана да друку 08.11.2012. Фармат 84×108 $^1/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 21,0 + 0,42.
Улік.-выд. арк. 19,33. Тыраж 2000 экз. Заказ .

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494049 ад 03.02.2009.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск. www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Друкарня “Перамога”».
ЛП 02 № 02330/0494182 ад 03.04.2009. Вул. Таўлая, 11, 222310, Маладзечна.

**Паважаныя чытачы!**

*Выдавецтва «Мастацкая літаратура» працягвае прыватную падпіску на 25-томнае выданне ў 2012—2020 гадах твораў Уладзіміра Караткевіча.*

*У трэці том Збору твораў* ***Уладзіміра Караткевіча*** *будуць уключаны апавяданні і казкі.*

*На трэці том можна падпісацца да 1 мая 2013 года.*
*Кошт трэцяга тома — 53 000 руб.*

Пералік грошай па наступных рэквізітах:
УП «Мастацкая літаратура»,
220004, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11
р/р 3012001483810 аддзяленне № 538 у г. Мінску
ОАО «Белінвестбанку», БІК 153001739
УНП 100055406 ОКПО 02477775
«Падпіска на творы Караткевіча»
Даведкі па тэлефонах 203-83-63, 226-66-16.